Мікола Арочка

# ПАМЯЦЬ ЗЯРНЯТАЎ

ВЫБРАНАЕ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Бел7
А 84

В книгу избранных произведений известного белорусского поэта вошли стихи и поэмы «Материнское жито» и «Курганье», которые возвращают нас к тревожной памяти войны, к тем огненным деревням с трагической судьбой Хатыни, которых так много на Белоруссии. В поэме «Крево» — приглашение к путешествию в эпос родной истории.

А $\frac{4702120202-050}{М 302(03)-91}$ 105—91

ISBN 5-340-00892-4

© М. М. Арочка, 1991



## ВЫМЯРЭННІ МАЙГО СВЕТУ

*Рызыкоўна гэта — пра сябе. Як бы нясціпла. Праўда, ёсць класічныя ўрокі — скажам, прадмовы да сваіх кніжак Францішка Багушэвіча. Не бяруся дацягнуцца да яго ўзору. Зазначу толькі, што мне, можа, і даравальна будзе такая спроба — на штрыхі да ўласнага тварэння свету. Палова майго творчага жыцця аддадзена крытычным асэнсаванням паэзіі сяброў, таварышаў па пяру. Зрэшты, гэта мяне нямала і вучыла на паэта. Разам з самім жыццём. Вядома, вырашальная — іскра боская. З яе — паэтычнае бачанне свету, лірычнае, ліра-эпічнае. З яе — і ўласнае светатварэнне... Але ж раздзьмухаць яе можа толькі абуджаная нацыянальным жыццём вялікая мэта, без якой няма сэнсу асабістага існавання. Калі што ва мне і ўчыніла зрух — ад кволасці першых практыкаванняў — дык гэта досыць рана, са школьных год, спазнаны балючы сум па адраджэнні нацыянальнай, вякамі патаптанай, самасвядомасці беларуса.*

*Мне суджана было апынуцца на вострых зломах вырашальна-цяжкіх гістарычных падзей XX стагоддзя — дыхаць атмасферай нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў нашай Заходняй, трапіць у спісы высялення пры «тых» Саветах, стаяць пад расстрэлам на вогненным партызанскім хутары, падзяляць долю на вачах растаптанага калектывізацыяй гаспадара-селяніна, зведаць хіжа выпушчаныя кіпці «чорнага ворана», накліканага, як гора на матчыну хату, маёй першай свавольнай рыфмай...*

*А потым пранізлівым скразняком дзьмухнула новае дзесяцігоддзе (з сярэдзіны 50-х), з якога пачаўся адлік сапраўдных творчых народзін — і не толькі маіх.*

*Так і стаіць перад вачыма ўвесь той крута-перападзісты драматычны і трагічны мацярык. Пад ім творчую рысу мне ніколі не падвесці. Бачу, як эпічны герой — бохан чорнага хлеба — з вогненнага печыва нашай хаты ідзе па бясконцым шляху надзей, каб ўратаваць свет. Тою ж дарогай — і герой другой маёй паэмы: матчына жыта! А ўслед — і вогненнае Курганне, каб сваёю смерцю прадухіліць смерць. Я сустрэў яе, сястру Хатыні, на Магілёўшчыне — вёску Курганне. Уклаў у яе сімвалічнасць, узвёўшы да яе ўсё, што асабіста перажыў. Тады, падчас пакутлівага выношвання свайго «Кургання», помніцца, я па літаратуразнаўчым рахунку асэнсоўваў вопыт паэмы, у тым ліку і нашай паэмы пра вогненную вёску. Меру патрабавальнасці, з якой я падыходзіў да другіх, я найперш імкнуўся прыкласці да самога сябе, каб узнавіць эпічны свет народнага жыцця ў многіх вымярэннях.*

*Звышзадачай, на якую я, набраўшыся дыху, рызыкнуў, стала наступная драматычная паэма «Крэва». Найпершы, самы круты вузел палітычнай драмы ў гістарычным лёсе нашага народа. Чамусьці я ўжо не асцерагаўся запазычак і пераклічак, пасылаючы ўслед за А. Куляшовым (з яго вяршынна-цудоўным «Хамуціусам»!) сваю ластаўку да Шэкспіра, да яго «Макбета» і «Гамлета». Захоплена і прагавіта ўглядаўся ў драматычна-паэмны вопыт Байрана, Мільтана, Шылера... А калі бліжэй — то і ў трыпціх паэм майго літоўскага сябра і пагодка Ю. Марцінкявічуса («Міндаўгас», «Катэдра», «Мажвідас»). Дзве з гэтых паэм атрымаў, дарэчы, з аўтографам аўтара. І мяне ўразіла, што літоўскі слынны паэт, спакушаны ў драматычна-паэмным жанры, прачытаў мной дасланае — як знак узаемнасці — «Крэва» ў арыгінале, інакш бы ён, строгі на водгукі, пэўна, не адзначыў бы ў сваім надпісе: «З удзячнасцю за Вашу «Крэву», з радасцю за Ваша высокае і магутнае слова». І я разумею, што так імпанавала аўтару «Мажвідаса», на якім выклаліся гэтыя зычлівыя словы аўтографа. Я ж далучыўся да яго шырока распачатага ўзнаўлення нашага сумесна-адзінага гістарычнага дома — Вялікай Літвы. Роўны яму па творчаму дойлідству толькі ў*

*нас, вядома, адзін У. Караткевіч. Таксама ж мой сябра і пагодак. Не стала яго шырокіх плячэй — і вастрэй адчулася неабходнасць творчай напругі для ўзвядзення — з крывавых руін і тла — таго ж дому нашай гістарычнай памяці.*

*Мой «Замак Уладзіміра» — толькі рэквіем па трагічна-неверагоднай страце, па нязбыўным. Як і «Мелодыя Таўлая». Ад такіх страт няма чым адкупіцца, адгадзіцца. Яны трымаюць параненую свядомасць у вечным палоне.*

*А творчая школа Максіма Танка! Гэта яго вымярэннямі грамадзянскасці і гуманізму мераеш, часам і неўсвядомлена, самога сябе! Дзівішся вострай метафарычнай відучасці, асацыятыўнай шматмернасці, з удзячнасцю трапляеш у сілавое поле яго вядучай танальнасці — прыцягнення зямных асноў! Можна было б не менш захоплена прыгадаць і творчыя ўрокі нашага незабыўнага Сяргея Дзяргая, які, прызнацца, нават з пяром у руках памагаў прарэзвацца майму яшчэ ломкаму голасу. Усё выглядваю часіну, каб сказалася пра яго (апрача прысвечанага верша) нешта большае з майго ведання і любові. Такое ж слова ўдзячнасці заслугоўваюць А. Бачыла, А. Пысін, М. Аўрамчык, А. Вялюгін...*

*Аднак галоўны эстэтычны ўрок, вядома ж, прыходзіцца высноўваць самому — з уласных пралікаў, з выверкі ўяўленняў, з крэслення сябе. Талент — гэта адчуванне дасканаласці, якая і спараджае пошук. Твор проста не ўяўляю без паэтычнай задумы. Часам пакутна выношваю. Асабліва гістарычныя персаналіі. Хаджу і езджу з іх лексікай, партрэтамі, выпісамі, выразкамі. Нематліва прашу даверыцца: я ж беспадманна, няздрадна, з любасцю і агульнасцю мэты! Выклікаю з небыцця вобраз, прывід асобы, і толькі калі гэта асоба даверыць свае вусны, можа занатавацца штосьці сапраўднае.*

*Так упершыню здарылася з маім працяглым ужываннем у вобраз Францішка Скарыны — яшчэ з часу напісання «Кургання». Потым ці не Ю. Марцінкявічус падбіў мяне сваім «Мажвідасам» (драмай літоўскага першадрукара) на чарговую звышзадачу: стварыць свой паэмны эквівалент глыбокай духоўнай драмы Скарыны. Пасля драмы палітычнай*

*(«Крэва») яна немінуча навалілася на нас, духоўная драма роднай зямлі з нахілам да ўсё большага трагізму, які ўжо адчуўся ў часы Высокага Адраджэння і не пакідае край наш і па сёння. Драматычную паэму «Судны дзень Скарыны» я не ўключаю ў выбранае — яна толькі што выйшла (таленавіта праілюстраваная М. Купавам!) асобным выданнем.*

*Чаму я аказаўся «ўлоўлены» нашай гісторыяй? Там — наша глыбіннае пазнанне сябе. Калісьці Сакрат прачытаў гэты наказ — пазнай сябе! — на развалінах Дэльфійскага сабора, накрэслены нібыта самімі Багамі. Так, гэта вялікі запавет Багоў — і для нас. Яго значнасць заўсёды ўздымаецца ў часы новых нацыянальна-вызваленчых рухаў за Адраджэнне Бацькаўшчыны. Невыпадкова ж у Купалы так шматзначна выдыхнулася ў «Магіле льва»: «Пачнем дакапывацца самі разгадкі нашых крыўд і бед». Пазнаць сябе — гэта дакапацца да самых гаручых пластоў гістарычных праўд і няпраўд, выйграных і нявыйграных бітваў, пагвалчэнняў забранага краю. Пазнанне сябе — гэта і сёння ўтрываленне роднай мовы, культуры, угрунтаванне сапраўднага Гаспадара роднай зямлі. Наказ Купалы — ох, які кроўна-жыццёвы! У такой жа меры, як і запавет Ф. Багушэвіча з яго прадмовы: «Не забывайце мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі». Што гэта — метафара? Без роднай мовы — ні культуры, ні нацыянальнай свядомасці, а значыць — і ні таго ж нацыянальна-ўсвядомленага Гаспадара. А з маўклівай згоды прыстасавальніка-негаспадара — рукой падаць да Чарнобыля. Толькі маргаслепы (Скарынава слоўца!) не хочуць бачыць гэтай повязі.*

*Трагічны штрых на маё светаадчуванне паклала акрутнае забойства майго дваццацічатырохгадовага сына Леаніда — гэта мой непазбыўны асабісты боль.*

*Са шматлікіх публікацый збіраецца новая кніжка вершаў — на балючым зрэзе дзён.*

*Мікола Арочка*



# НЕ ЎСЕ ЛУГІ ПАКОШАНЫ...

* * *

Недзе на зялёнай пойме Ніла
У адлёт сабраліся буслы...
Можа, птахам корму не хапіла?
Можа, ў іх быў выган замалы?

Пэўна, не.
У выраі далёкім
Аднаго для птахаў не стае:
Тых дубоў,
наднёманскіх, высокіх,
Дзе ім трэба гнёзды віць свае.

*1955*

## СОЛЬ

Залаты абрус іржышча
На палетку жнівень разаслаў.
Помніцца, прынесла ў Азярышча
Нам дзяўчына снеданне з сяла.

Ля тугіх снапоў пшаніцы,
Пад навесам буйных каласоў
Лыжкі ўзялі:
— Чэмер!
— Чамярыца!..
— Ад кахання гэткі перасол...

Сарамлівасць дзеўчыны міжволі
Разлілася чырванню ў шчаках.
Эх, каб праз мяне —
той лішні шчопаць солі
Сыпнула дзявочая рука!

*1954*

## СЕМНАЦЦАТАГА ВЕРАСНЯ

Я помню ў маленстве той дзень,
Семнаццаты дзень вераснёўскі.
Мы беглі туды —
дзе гудзеў
Гасцінец за роднаю вёскай.

Гудзеў, як тугая струна,
І вабіў дзіцячыя сэрцы.
Тады да грудзей сваіх нас
Тулілі, як родных, армейцы.

А шляхам плылі, як рака,
Пад алымі сцягамі часці.
Тым днём
                    на салдацкіх руках
Наіўна я думаў пра шчасце...

*1954*

## НА КАНІКУЛАХ

Іду як завароканы,
А спеў плыве з-за гаці:
«Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?..»

Касьба за Шчараю пяе,
Звініць над паплавамі.
Лугі надрэчныя мае,
Даўно я ў дружбе з вамі!

Тут мы падносілі касцам
З крыніц ваду жывую,
Давалі з берага нырца
З разбегу ў плынь рачную.

А ўвосень кошыкі плялі
З ракіты на балотах
Або чмяліны мёд пілі
Саломінкамі з сотаў...

Мяне, як сябра тых гадоў,
Сягоння луг паклікаў.
І я на ўсіх дзяліць гатоў
Кароткі час канікул.

Здарова, хлопцы!
Ды хутчэй
Мяне ў свой гурт прымайце.
Не ўсе пакошаны яшчэ
Лугі і сенажаці.

*1955*

## ХУТАРАНІН

Зямелька тут —
Адны груды́.
Яна замнога брала поту.
Пры хаце студня без вады,
Агрэст здзічэлы каля плоту.

Наўкол глухія хмызнякі.
Сынок малы ад жалю плакаў,
Калі ў Пі́ліпаўку ваўкі
Заелі сёмага сабаку.

Ды што ваўкі!..
Малы якраз
У хаце воўка не баіцца.
Яму ісці ў навуку час,
А ён людзей яшчэ дзічыцца.

Ці мала тут, па хутарах,
Прайшло бяды —
аблавы, хіжасць...
Засеў, як стрэмка, чорны страх.
Гарэў, хаваўся, але выжыў!

У глухаце — ўсяго было,
Уцехі напал з доляй злою.
І заспрачаецца сяло
З тваёю быллю хутарскою.

*1955*

## АБУДЖЭННЕ МАЦЯРЫНСТВА

Хлапчуку на двары,
    лэўна, холадна стала,
Бо дзяўчына
    малога ў слязах напаткала.
Каб уцешыць,
    на рукі ўзяла асцярожна:
— Ну чаго ж ты, не плач...
    Хлопцу плакаць не можна!
Лепш да мамы хадзем,
    што калець на дарозе?
Ручаняты свае
    ты і так замарозіў...

Ахінула хусцінай сваёй
    са стараннем,
Пасінелыя ручкі сагрэла
    дыханнем.
Тыя пальчыкі дробныя
    перабірала —
І самой на душы
    гэтак хораша стала!
Прыгалубіла
    з новым зусім неспакоем,
Першы раз адчуваючы
    ў сэрцы такое...

*1955*

## ПАКУЛЬ МАЛАДЫ

Пуцявіну яшчэ ты няхай не знайшоў.
Ды нязведаных колькі шляхоў
прад вачыма!
Тым зайздрошчу,
хто многа дарог абышоў
І цяпер — з багажом за плячыма.

Але часам пачуеш:
«Ды ты не спяшы...
Дажывеш да майго —
прыйдзе вопыт, умельства...»
Гэта значыць — сядзі,
да знямогі пішы
Пра стаптаныя сцежкі маленства.

Я і так на тых сцежках даволі прадрог...
Дык чаго ж мне, скажыце, сядзець ды
марудзіць?
Ногі просяцца ў далеч нязнаных дарог.
Свежасць ніў удыхнуць хочуць грудзі.

Там якраз яшчэ мала ў мяне дружбакоў.
Самы раз будзе сёння да іх далучыцца.
Мне ніколі не скласці гарачых радкоў,
Калі з гэтых дарог маіх збіцца.

Родны край!
Налівай буйным зернем жыты,
Каласуй і красуй —
і, як сыну, павер мне:
Не хачу між калоссяў
быць коласам тым,
Што часамі ўзрастае без зерня.

*1956*

## ЗЯМЛЯ

Як ідзеш адвячоркам дадому
з палёў,
ты нясеш апроч стомы і мазалёў
на гарачых руках —
і зямлі сваёй пах.
Узарэш ты шырокія гоні
вясной —
і прапахнуць далоні
сырой баразной.
Рукі пахнуць зярнятамі,
што высяваў,
ці снапамі нажатымі
ў часе жніва...
Працаваў без прынук,
не шкадуючы рук.

І хоць сіл аддаеш ты
нямала палям —
іх табе ўсе дарэшты
адновіць зямля.

*1956*

## КАЛЯ ВЯЛІКАЙ КРАКОТКІ

*Памяці Валянціна Таўлая*

Сюды, на ўлонне бароў і палян,
Калісь прыязджаў з-за паўсвета
Красой любавацца вяльможны пан
І нават пісаў санеты.

Пісаў, што ў галінках шчабечуць яму
Пра вечнае шчасце сініцы,
Што ўсю прахалоду яму аднаму
Прыносяць лясныя крыніцы...

А той, хто з маленства у гэтым гаю
І з хвояй, і з песняй здружыўся,
У тую часіну быў рад вераб'ю,
Што часам ля кратаў садзіўся!

Крыніцы мог бачыць — хіба толькі ў сне,
Далёка ад сосен кашлатых.
І з думкай пра іх,
пра цябе, пра мяне
Радком пілаваў ён краты.

І, пэўна, таму яшчэ з даўняй пары
Люблю я так гэтае месца —
Усё: ад птушынае песні ўгары
Да шышкі калючай на сцежцы!

*1956*

## НА СЦЕЖКАХ ДАЛЁКІХ...

Нас выпадкам
лясныя сцяжыны звялі.
І калі
пад птушыную песню ў галлі
і пад ранішні пошум лістоты
ёй руку пацiскаў
і з сям'ёй віншаваў,
мне яна засмяялася:

— Што ты!
З ім даўно не жыву...
І абцасікам тонкім
прымяла траву.

А калі
на расстанне руку падалі,
мне сказала:
— Ты помніш прагаліны,
  як сюды па грыбы прыбягалі мы?
Помніш зорную россып суніц,
тыя гнёзды драздоў і сініц?
І ўсе гнёзды, што знала,—
гэта ж я раскідала!

Памятаю, якой ты была.
Раскідала тады,
раскідала,
а прыйшлося — свайго не звіла...

*1956*

## НА ПОЎДНІ

Багатая фаўна, раскошная флора,
А часу ў абрэз —
                    не ўкладзешся у рамкі!
Патрэбна ж агледзець і пальмы, і мора,
І ўсе чарапкі старажытнай керамікі...

Усплёснуць рукамі не раз гаспадыні:
— Глядзі, на кустах колькі лісту
                    лаўровага!
А колькі на рынку пахучае дыні,
Інжыру, айвы ды мускату мядовага!

Нямала тут пальм, кіпарысаў дзівосных,
Аліўкавых дрэваў і моцнага цісу.
А ўсё ж такі
                    вечназялёныя сосны
Не горш кіпарысаў!

*1956*



# ВЕТРАЛОМНАЯ ПАЛАСА

## НА СПАДАРОЖНАЙ

Ад барта да барта нас кідалі калдобіны.
І клялі мы паціху і грэблю і гаць.
Што ж, не ўсюды пакуль што
шляхі тыя зроблены,
Дзе пявучая ціш ды гладзь.

Нам спагадліва хвоі махалі галінамі.
Спачувальна бярозы глядзелі услед.
Па чарзе запрашаў нас шафёр у кабіну,
Ды хістаўся і там уваччу белы свет.

Нас трасло...
Не чакайце ж спагады таксама,
Спраў дарожных майстры:
Знаем спосаб даняць!
Не абыдуць пяра ўсе калдобіны, ямы.
Не паскупімся ў фарбах, як сядзем пісаць.

Прыглядаўся вадзіцель наш:
«З Мінска ці скуль яны?
Не бяда, калі сёння разок патрасе...»
Мы не зналі, што ў нашым узросце пад кулямі
Ён прайшоў тут сцяжыны і грэблі усе.

Мы не зналі, што ў наступе волю праверыў
Тут, у пекле жахлівым, ён не пяшком —
Кожну пядзю бацькоўскай зямлі ён прамерыў,
Багны, выспы з пяском —
паўзком!

Кожны куст,
Кожны хруст пакідаў сваю мету.
Ён прабіўся праз гора, навалу трывог,
Каб мы з лаенкай сёння ляцелі па гэтай —
Што ж, далёка не лепшай —
з нашых дарог.

*1959*

## У ПРЫГАРАДНЫМ

Сягоння рад я ранішняй бяссонніцы.
Не скручвае дрымота у клубок.
Вось-вось — і наш цягнік
падставіць сонцу
На павароце выгінасты бок!

Паружавела ўміг сівая грыва
І пасмамі спадае на адхон.
А сонейка, дасціпнае надзіва,
З усмешкай заглядае ў наш вагон.

Успыхне ў шыбах — злева,
Успыхне — справа,
Удоўж ля лавак пройдзецца, ушыр
І ў вочы зазірне: якая справа
Цябе ў дарогу кліча, пасажыр?

Вось гэты, рослы,— да станка, вядома,
Каб рукавы ў рабоце закасаць.
Лёг на далонь промень: такому
Не сорам рукі сонцу паказаць!

За кошыкі, нібы за барыкаду,
Схаваўся хтось...
Куды ж ты ў летні дзень?
Маўчыць кабета... Потым задам, задам —
Ад промня ў цень хаваецца, у цень...

Ды плён яе — таксама ж без дакору!
Спяшаецца цягнік, бярэ разгон.
А сонца яснае заходзіць кантралёрам
З акна — ў акно,
З вагона — у вагон.

*1959*

## ДУША САЛДАТА

Маладога байца пасля допыту
Прыцягнулі фашысты ў хлявок.
Пачарнеў ад падцёкаў і поту,
Душыць смага — вады, хоць глыток!

У застрэшшы зашастала... Хто там?
Зноўку ціш... Можа, шум у вушах?
Сэрцам чуў: ёсць жывая істота,
Ёсць паблізу жывая душа!

Ён прыпаў да бярвенняў шчакою,
Убіраў кожны шорах і пах.
І над ім, над замшэлай сцяною,
Раптам спуджана фыркнуў птах.

Воін поўз з хваравітаю прагай,
Як па следзе галодная рысь.
Непатольная, хіжая смага
Прымушала караскацца ўвысь.

Задыхнуўся, зірнуўшы ў гняздзечка:
Так спакусліва ў ім беляхцяць
Свежых цёпленькіх пяць яечкаў —
То ж глыточкаў маленькіх пяць!

На двары недзе птушачка плача.
Ёй шкада... Ну, вядома, шкада!
І з маленства усплыў голас матчын:
«Крый жа бог, не спары гнязда!..»

Адвярнуўся — і споўз ён, хмурны:
Хай выводзіць маленькіх сваіх.
Шмат і так вокал гнёзд разбурана —
Гнёзд птушыных і гнёзд людскіх.

*1961*

## АПУСЦЕЛАЕ ПОЛЕ

Вераб'і купаюцца ў пяску.
Верас, чабарок... Пустое поле!
Там, дзе жыта зжалі на грудку,
Нават ног іржышча не наколе.

Полю сніцца лубін, перагной,
Ураджай, няхай не стопудовы,
Жаўруковы спеў над збажыной,
А над грэчкай — хмельны пах мядовы...

Лепш не сні, спусцелае, не мар.
Да цябе няма чамусь даверу.
Абышоў каморнік твой абшар
І сталёвай стужкаю абмерыў.

Можна і абмерыць, і спісаць,
І шукаць за актамі ратунку.
Толькі хіба час зямлі ляжаць
Спісанай, як зломак той, з рахунку?

*1961*

## ВЕТРАЛОМНАЯ ПАЛАСА

Каля вёскі маёй — веснавая краса:
Ветраломная, ў зелені ўся паласа.

Вунь плячо да пляча — ў самай сіле дубы.
Непагода ідзе — не хіснецца любы.

Клёны лапы сплялі па жаданню вясны.
І чаруе темнасцю пошум сасны.

Каб не гэты размашысты шум угары,
Ля сяла на прагале шалелі б вятры.

Паласа ветраломная ўстала сцяной —
Вёсцы стала цяплей за зялёнай спіной.

Не кудлаціць віхор на застрэшшах пляшы.
І не б'е люты сівер суквецці ў цішы.

Сад вясновы, квяцісты, пчаліны мой сад,
Ты пабелены маем ад чубу да пят.

Ты, як край мой бялёсы пад стылай расой,
Спаконвек прыгранічнай стаіш паласой.

Абагрэты, глядзіш ты трывожна на свет,
Беражэ паласа ветраломная цвет.

*1962*

* * *

П'ю з табой сіняву адвячорка,
Прэсны пах палявога цяпла.
Недзе ў змроку на схіле пагорка
Ледзь варушацца зоркі сяла.

Гаснуць водсветы над небакраем.
Над іржэўнікам сум небыцця.
Ды засекі па швах распірае
Жаўтаскурая прага жыцця.

Прагнуць гэтай адвечнае сілы
Песня трактара, шэпат зямлі,
Бляск вачэй, фасфарычны, лісіны,
Што за плугам плыве па раллі.

Крык драчыны на купіне роснай,
Перапёлчыны сны пра жыты.
І, як тыя святыя барозны
У чаканні зярнят,—
я і ты.

*1962*

## ГОЛАС КРЫНІЦЫ

Мне напасцяў хапала:
Сто завеяў таптала,
Сто віхураў пяскамі
Мяне замятала.

Спёка выпіць хацела,
А марозу карцела,
Каб уся я да дна
Хоць на міг зледзянела,
Ды ніякая сіла
Журалы не згасіла...

Пад навалай, бывала,
Я слабела, сціхала,
Ды зацепліцца ранак —
Зноў са дна ажывала...

Так жыву, неадольная,
Гаваркая і вольная,
З цяжкай доляй у полі,
Ды ніколі-ніколі
Мне не страціць, жывой,
Смак,
    і свежасць,
        і колер!

Так і ты,
Мова матчына,
Перададаная ў спадчыну.

*1962*

## НА СЕНАЖАЦІ

### З паэмы «Сын»

Сенажаць!
Заплялося тваё разнатраўе —
Не пацягнеш касы,
а пад вечар — і ног.
Ды касьба для салдата —
лепш боскага раю:
Пахне хмельным настоем мурожны разлог.

Ён касіў, быццам піў хмельны водар здаровы
Белай дзятлаўкі той,
што спляла травастой.
Чмель на красцы варушыць задком ружовым,
Услаўляючы басам мядовы настой.

Намахаўся усмак, аж упрэла чупрына.
Траўкай выцер касу —
і не грэх паляжаць.
Напрасткі, па пракосах ідзе Кацярына...
Мо сняданак нясе на касьбу-сенажаць?

Усміхнулася...
Грудзі пад кофтачкай дышуць.
Ах, сняданак!..
Якая ж яна маладзец!
Хлеб, цыбуля і соль, малака гладышык,
Борш пахучы, варэнікі...
Еш, касец!

Падгарнула пракос — едаком сваім цешыцца.
І сабой: у пару падаспела нябось.
Маладзіца знутры ўся празрыстасцю свеціцца,
Як, бывае, наліў пераспелы —
наскрозь!

Ад яе, як ад спелае яблыні з ночы,
Вее свежасцю...
Лыжку адклаў убок.
Бровы чорныя-чорныя, карыя вочы —
Не трывожце салдацкае сэрца, крый бог!

На грудзях расплялася і дыша каса яе.
Рот — дзве долькі ранета.
Зубочкаў шнурок...
Хтосьці шэпча знутры і яго спакушае
Утапіцца ў слодычы вуснаў і шчок!

Ад гарачых вачэй схамянулася Каця.
Зноў за плечы упала тугая каса.
Не, не мог ён зняславіць
іх чыстага шчасця.
Аднаму толькі ў свеце —
вось гэта краса.

Па пракосах за луг адплывала хусціна.
І здушыў яго грудзі расстання боль:
«Кацярына, жыццё ты маё, Кацярына!
Дзякуй, дзякуй за ўсё...
Ці пабачымся больш?»

*1962*



# У ПТУШЫНАЙ ВЁСЦЫ

## ПЕРАПЁЛКА

Не крычы ты, перапёлка,
што пара нам спаць.
Пакідай лепш, перапёлка,
ноччу сенажаць.

Чуеш срэбны, стогалосы
звон па вечарах?
То ж назаўтра клеплюць косы
хлопцы па дварах.

Заспявае поплаў росны,
травы зашумяць.
Каб тады было не позна
з лугу уцякаць...

Хоць і чула перапёлка,
што бяда ідзе,
Засталася перапёлка
У сваім гняздзе.

*1952*

## КУРАПАТКА

Плыў трактар па іржэўніку,
За ім — ралля пластом,
Ды мы — малыя жэўжыкі,
Ды збоку — пыл хвастом.

І раптам — стоп! Спачатку
Мы думалі: палом.
Ды бачым: курапатка
Залопала крылом.

Накульгвала, спяшыла...
І нам шкада было:
Ёй колам прыдушыла,
Відаць, адно крыло.

І мы чародкай цэлай
Шугнулі наўздагон.
Ды курачка ўзляцела
І узяла разгон...

Падманшчыца умелая,
Ты нас вяла гурбой,
А як жа трактар мелася
Адвесці за сабой?

Гняздо каля разоркі
Звіла ты для дзяцей,
З грудзінкі скубла пёркі,
Каб ім было цяплей.

Чуць бокам трактар рушыў:
Гнязда б не зварушыць!
Яго ён не раздушыць,
Бо ў ім сямейка спіць.

*1962*

## У ДРАЗДЗІНАЙ ВЁСЦЫ

Над аціхлым гаем
ястрабок лунае.
Сочыць зорка з вышыні
вока ястрабінае.
І замёрлі ў цішыні
выводкі птушыныя.
Зашывайцеся, дразды,
ў ядлаўцовыя кусты!

Ястрабок кружыў, кружыў,
згледзеў вокам — гнёзды!
Крыллі шэрыя злажыў
і са свістам грозным
шухнуў камнем з сінявы —
сцеражыся, хто жывы!

Затрашчала чарада
дружная, драздзіная.
Па бары ляціць з хваста
пер'е ястрабінае.

Будзеш воддаль абмінаць
вёсачку птушыную.
Нездарма жыве яна
тут сям'ёй адзінаю.

*1962*

## ЦЕЦЕРУКІ

Находзіць ноч, і на суку
зімой не сон цецеруку.
Каб не здранцвець за ноч у сне,
ён грузна падае у снег
і дрэмле ціха да зары
пад снежнай коўдрай у нары.
Мятуць вятры...
А тут, ля ног,
пад снегам звабна пахне мох
замерзлым сокам журавін
ды мурашамі між ялін...
Ён, адагрэўшы снег валлём,
хавае дзюбу пад крылом
і смачна сніць аб цеплыні,
аб тым чарнічным шчодрым дні,
што корміць птахаў у бары...
Мятуць вятры,
мятуць вятры...

*1963*

## У ЗІМОВЫМ ВЫРАІ

— Дзе, чачотачка, была?
— Я вясной гняздо віла.
— А ў якім, скажы, бары?
— У тайзе, мае сябры.
— А чаму ж віла не тут?
— Там гняздоўе, родны кут.
— А цяпер з сям'ёй куды?
— Дзе лягчэй у халады.
Ваш мароз нам — не мароз,
Любім гэты край бяроз,
Гэты ўтульны смачны бор,
Дзе пупышкі на выбор...
— Дык жывіце ўлетку тут,
Вас тут прыме кожны куст.
— Можна ў вас было б і жыць,
Але ж будуць там тужыць,
Будуць нас чакаць усе
Там, у тундры, у тайзе.
Як прачнецца лес ад сну —
Панясем туды вясну.

*1963*

## КУЛІЧОК

Прынеслі мы, помню, з лужка
У шэрым пуху кулічка —
Такога трывожнага, любага,
Цыбатага, чуць крывадзюбага.
Давалі казявак і мух,
А ён, мусіць, марыў пра луг,

Пра поплаў куп'істы ля рэчкі...
Тады мы прынеслі карэньчыкі
І гразь дрыгвяністую з плёса,
Хай сам пакапаецца носам,
Няхай з чарапка падзяўбе,
Мо знойдзе што-небудзь сабе.
А ён не зірнуў у той чэрап,
Не снедаў і не вячэраў,
Згарнуўся, нібы камячок...
Ну што табе даць, кулічок?
І мы здагадаліся потым:
Аддаць яму трэба балоты
З гразёй, з асакой на імшары,
Вярнуць яму трэба абшары,
Вятры лугавыя, раздолле —
Усё, што завецца:
воля!

*1963*

Зак. 510



# КРЫЛАТАЕ СЕМЯ

## А САЛДАТЫ ІШЛІ

Мне застаўся ўспамін —
з тога лета, калі
Пераможным паходам салдаты ішлі.
Дзень і ноч.
А калонам няма і канца.
На падворку сваім частаваў я байца.
Я глядзеў, як у смуглых салдацкіх руках
Донцам к небу ўздымаецца збан малака.
Быў гладыш малаваты, шкада... І тады
Я прынёс маладзенькіх гурочкаў з грады.
Але што той гурок ці цыбуля, ці квас?
Беднаваты тады быў у хаце прыпас.
Што ж табе яшчэ даць у дарогу, салдат?
Даў бы яблык, але не паспеў яшчэ сад.
А шнурочак суніц не данёс я дамоў,
З'еў па ягадцы, гонячы з пашы кароў...

Каб салдат пачакаў, я пабег бы за плёс
І чмялінага мёду у сотах прынёс...
Толькі ж не.
Папраўляе рука аўтамат.
Хіба потым... Як будзе вяртацца назад.

*1964*

## ПЕРАКАЛОЧАНЫЯ НОЧЫ

Ноч, як жывая рана,
Спаць не давала да рана.
Ператрасала, перакалочвала,
Дом і нутро ўсё —
Пераварочвала!
Заглядала ў шыбы апоўначы,
Кулакамі цяжкімі грукочучы.
Рама дрыжала трывожна,
То узлавана і грозна,
То неадступна і тупа,
Быццам не рама, а ступа.
Пачнуць грукатаць па шыбах —
І кожны удар, як выбух!..

Помню здаўна тыя ночы я,
Чорныя, перакалочаныя.
Іх і сягоння баюся:
Грукні — і я страпянуся!
Быццам зачэпяць не раму,
А незагойную рану.

*1964*

2*

## ДЗЯЎЧЫНКА І АРМІЯ

Была я тады малая,
Залішне малая, каб ведаць,
Нашто мне абстрыглі косы
І з ног чаравічкі сарвалі,
І хто быў маім збавіцелем,
Які зачыніў тыя печы,
Што нас праглынуць хацелі...

І маці сказаць не магла мне,
Чые гэта мужныя рукі —
Слабенькую, кволую, хворую —
Мяне да грудзей прытулілі,
Каб нікому не даць у крыўду.
Матуля мая з агню-попелу
У той дзень не магла падняцца,
Каб дачушку пабачыць — жывую!

А потым, калі ўсё зведала,
Ад крыўды я губы кусала:
Чаму я, дзяўчо дурненькае,
Тады, перад тою Арміяй,
На каленькі свае не ўстала?!
Чаму я тады
той Арміі
Рукі не цалавала —
Тыя рукі, што ціха, пяшчотна
Мяне, падхапіўшы, выносілі
З пякельнага попелу...

*1965*

## КРЫЛАТАЕ СЕМЯ

Зямля,
Ты насенніцай стала ў сусвеце,
Радзімай і зерня і семя.
Тут, нібы ў калысцы, люляе вецер
Наступнае племя.

О, колькі гадуецца ў гэтай калысцы
Зярнятак, іскрынак і семак!
Адно толькі сніцца крылатай пупышцы
І кожнаму семю —
Хутчэй бы, хутчэй пралупіцца!

Зямля стала плоднай.
Скрозь квецень і завязь.
Шчака ружавее, як цвет.
Крылатага семя
імклівая замяць
Шукае арбіты ў сусвет!

*1965*

## ЗАЙЗДРОСНЫ СВЕТ

Узяўшы сына за руку,
Люблю зайсці я ў свет яго дзіцячы,
У самы добры свет на белым свеце,
Дзе львы, мядзведзі
гэтак памяркоўна
Умеюць жыць з ласямі і зайцамі,
Дзе козы не пужаюцца ваўкоў,
А каршуны ўюць гнёзды з салаўямі...

Там светлае наіўнае ўяўленне
Павырывала ржавыя ўсе прэнты,
Разгарадзіла ўсе стальныя клеткі,
Павыпускала ўсіх звяроў на волю —
І вось яны,
узяўшы па рыдлёўцы,
Пазбыўшыся сваіх драпежных звычак,
На баравой паляне, поўнай сонца,
Агулам садзяць маладзенькі сад,
Каб дачакацца груш і яблык...
Зайздросны свет!

*1965*

## ЯКІ БЫВАЕ ХЛЕБ

Хлеб калісьці быў траякі:
Чорны, белы і ніякі.
Чорны мы ў ахвоту елі,
Часам сітні, калі мелі,
Толькі больш — непрасяваны,
З шэрым вотруб'ем мяшаны.
Чорны, важкі, наздраваты —
Сіла, радасць нашай хаты!
Лусту ўсю з'ясі да крошкі
І яшчэ папросіш трошкі!
Было мала, але маці
Ўсё ж адкройвала дзіцяці...

Белы я любіў, аж сніўся,
Ды не часта ён вадзіўся.
Рэдка елі мы прысмакі,
А найболей — хлеб ніякі.

На стале — каб хоць скарынка!
Праўда, часам тата з рынку
Прывязе для нас акраец,
Кажа:
— Даў у лесе заяц...

Сёння хлеб у нас дваякі:
Чорны, белы... А ніякі —
Даўні, горкі і праклятты
Мы не пусцім больш у хату.

*1962*

* * *

Я люблю гранаты,
што ад спелае сілы соку лопаюць...
Я люблю аўтаматы,
што ткуць або пояць вадой з сіропам...
Я люблю пажары,
у якіх і нарадзіцца дзень, і кане.
Я люблю удары
ўсхваляванага сэрца перад спатканнем...
Я люблю наступленне,
дзе трэба і плугам і песняй змагацца.
Я — з таго пакалення,
якое з агню ўратавана
для працы.

*1966*

* * *

Каб спыталі, чыя перацягне вага,
То няхай бы паклалі на плячо рычага
Свой увесь заляжалы смяротны запас
Бамбавозаў, гармат і ракет усіх баз,
Ліхаманку агрэсій, трухло шантажу...
А цябе я, матуля, адно папрашу
Палажыць сваю пасму ссівелых валос —
Толькі пасму адну, дзе ўмясціўся твой лёс,
Гараванні твае ўсе і боль па сынах,
Якіх сёння яшчэ ўсё чакаеш у снах...

Уздрыгнецца другое плячо рычага:
Маці, гора твайго перацягне вага!

*1966*

## ДРАБОК ЦУКРУ

*Памяці М. Багдановіча*

Мне бачыцца той дзень —
з людскoе памяці:
І стол, і госць, і боль яго вачэй...
Ён да зямлі свае прыехаў, як да маці,
Каб да пакутаў быць яе бліжэй.

Гасцінны дом...
А на стале ўсё ж скупа:
Пажэрлі дні ваенныя прыпас.
А на рагу — даносчык, нібы скула,
Душу гатовы выгаптаць у вас...

О, як засумаваў паэт па дотыку
Няздрадных рук, прыязных воч і слоў!
Пі чай, ды не забудзь узяць са сподку
Ўпрыкуску цукру некалькі драбкоў...

Драбок звычайны, колісь браны ў краме.
Ды ўмеў паэт пакласці на далонь,
Каб засвяціўся ўвесь,
                    знутры ён, гранямі,
Панадны сэрцу кінуўшы агонь!

Хтось уздыхнуў:
«Ваенны час... І ў Беларусі
Не бачаць дзеці цукру — ні драбка...»
І тонкая паэтава рука
Адклала ціха цукар на абрусе...

Патух агонь у гранях і ў вачах.
На вуснах перасмяглых — ні крывінкі.
І з той пары,
                    хоць сам і тлеў і чах,
Не браў ніколі цукру — ні драбінкі.

*1966*

## МАЎЧУН

Калісь я ў дарозе
Да дзядзькі ўпрасіўся на сані.
Спяваў пад палоззем
Шчыпучы мароз на світанні.
Хацелася трошкі сагрэцца
Цяплом размовы,

Ды дзядзька — маўчун, здаецца:
Кучомка па самыя бровы,
Сняжок на вусах ірдзее,
А вочы — далёка недзе,
І колас пусты ў барадзе яго
Дахаты з ім едзе.
І едзе салома
Ў старым каўняры авечым,
А сам ён — даўно ўжо дома
На чэране печы!
Пра дзядзьку з дарогі тае
Я мог бы даўно забыцца.
Ды бачу: ён моўчкі здзяе
І мне падае —
рукавіцы!
О, як у той міг пацяплеў
Крамяны світанак зімовы!
Харошае сэрца меў
Той дзядзька,
скупы на словы.

*1966*

* * *

Вёска мая ўспамінае Вільню —
Так, як дачка ўспамінае маці.
Маці жыла па-над Віліяй сіняй,
Вёска-дачка — каля соннае гаці,
Між туманоў ды густой камарэчы,
З цемрай, з нядоляй здаўна заручоная.
Як ёй хацелася выпрастаць плечы,
Рукі ў бок сонца ўздымаючы чорныя!
Як ад вятроў веснавых абуджалася,

Ловячы кожную вестачку пільна!
І штохвіліны бліжэй падавалася
Думкай бунтоўнай і сэрцам да Вільні.
Пэўна, была яна ўся, як барозны,
Што набрынялі ад прагі зярнятаў.
Тыя зярняты, крылатыя, грозныя,
Вільня кідала ў глебу з-за кратаў.
Добры пасеў дало слова матчына,
Што прадракала пару няўхільную.
Сёння ж тужліва, як родную спадчыну,
Вёска мая ўспамінае Вільню.

*1966*

## ЗВОН

Ты хочаш быць, напэўна, званаром,
Гарэць паэзіяй высокага служэння?
І летуценна ловіш блізкі сэрцу гром
З нацыянальных зломаў Адраджэння...

Дзівак, заслуханы у водгулле гадоў,
Цябе ўшчувае крыўда іх нямая?
Іх неаціхлы боль, нібы паводка, зноў
Твайго спакою бераг падмывае!

Прыступкамі радкоў
ты ўзлазіш на званіцу:
Вось тузане вяроўчыну рука...
О, як гатоў ты ў гэты міг маліцца,
Каб звон,
твой звон —
Не быў без языка!

*1966*

## ЗЯЛЁНЫ КРУГАВАРОТ

Прыспорыла сонца —
і вось на прыгрэве
Прачнулася ранкам пупышка на дрэве.
Нібы птушаня, шкарлупінку ружовую
Праклюнула ў свет яна —
ў далеч вясновую.
На дзюбцы трымаючы кропельку соку,
Ўсміхнулася сонцу з галіны высокае...
А колькі зялёных пралупленых вочак
Зірнула з пупышак!
Там клейкі лісточак
Варушыцца, тчэцца з жывых валаконцаў,
З паветра і соку ды з майскага сонца!
А тканка буяе, тужэе, дужэе —
Лісток невялічкі, а свет пасвяжэе!
Аддаўшы ўсё свету, ў глухім лістападзе,
Пажоўклы, з дажджамі ён ціха асядзе.
Апаўшы, бясследна, аднак, не загіне —
Ён новаму маю пупышку пакіне!

*1966*

* * *

Я пытаюся часта ў сябе:
«Адкажы, што зрабіў ты сягоння,
Каб свет на адну хоць усмешку
Паласкавеў і падабрэў?
Ці памог распусціцца пялёсткам
Чалавечай надзеі і радасці?
Ці хапае ў душы — у сяўні тваёй —
Спелых, добрых зярнят?»

*1966*



# КВЕТКІ БЯССМЕРТНІКУ

## МОЙ РЭКВІЕМ

Матулі,
Вашы сыны не прапалі без вестак.
Вочы заплюшчу —
і бачу іх кожнага ў твар!
Там, сярод лета,
з патухлым у зрэнках светам
ляжаць у кустах, а на шчоках —
крывавы цвіце пажар.

Хлапчом я стаяў каля іх,
баязлівы, ўтрапёны.
Палохалі кроплі,
што запякліся на лісціках траў.
Уверсе шумелі, спяваючы рэквіем, кроны,
і конік зялёны
ля каскі на скрыпцы іграў...

Гляджу ў тое лета —
і чуюся часам, як хворы:
нямею, нібыта сцяна,
                    то задыхаюся ў сне.
Матулі,
мы, іх пахаваўшы,
не пахавалі памяці, гора.
Я вам пакажу іх магілы:
у сэрцы яны, ва мне.

*1967*

## ВУЗЕЛ ЖЫЦЦЯ

Я тваю руку цалую,
пяць шурпатых добрых пальцаў —
пяць мацерыкоў планеты,
што не знаюць век спакою;
пяць дрыготкіх тонаў гамы,
што свет поўняць сугалоссем —
то мажору духам вольным,
то мінору горкім сумам.
Пяць калёраў — імі можна
нашу ўсю зямлю расквеціць
у якія хочаш барвы!
Пяць пачуццяў, што, як дзеці,
ў нашых сэрцах падрастаюць
і расходзяцца па свеце...

Пяць! Жыцця таемны вузел...
Колькі ў ім высноў зраслося,
паядналася, як пальцы
у тваёй руцэ, Матуля,
каб адной жыць пяцярнёю!

*1969*

## КОРАНЬ АЕРУ

Як мне пахне корань аеру —
хлебам матчыным, домам!
Той зямлёй, дзе гаючасці — неруш,
шчупакамі ў Бяздонным!

Вучылі: «Корань аблупіш
да мякаці гаркаватае,
добра высуш, стаўчы ў ступе
з цветам верасу, з мятаю...»

Думаў: «Занясу я дзядзьку —
нашча хай вып'е з мёдам!»
Ад хвароб, што звалілі знянацку,
памажы ўратаваць, прырода!

Бег я з лекамі травамі золкімі,
а вочы — і сёння ў тумане...
Даруй, што спазніўся з зёлкамі
да цябе, мой Дзям'яне!

Ці ўратаваў бы — не знаю.
Толькі ў сілу гаючую веру
той Зямлі,
                дзе і сёння шукаю
свой духмяны і горкі
корань аеру.

*1969*

## СПОВЕДЗЬ ЖЫЦЦЮ

Спазнаў я у жыцці святло і змрок
Жыццё, жыццё —
было ж на валасінцы!
З галінкі вунь сарваўся павучок —
караскаецца зноў па павуцінцы!

І я хапаўся прагна за прамень,
што нада мной, звісаючы, свяціўся.
Прамень адчайнай веры ў лепшы дзень,
якой на Бацькаўшчыне прычасціўся.

Руку дай, любая,— свой пульс жыцця!
Я мо таму і дыхаю, што веру.
Я зноў хадзіць вучыўся, як дзіця,
і за прыпол бяроз хапаўся ў скверы.

Я зведаў прагу сэрца, што ў бядзе.
І пекла слоў —
«крытычны момант», «крызіс»...
Ды гаслі яны ў праблісну надзей,
што сталі — як літанне, катэхізіс...

Люблю, таму і не іду на дно.
Я гэтай верай непатольнай дужы.
У ланцугу прымусу —
крышыцца звяно!
Спрыяць дабру —
мой сэнс нялёгкай службы.

*1969*

## КВЕТКІ БЯССМЕРТНІКУ

Я збіраў іх у спелым леце —
гэты жоўты агонь суквеццяў.
Па сцяблінцы на ўзгорках пахілых,
на глухіх валатоўках-магілах,
на акопах старых, у варонках,
на крывавых разорах старонкі...
Я збіраў іх па ўсім белым свеце —
гэты жоўты агонь суквеццяў!

Асцярожна звязаў іх травою
і на покуць паклаў у пакоі.
З той хвіліны пад родным дахам,
чую, тонкім струменіць пахам,
ясным цветам —
нязводным, свойскім,
несмяротным,
як край бацькоўскі!

*1970*

## БЯЗДОННАЕ

Паспрачаліся калісь
дзядзькі на ігрышчы:
ёсць у Бяздоннага дно ці няма?
І пайшла гаманкая гурма
па дварах сабіраць вужышчы!
У дарозе іх сцягвалі з грузных вазоў,
моцна звязвалі ў сорак тугіх вузлоў.
Пачапілі грузіла — гару-валуна
і пялёхнулі ў бездань з чаўна.

Глыбіня разматала, глынуўшы, віткі.
Дядзька следам руку —
не хапае рукі!

У паданні дзівосная праўда відна.
Ёсць глыбіні, ў якіх мы не вызналі дна.
Над Бяздонным сівеюць,
як вякі, камяні:
колькі, колькі пад імі
маёй даўняй радні!
Праславянскія могілкі!
Пакланюся я вам,
скамянелай, забытай калысцы славян...

Бяздоннае!
У цябе і ў гісторыі мы — не бяздомныя!
Абмывала паўстанцам ты ногі босыя.
Ля кастроў дымнай юшкай карміла абозы!..

Хваля ўсплёсне, як памяць:
Бяздоннае!
А ўваччу — партызанскія ночы бяссонныя,
пераходы бясстрашныя
і, як помста святая, бясстомныя...

Бяздоннае!
Ты, як жыццё, да краёў паўнаводнае.
Колькі сцюдзёных вытокаў поіць вадою!
Ты не ўсыхаеш, як тысячы год,
маладое!
Плынь вякоў праз цябе плыве.
І ў празрыстай глыбі-сіняве
б'юць-віруюць крыніцы прадонныя.
І пакуль з-пад зямлі будуць біць —
будзе жыць
і маё Бяздоннае!

*1971*

## КУРТКА ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

*Лідзіі Сяргееўне Таўлай*

Гасла «буржуйка»... Вецер
Цёрся аб мокры вугал.
Стрэліўшы, з чорных дзверцаў
Выпаў гарачы вугаль —
і раскалоўся...

Пырснулі сполахі зайкамі
Па анямелым закутку,
Скочылі жоўтымі лапкамі
На патрапаную куртку —
і расплыліся...

Жанчына рукою млеючай
Куртку з цвіка здымала
І, як крывінку-малечу,
Да грудзей прыціскала,
цалуючы...

Куртка дыхнула спатканнямі,
Кратамі, пылам, потам,
Лістамі неадасланымі
З-за калючага дроту —
і ростанню!

У кішэні тры хлебныя карткі,
Пажоўклыя, нескарыстаныя,
Ды шчопці сухіх зярняткаў
З коласа, пэўна, сарванага
на родным полі!

Паклала на стол ціхутка,
Далонямі распрастала
І спырсквала тую куртку
Не вадою, калі прасавала,—
слязой гаручай...

Сатлела вуголле... З печкі
Ёй падгалошваў вецер...
Ён надзеў сваю куртку на плечы
І з хаты пайшоў —
у бяссмерце.

*1971*

## ЛАСЯНЯ

Трэск у цішы — як спушчаны курок.
І тупат капытоў цераз пасадкі.
Ласіха ламанула крута ўбок —
Сабою засланіла ласянятка.

Пералятала лёгка праз карчы,
Праз яміны з вадой іржавай.
Ану, цыбаценькі: скачы!
А ён не мог... не мог перамагчы
Сляпую боязь чорнае канавы.

Назад вярнуўшыся, ізноў
Перамахнула чорны роў
ласіха.
А ён мычаў услед ёй ціха
І ледзь ад роспачы не роў!

Ракітнікам, ратункам пах той бок.
А ззаду — люты шоргат крокаў...
Тады яна лабацінай шырокай
Ласё штурхнула лёгка —
пад задок!

Яно кулём туды пераляцела.
Сама ж асела ў жоўтае трысцё.
Але з калень яшчэ зірнуць паспела —
Як у тумане белым-белым
Пабегла ў свет яе дзіцё!

*1971*

## КАРАДАГ

З кратэра горы вывергнуў,
Скал нагрувасціў над морам
І, прыкусіўшы язык свой вогненны,
Змоўк!

Гэта страшна —
Застацца патухлым вулканам,
Бачыць усё з вышыні
І маўчаць.

*1971*

## ЯБЛЫНЬКА

На машыне прывезлі саджанцы,
Накалелыя ў першы мароз.
Выбіраю яблыньку-ўдаліцу,
Як дзяўчыну дзе-хто,—
навырост!

Каб і зграбнай была і купчастай,
Не пагрызенай зайцам якім...
Каб унізе была каранастай —
Прынялася ў садку маім.

Каб у белай сукенцы пялёсткавай
Запыняла ў дарозе людзей.
Каб была сакаўной, пладаноснай
І на свеце за ўсіх — саладзей!

Дрэўца лапкі пацепвае зябка,
Тонкі хмель закружыў галаву...
Ой, баюся, што першае яблыка
Без пары, недаспелым сарву!

*1971*

* * *

Пах слова свайго
Я адчуў незапозна.
І стала сягоння ў мяне,
Нібыта ў жніво на млыне,—
Завозна,
Завозна!

Плынь рэчкі
З плацінай хапаецца загрудкі —
Як цяжка даецца прастор!
Хаця б утрымалі напор
Застаўкі,
Застаўкі!

Кручу камяні
Я з ахвотай, гулліва.
Сам кручуся — гудзе галава!
Але цёпла плыве з рукава
Мліва,
Мліва.

*1971*

* * *

У наіўнасць,
што ўсім спавядацца рада,
у шукальнікаў папараць-кветкі
і праўды,
у мару,
што вечна жыве чаканнем,—
я не кіну ніколі
насмешкі каменем,
бо траплю ў сябе.

*1971*

## ДОМА

Не абарвецца з родным домам ніць,
з тым светам, дзе жыве матуля.
На помач еду: сена укасіць,
паправіць комін, зазірнуць у вулей.

Чаргу кароў адпасвіць з нашага канца
і ў час,
калі дымкі ўзаўюцца шпарка,
прыняць, як бога, яшчэ цёплага бліна
з духмяна разамлелай скваркай...

Ды вёска мне — не толькі сырадой
і сон дрымучы на духмяным сене.
Яна — калыска мовы, без якой
было б нямым маё натхненне.

Падваліны маіх першавытокаў,
выток і свет мой,
хлеб мой,
клопат вечны!
Яна ўвайшла ў мой лёс каханнем і вясной,
а сёння — са жнівом ужо сустрэча!

Іду ў глыб лета... Полем, лугам
натужна вохкаюць грузавікі,
па вуліцы пралазяць цугам,
тручы бакі
аб вішнякі...

Разносіць паштальён прыбаўку пенсіі.
Спяшае ластаўка маленькіх падкарміць...
У вёсцы — схоў нявычарпанай песні.
Абы трывала ніць.
Абы трывала ніць.

*1971*

## НА ЗІМОВЫМ ВАДАПОІ

Белае, абледзянелае карыта
Каля студні поіць гавяду.
На лядку — пісягі ад капытаў.
Пысы дзьмухаюць па лютую ваду.

У карыце дзынькаюць ільдзінкі.
Падсуседзіліся збоку галубы.
З цёплым парам звонка, як слязінкі,
У рагулі кроплі падаюць з губы.

Так дурманіць водарам здаровым
І зіхціць у промнях снег густы —
Падурэлі, бачу,—
пастрачыліся каровы,
Аж да сонца задзіраючы хвасты!

З выбрыкам пайшлі праз агароды.
Пэўна, мроіўся мурог лясны...
І струменіўся ад снегу
першы подых
Растрывожанай ад тупату вясны.

*1971*

* * *

Я ў Сусвеце — нібы Планета.
І для нейкіх маленькіх істот
Сам, напэўна, з'яўляюся светам,
Дзе свой Захад
І свой Усход.

Свае войны, набегі варожыя,
Дзікіх ордаў шалёны напад.
І крывёю сцякае
крывінка кожная,
Ды ні кроку назад!

Па артэрыях — бітвы, пікеты
І на конях чырвоных ганцы.
Адступленне — канец Планеты.
Таму свету ва мне — канцы.

Адаб'юць эпідэмій нашэсце —
Ледзь адхлыне пабоішчаў вір.
І ва мне — падабрэлай Планеце —
Усталюецца чуйны мір.

Кожнай клетачцы хмельна стане.
Ад любві — да ядра ядро!
Да жывога свае пасланні
Піша з вечнай надзеяй дабро...

І ў тых кодавых запісах дбайна
Зашыфруецца боль і час...
О, Прыроды вялікая тайна:
Свет над намі.
І свет у нас.

*1971*

## КОНТРАТАКА

*У. Федасеенку*

У галаве — жароўня... Дзень мяцеліць...
Ці гэта уваччу мяцеліць, а не дзень?
Прарочыць мне прыпіску да пасцелі
На доўгія нядзелі бюлетэнь.

Вымольвай тут здароўя на баках.
Звалокся да акна — а там, о божа!
Лягла цішком бялюткая пароша,
Пухнатая, як спінка беляка...

Як задрыжалі рукі... Лусту хлеба
Зладзеявата сунуў у кішэнь...
А боты дзе?.. Куды я?.. Знята стрэльба,
І млосць не адхлынае ад калень.

На снежным цаліку абы не ўпасці.
Ды плечы распраўляю — вецер, дзьмі!
Ружовы, сіні снег... Якое шчасце
Цябе ўдыхаць глыбокімі грудзьмі!

За ноч у ёлак адраслі бароды.
Б'е церпкай зелянінай ад іглін.
Я прагна, як ганчак, хапаю ротам
Снег з абцяжараных галін.

Дыхнуў дымком здалёк вясковы вечар.
Знаёмы двор...
Сустрэча, як і след...
А потым — рай бяспросыпу на печы:
Ачнуўся, як народжаны на свет!

*1971*

* * *

Я радуюся слову,
Вячыстаму, з народных сховаў,
Незацяганаму,
Крамянаму,
Як росны травень, нестаптанаму,
Як жарабок, брыклівяму,

Як ястрабок, узлётнаму,
Яшчэ і не крыклівамy,
Яшчэ і не грымотнаму,
Не знаўшаму авацый,
Ні мору, ні інфляцый...
Як дар, як памятка вякоў,
Яно зірнула з тайнікоў,
Яно не хоча быць прыспаным,
Забытым скарбам,
закапаным.

*1971*

* * *

Б'ючыся над думкай адной,
Па цесным пакоі ходзячы,
Я раптам адчуў спіной
Чыесьці ўтрапёныя вочы —
Мо гэта сачылі за мной,
Цікуючы, продкі і родзічы?
За ходам лятункаў маіх,
За кожным учынкам і словам
Сачылі з-пад броваў сівых
Стагоддзі з глыбінь суровых.
Глядзелі ў душу пакаленні
З дарог, пратаптаных не марна,
Цяжкімі вачыма сумлення
З-за кратаў, з этапаў карных...

Як пільна павінен я крокі
Звяраць і з сабой і з часам,
Каб сэрцам прыняць іх урокі
І жыць іх вялікім наказам!

*1971*

## ХЛЕБ РОДНАЙ МОВЫ

Шчодрым дамашнім богам
Ляжыць на стале маім бохан —
Па зярнятку з вякоў назапашаны,
У дзяжы ліхалеццяў заквашаны,
Замяшаны на мудрасці, поце
І апалены духам на подзе
Жыцця!

Як ніколі
Я сёння жадзён яму,
Гэтаму хлебу надзённаму!
Бохан бяру з-пад настольніцы,
Крою дзецям:
— Ешце папоўніцы!
Калі выпадзе з рук — абдзьмухніце,
Не кідайцеся ім, не тапчыце!
Наядайцеся змалку ўволю,
Каб ён вечна вам пах —
Родным полем,
Баравінай, зялёнай лагчынай
І рукамі матулі...
Айчынай!

*1972*

## БАЛАДА ПРА НЯСКОШАНАЕ ЖЫТА

За сялом адстрэльвалася жыта.
Тое жыта ўсё было прашыта
Лютай незгаворлівасцю куль:
Сто — туды.
Адна — адтуль.

Хоць адна, але касіла чыста.
Стаў, як крэпасць, жытні астравок.
І да гэтай крэпасці фашысты
З хат павыганялі мацярок.

Косы — ў рукі!.. Гора ваша, маткі,
Тупае пракосам... Шнэль! Хутчэй!
Выглядаюць хіжа аўтаматы
Упрытык з-за матчыных плячэй.

Не паспеўшы, сіняе, наліцца,
Жыта шоргала, як восенню трысцё.
І хавалася за бабскія спадніцы
Ворага нягоднае жыццё.

Спатыкалася каса ў матулі,
І касільна млела у руцэ,
Калі біла ўзгневаная куля,
З-за спіны выхопваючы цэль.

Асцярожна біла, бездакорна.
Колькі было вытрымкі ў байца,
Каб яшчэ з апошняга патрона
Не задзець і кофты у касца!

Выстаяла жыта — не здалося!
Жыту — жыць, зямлі — каласаваць.
Ля былых дарог вайны калоссі,
Як балада мужнасці,
звіняць.

*1972*

## ПАРТЫЗАНСКІ ПАРОЛЬ

Шыбы ўздрыгнулі ціха і тонка.
Што за людзі начною парой
Ля заснежаных вокан з вінтоўкамі?..
«Мать, открой!»

Першы — ў доўгім да пят шынялі —
Па-дзіцячы ўсміхнуўся у сенцах:
«Маці, не бойся... Мы ў вас былі!
Помніш —
                міску, поўную з венцамі?»

«З венцамі?»
«З венцамі!»
Слоўца адно
Асвяціла ўсю хату, як бліскавіца.
Маці коўдрай прыкрыла акно,
Запаліла ў кухні газніцу.

Як не помніць?.. Прыйшлі з-за гумна
Пасля бою тры акружэнцы.
Маці вары ўліла з чыгуна:
Міса —
            поўная з венцамі!

І ў грымотны той дзень вайны,
Адыходзячы ў змрок суровы,
Разам з хлебам узялі яны
Гэта шчырае матчына слова!

Слова стала для іх, як пароль.
Па начах яно стукала ў весніцы,
Яно ціха ішло на парог
То з трывогай, то з добрымі весткамі.

Хата сціпла дарыла хлеб-соль
І цяпло вечарамі завейнымі...
Значыць, добры быў той пароль!
Хай вядзе мяне
гэты пароль
У жыццё наша,
поўнае з венцамі!

*1972*

## ПАДПОЛЬШЧЫЦА

*Кацярыне Главінскай*

Боль скручаных, ацёклых рук,
Прадзетых пад сагнёныя калені...
Я знала, што мяне пад столь на крук
Пачэпяць на прасунутым між рук
Бярозавым палене...
Ды чула шэпт сяброў:
«Застанься з намі!»

Пачатак вытанчаных мук
Страшней за ўсё... Я закусіла
На вуснах жаху немы гук,
Калі тупы агонь пацёк па жылах...
«Застанься з намі!»

Агонь каціўся ад здранцвелых пят,
Як бомба, узрываўся крыкам, болем.
Агонь сляпы, раз'юшаны, як кат,
Пытаўся ў майго сэрца пра падполле...
«Застанься з намі!»

Пытала, мутна булькаючы ў нос,
Гаручая, нібы атрута, газа.
Здавалася — развальваецца мозг,
Ды ў ім, як пробліск, шэпт наказу:
«Застанься з намі!»

Сябры як бы стаіліся наўзбоч...
Давер вачэй іх, строгіх і ласкавых!
Я, нібы ў вір, правальвалася ў ноч,
Ды выплывала, каб і ў смерці нават
Застацца з вамі!

*1972*

* * *

Жыруюць бяскрылыя качкі
У завадзі мулкай ля хат.
Трыснёг і лапоча і крача,
Ныршуюць насы качанят.

Аер у ружовых накрапах.
Прыціх плывуноў астравок.
Шарэнгаю чырваналапай
Вяртаюцца качкі ў хлявок...

А там, за глыбокай вадою,
На возеры, у чаратах —
Іх родзічаў дзікіх гняздоўе,
Асцярожная чарада.

Да той нешматлікай чародкі,
Што вольна у плаўнях жыве,
Цішком падкрадаецца лодка
Па жоўтай зыбун-траве.

Калі ж лопат крыл гарачых
Апыршча крывёй плывуны —
Ў хляўку здрыганецца качар,
Ламаючы крыллем сны.

*1972*

* * *

«Ой, валы мае палавенькія...»
Гэту песню старую, як свет,
Яшчэ часам зацягне шчымліва
На застоллі за чаркай сусед.

А ў вачах маіх — там, за вёскай,
Сярод поля два валуны,
Палавыя ад моху, гарбатыя,
Крутабокія, як валы.

Помню, часта гарбы іх сядлала
Басаногая наша гурма.
На спіне — быццам след ад пугі,
А на карку — след ад ярма.

Мо і праўда — валы скамянелі.
Ад работы ярэмнай, цяжкой?
Як нялёгка песня-легенда
Адгукаецца роднай зямлёй!

*1972*

* * *

Бываюць дні вясны сярод зімы.
Вароны хваляць цёплую пагоду.
І тыцкаюцца млявыя самы
Насамі ў тоўшчы лёду.

Кусты ў затоках тумаиоў.
Пах чарназёму на узвышку.
Пад скураю ў мяне,
набухлыя даўно,
Балюча лопаюць пупышкі...

Яшчэ не раз астудзяць іх вятры!
І люты разлютуецца шалёна.
Ды прыбывае дзень... І да вясны
Няўжо не данясу я
ліст зялёны?

*1972*

## ЦЯГА ЗЯМЛІ

Як быць мне з непатольнай гэтай прагай?
Спазнаць зямлю хачу не напавер.
Спрадвечнаю матыгай-рабацягай
Далоні ўсмак натруджваю цяпер.

Люблю, як ногі топяцца ў раллі!
О, не пытайцеся, якога роду-племя:
Руку заглыблю — і заныюць нема
Усіх гаротных продкаў мазалі!

Люблю, калі сякеры вострай джала
Па рысцы тоненькай вядзе рука.
Маё няўмельства толькі параджала
Ва мне упартасць злую мужыка!

Стары цясляр мне пасміхнуўся неяк:
«Паставіць зруб — не вершык напісаць».
Я мо звякую ў працы яго — невук!
Ды навучуся майстра шанаваць.

Спазнаць мне трэба ўсё: трываласць цэглы,
Крутой цамянкі ўедлівы раствор.
І праца валіць зморанае цела.
Але з-пад рук расце жаданы твор.

*1972*

* * *

Чаго баюся я найболей?
Не ахвярнасці.
З гадамі наспяваюць у душы
Такія зерні мэты, святасці,
Што я за іх гатоў —
хоць на крыжы!

Чаго баюся я найболей?
Марнасці.
Марнасці.

*1972*



# ЦЯЦЕРКА

**Лірычная навела**

Паляўнічы, паляўнічы, чаму ты выпусціў яе і не схапіў за капыцік?

*М. Прышвін*

## I. ПРЫВІДЫ

Пад крыло да хваіны-сядухі
Папрасіўся мой золкі шацёр.
Вунь са спячкі, з-пад снежнай задухі —
Гэта бор устае ці не бор?
Пазяхае калматай зяпай
Бураспіннік мядзведзь стары,
Прыкрываючы вочы лапай
Ад світальнай зары.

Дуб-крапак,
Як з рагацінай прашчур
У засадзе здубеў давідна.

Нават куст — дапатопным яшчарам
Прытаіўся ля будана...

Нешта пасвіцца выйшла з прылесся —
Гэта мамант ці стог лугавы?
Аблачынкі ў паднябессі —
І тыя,
  як журавы!

Цеціву напінае ранак —
Выпускае стралу наўстром.
І журавель-падранак
Уміг забарвовеў крылом...

Страпянуўшыся, ў тое ж імгненне
Лопнуў крыллем касач баравы...
Адступалася
  царства ценяў.
Пачыналася
  царства жывых.

## II. ПАЯДЫНАК

З лагчыны, ў туманным хмызе
Усплыў нейкі дзіўны гук —
Быццам там з-пад лядка прабіўся
І забулькаў у лозах раўчук...

А ў адказ яму, нібы рэха,
Абазваўся зусім паўскрай
Глухаватым, гартанным смехам
Другі балбатун-ручай.

Уваччу замігцелі бярозы —
Там з падлётам, праз хмызнякі,
Бачу — чорныя, як паравозы,
За-чу-ф-фыкалі такавікі.

Вунь — грудасты:
Хвост — чорным веерам.
Пыршча алай крывёй брыво...
Ой, цяцера!.. Не дражні, цяцера,
Важака стараны баравой!

Дзюбу ўверх — пал у горле клякоча.
Толькі боль ад яго, толькі боль!
Мо таму ён адчайна ўсіх хвошча —
Каб аблёгку даў трошкі
Бой!..

Будзе бой...
Вунь на рунь такавішча
Сеў касач з сіняватым пяром:
Раздзімае валляк — і чуф-ф-фыча!
Крылле — цёмна-пагрозным шатром.

І кладу я лаўчэй дубальтоўку:
Хай кругамі сыдуцца ўдвух...
Хвастанулі ўжо крыллем з наскоку —
І над рунню ўзляцеў
першы пух.

Шаблі-перыны, перыны-стужкі!..
Я ў здзіўленні гляджу, як малы.
Гэты танец — на кончыку мушкі:
Два ваякі...
Два ствалы...

### III. ЦЯЦЕРКА

Раптам хвоя ўздрыгнула веццем...
Што там?
Ножка з апушкай рабой!
Ах, цяцерка!.. З зялёнай вежы
І яна пазірала на бой!..

Страпянулася крыллем трывожна —
Вось гатова туды паляцець.
Ды прысела — лоп-лоп — асцярожна
На майго будана павець!

Паляўнічы!
Такое імгненне...
Не губляйся — хапай за крыло!
Цень і промень
На апярэнні
Пайшлі ўпрысядкі — дых заняло!

Шэпча цень:
«Дык хутчэй!.. Назаўсёды
Яна будзе тваёй, тваёй!..»

Шэпча промень:
«Уся асалода —
Гэта міг любавання ёй!..»

Цень:
«Хай птушка ў руках заб'ецца!
Ёй ты слаўна аздобіш пакой...»

Промень:
«Не чапай!
Хай жыве яна ў сэрцы
Вось такой, як цяпер... Такой!»

А цяцерка паправіла пёрка,
Як дзяўчына вясельны убор,
І жаўтлявы пярсцёнак вока
Штось наставіўся ў мой шацёр...

Мне адкрыўся сакрэт таемны —
Чаму хвошчуцца там яны:
Вось той яблык Чароўнай Алены,
Што давёў да траянскай вайны!

Цуд прыроды — ён тут, на волі!
Тут красой
навет дыхае бой!..
Схамянулася птушка — і ў полі
Расплылася хмурынкай рабой...

Можна брацца дамоў... Па-над гаем
Папаўзла, снегам сыпнула ўніз
Хмара шызая, градавая —
І ваякаў садзьмула ў хмыз.

### IV. СНЕЖНЫ ЎСПАМІН

Папягнуся ні з чым... Ды на сівер
Так не хочацца з будана!
Я, напэўна, застаўся б шчаслівы,
Каб была у руках яна!..

Дзе ж я н а?
Эх ты, цецер, цецер!
Што загледзеўся ў далеч бяроз?
Чуеш, з даляў даносіць вецер
Стук абцасікаў у мароз?

Гулка сэрца ў чаканні такуе,
Нібы цецер на першым таку...
Я ніколі не бачыў цябе — такую,
Зарумяненую на свежаку.

Ў кажушку вышываным, з апушкаю —
Трэба ж хораша так заінець!
Ты здавалася мне тады птушкаю,
Што гатова са мной паляцець...

А рука — з рукавічкі вязанай...
Тут не сэрца растане —
Лёд!
Напрадвесні з тугой невыказнаю
Мы ўжо думалі пра адлёт...

Толькі разам!
Трывожна і проста...
Ты займалася, як зара...
І ніколі свякруха-ростань
Нас не знойдзе пад сховай шатра!

Толькі разам!
І ўсю, трапяткую,
Праз няпэўную бронь кажушка
Ўпершыню цябе чуў я — такую,
З дзіўнай палкасцю на шчаках...

Чуў — яна і ва мне клякоча!
Толькі боль ад яе,
                толькі боль!
Я б цяпер адхвастаў сябе тройчы,
Што ўпусціў гэты міг з табой...

## V. ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Птахі мае, веліканы,
Апошнія з магікан!
Журавы —
                важакі караванаў,
Касачы —
                каралі палян!

Як такуецца вам?
Дзе гняздзіцца?
Пакідае вас родны бор.
Як далёка махнула пшаніца
Ад хваіны, дзе быў шацёр!

Успамінам стрыкаецца ржышча.
Паглядзеў — ды назад у сяло!
След цяцеркі на тым такавішчы
Ветрам часу даўно замяло...

Дзе ж я н а?
Паляўнічы!.. Эх, паляўнічы,
І чаму не схапіў за крыло?!

*1970*



# МАТЧЫНА ЖЫТА

## ДАРОГІ БЕЛАРУСІ

Гасцінцы і тракты...
Шлях за шляхам
масціла гісторыя тысячу год
па маёй Беларусі:
з усходу на захад
і з захаду гэтак жа ўпарта —
на ўсход!

Два кірункі цяжкіх
зналі колы і цуглі.
Асядаў на калыскі вякамі пыл!
Як ты выжыў і так,
мой продак лапцюжны,
на скрыжаванні мячоў і магіл?

Як данёс да мяне,
ад пятлі ўратаваўшы,

роднай мовы пяшчоту,
і пах, і красу?
З тваіх рук гэты скарб,
без распіскі прыняўшы,
да нашчадкаў ці я —
ў чысціні данясу?

*1969*

* * *

Відавочцы,
Пішыце пра сум журавоў —
Яны ўсё радзей плывуць караванамі
Паўскрай гарадоў,
Над імшарамі заараными...

Пішыце пра досвіткі,
яшчэ не дымныя,
Пра лясы парадзелыя,
ды яшчэ неабдымныя,
Пра капэлы птушыныя, васількі ў жыце —
Пішыце, пішыце...

Проста —
На ўспамін нашчадкам.

*1971*

## БАЛАДА ПРА САБАКУ

Конь у лесе вушамі стрыг,
Касавурыўся конь... А ў цішы
Падвываў толькі вецер
і з лапін старых
Закідаў за каўнер ледзяшы.

Страпянуўся гняды... Можа, снег
Паміж лозаў пустых сінеў?
Хвост угнуўшы, сабака бег
І павіскваў каля саней.

Заўпарціўся конь... І стаў!
Ледзяшы за каўнер спаўзалі...
Раптам енкнуў сабака —
і ад куста
Пакаціўся кулём на сані!

Хіб тапырыў і скігітаў.
З перапуду зубамі пастукваў.
Як ён рукі лізаў,
як заглядаў
У вочы свайму заступніку!

Поўсць абвісла, бы нехта выскуб.
Збоку — злым аганьком светлякі...
Схамянуўся стары —
і ў хмызнякі
Ён сабаку шпурнуў, як выкуп!

З бяды вынеслі ногі каня.
З любатой выціраў яго, ў мыле.
Ай ды конь!
Толькі нешта ныла
І заснуць не давала да дня...

Раніцой, ледзь затлела зара,
Хтось пашкрабаўся ў дзверы:
— Лыска!..
А ён жоўтымі зрэнкамі
горка бліснуў,
Паглядзеў —
і сышоў са двара.

*1972*

## АНТЫТЭЗЫ

Відаць, не дайсці мне да ўнутранай згоды.
Стаю перад націскам ста антытэз.
Да цябе я на споведзь, маці-прырода,
Да цябе за парадай, ойча-лес...

Я ваш гадаванец, падпасак худы,
Відаць, і тады ўжо крыху безгаловы.
На грудзях, на руках, нібы воспа, сляды —
З тых часін, калі лазіў да гнёзд каршуновых.

А колькі тут голас зрываў на ваўкоў!
Не думаў і сам я, калі галёкаў,
Што гэта жыццё — між бяроз, саснякоў —
Дае толькі першую горыч урокаў!

Ваўкі сёння зводзяцца — хоць ты завозь!
Ды толькі пабачу, як нехта бядуе,
Заўважу настырныя вушы і поўсць —
Святая наіўнасць ва мне бунтуе!

Развважце мой клопат, узлескі, бары.
Даруйце, што сын ваш, як вецер бяспутны,
Калісьці пакінуў ваш дом без пары,
Каб біцца ў пытаннях адвечна-пакутных...

*1972*

## НЕРАСТ

Праз акіян вандруюць касякі —
І хто ім шлях падказвае свяшчэнны?
Цячэнні?
Млечныя свячэнні?
Ці матчын покліч дальняе ракі?

Бывае, ўдарыць шторм, патушыць зоры.
У змроку — неба, хвалі, астравы.
А сёмга і праз кіпень штармавы
Ідзе да нерасцілішчаў Пячоры.

Разліты ў акіяне прэсны пах
Гаркавых лоз і спелых траў нізоўя...
Пячоркі, лёхі роднага гняздоўя,
Які да вас цяжкі, пакутны шлях!

Як праслізнуць —
Праз петлі ўсіх цянётаў?
Мінуць чыюсьці прагнасць, глухату —
І ўсё ж прарвацца ў ціхую ваду!
Хвастом расчысціць ямкі між чароту!

І высеяць бурштыны буйных зор,
Укрыць іх, як дзіцятак,
Млечным Шляхам...
Прыпасці да крыніц сваіх, пячор
І, як выгнанніку пад родным дахам,
Сканаць...
Каб стаць жыцця працягам!

*1973*

## СІКСЦІНСКАЯ МАДОННА

Ля мора Лапцевых,
між кранаў партавых,
яна стаяла — горкае дзяўчо!
Чарнявыя дзве коскі з галавы
журботна ападалі на плячо...
Яна чакала — з лялькай на руках! —
напэўна, бацьку...
І з дзіцячаю тугой
усё ўглядалася ў лядовы шлях,
спавіты таямнічаю смугой...

Туды, між белых крыг, у ледастаў
калісь паехаў бацька...
І растаў...
О Ледавіты, хоць са дна свайго —
вярні яго!

*1973*

## У ЛЯДОВАЙ РАЗВЕДЦЫ

На лакатары ўспышкі экрана.
Загараюцца глыбы ільдзін.
Мы ляцім...
У ільдах акіяна
Карабель-баржавік заблудзіў...

На сігналы ён ледзь адгукаўся —
Праз туманы,
надвоблачны дым...
У палёце мне свет адкрываўся
З нейкім болем тужліва-зямным...

Загараліся айсбергі ўдалечы —
На экран ад іх пырскаў прамень...
Я на кожным тым айсбергу бачыў
Разам з промнем —
«Тытаніка» цень...

Свет і лёс наш іначай тут важаць:
У палёце імкліва-зямным
Мы, зямляне,—
ў адным экіпажы!
Мы заручаны лёсам адным!

На экране люструецца прысак:
Гэта, пэўна, даходзяць сюды
І успыхваюць зернямі рысу
Ў джунглях выбухі чорнай бяды?..

Узрываецца ў чуйным блакіце
Крык далёкіх і блізкіх зямель...
Свет, няўжо ў ледзяным лабірынце
Заблудзіў ты,
як той карабель?

Мы ляцім... І на трасе лядовай
Між таросаў чарнеюць хады...
Задзіраюць маржы галовы,
Адпаўзаючы да вады.

*1973*

## БЕЛЫЯ ГУСІ

Белыя гусі —
стойбішча крыг беласнежных —
спуджана з хваль паўзляталі.
Мусіць, вам здаўся птахам драпежным
«Іл» над ільдамі?

Можа, таросы, гулкія крыгі,
спудзілі пырскамі лёду?
З жахам белыя воблачкі крыку
збіліся тлумна ў чароды...

Толькі куды ж вы?!
Здурнеўшы ад грому,
з перапалоху сляпыя,
рынулі ўсе —
ў бок грому цяжкому,
на вінты віхравыя!

Руль — на сябе!..
З адчайнасцю злою —
у штопар! — машына ўзвыла.
Позна... Эх, позна...
Аб шкло ветравое,
цяжка ламаючы крылы,
залопаў гусак...

Я жмуру павекі...
Ад болю, ад нейкага жаху.
Вось і ўвесь эпізод.
Дзве стыхіі веку:
о, сустрэча двух птахаў!

*1973*

## СЛУХАЮ «SOS!»

Тры хвіліны маўчання — як рана.
Абрывае радыст перастук...
Б'ецца, б'ецца ў маю мембрану,
Як пчала у акно, дзіўны гук...

З-за ільдзінаў крутых, глыбозных
Ці то вецер крык чаек данёс?
Ці з пустых тумаоў прамозглых
Ледзь даходзіць, канаючы, «SOS!».

З трэскам лопае змрок імжысты...
Да прастораў я слыхам прырос.
Гэтай хвіляй радысты, радысты
Па ўсім свеце вышукваюць «SOS!».

Тры хвіліны — не больш!..
Тры хвіліны
Заміраюць марзянак ключы.
Тры — на кожную паўгадзіну! —
Свет трывожна і чуйна маўчыць...

Ці вы ўчулі, як выбух гранаты,
З майго краю прарваўся «SOS!».
Пакажу вам дакладныя каардынаты —
Маёй мовы, культуры лёс!

Абвядзіце чырвоным на карце
Гэты боль майго краю без сну.
І на пошук ратунку дадайце
Ну яшчэ —
хоць хвіліну адну!

*1973*

## КАЛЯ МАГІЛЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Паміж замшэлых плітаў і вякоў
я ледзь знайшоў грудочак той пясчаны.
Прынесці б мне сюды не ружаў чайных,
а з роднай нівы жменю васількоў.

Які цяжкі табе прыйшоўся лёс!
Нібы зярнятам тым над хваляй Ніла.
Не верыцца, што тут твая магіла,
а не ў краіне сосен і бяроз.

Ты, кажуць, вечна марыў пра зварот
да тых вытокаў, што з глыбінь бруяцца,
аб новых парастках патурбавацца,
каб не пабіў сухмень ці недарод.

Перастуціў к табе я грэбень гор
з той вераю зярнят у калашэнне,
што ты жыццём пацвердзіў і служэннем,
пакінуўшы іх мне — нібы узор.

З цяжкіх глыбінь ты праз мяне прарос —
прарос з пакутнай цемені магілы...
Маўчком стаю ў цяньку галін пахілых,
шукаю сіл,
твой згадваючы лёс.

*1973*

* * *

Я вывучаю прагна мову дрэў.
Пра што яны гавораць між сабою?
Што думаюць, калі ў зялёны спеў
Прыходзім мы з сякерай і пілою?

Пакуль кругамі боль не закіпіць
На свежых пнях, заліўшыся смалою,
Нялёгка мне ў маўклівасці лавіць
Высокі шум іх сцятага спакою.

Стаяць, нязрушныя, сасна к сасне
І горда углядаюцца у высі.
Мільёны год жылі вы без мяне,
А мне без вас —
і дня не абысціся.

*1973*

## ЛАСКАВАСЦЬ

З гадамі мы часцей, часцей,
як лісце, задыхаемся ад смагі.
Сябе мы пераносім на дзяцей.
Самім жа не хапае ўвагі.

Каханую ў штодзённай мітусні,
у спешцы ранішняй, за кавай,
малю у думках — быць ласкавай,
як у пялёсткавыя дні.

Ды не стае ні часу, ні пяшчоты
на перавале летняе пары.
Узятак самы з верасу ў бары.
І гэтак залаціцца хочуць соты!

Ад водару жыцця душа смыліць.
Яшчэ красуюць буйна ў лесе травы.
Якім цябе мне зеллем напаіць,
каб дзень з табой не хмурны быў —
ласкавы!

*1973*

* * *

Уражаны сустрэчнаю красой,
Сябе ўшчуваю — то паблажліва, то строга.
Мне слова памагае быць з табой
І пазнаваць глыбей сябе самога.

Краса раскалыханых хваль і воч
Так часта б'ецца ў бераг мой і раніць,
Што я махнуў бы сцежкаю наўзбоч,
Ды боязна ў душы штосьці апаганіць.

На галаву абрушваецца шал
Высокіх хваль, русалак асмялелых.
Навечна целу дадзена душа.
Бяда, калі душу губляе цела!

Расстанне абвастрае боль і зрок.
Іду і ціха гавару з сабою.
Вачам я не даваў адзін зарок —
Перад ліхой спакусніцай —
красою!

*1973*

## ЯКУБ КОЛАС

## У МІНСКІМ АСТРОЗЕ

Дзень абарвалі скрыгітам ключы.
Як спёрла грудзі ў мяшку каменным!
Бі ў дзверы акаваныя, крычы —
За дротам не пачуе дзень праменны...

Няўжо там дзень?
Густы, цягучы змрок,
Здаецца, скрозь — па краі ўсім разліты.
І ные да крыві кулак разбіты.
Тупее, слепнучы, напяты зрок.

Кандзей агідны — чэрава начы —
Глынуць сабраўся ўпартасць, песню, мары.
Ад слізкае сцяны, як ад пачвары,
Хіснуўся — сіл не зберагчы!

Прарваўся стогн... Ці гэта лязг ключа?
І голас, як чужы... Мутнее ява.
А вокал здані шчэрацца гугнява...
Здаецца, зломішся — гукнеш надзірача!

Гэй, стражнік!
Не... І ў гэты міг пакут,
Праз ноч, праз гэту цвіль камення
Пранікла быццам пасмачка прамення
І азарыла зрок:
Мой родны кут!

Мой родны кут!.. Лугі над Прынямоннем.
Дубы, як вежы... Шаты стромых хвой...
Як хораша, што ў дзень нялёгкі той
Прыйшлі сюды вы, ў чорнае сутонне!

І, выкраўшы з каменнае магілы,
Паэта ціха-ціха паняслі
Праз родны край, праз лёс усёй зямлі,
Каб словы нас будзілі і паклі:
«Мой родны кут, як ты мне мілы!..»

*1974*

## ЗАКОН ПАСКАРЭННЯ

Пануе над сэрцам закон паскарэння.
Паслушны і лайнер яму і Пегас.
О, сродкі сучасныя перамяшчэння,
Ці мне прыбывае свету ад вас?

Прыспешвае прага перамяшчацца...
Перамяшацца?
Я тым не падобны да дрэў,
Што вырваць карэнне магу, развітацца,
Падацца у свет, але потым вяртацца
Збалелай душою ў той кут,
што сагрэў...

Мне час дадае штосьці з кожным вітком:
Агляднасць расце!.. І Зямля заплывае
Мне ў сэрца у с я — як радзінны дом!
Ды штосьці паскорана ўсё ж забірае
Мяне найрадзінная і найсвятая,
Што бачыцца з высяў
кляновым лістком.

*1974*

## ДАЛЁКІЯ КАСТРЫ

Касцёр у яме бульбяной
Распальваю... Уверсе хвоі
Шумяць трывожна, заглядаюць,
Што я раблю... Падпальваю ламачча!
Агонь дрыжыць у ядлаўцовых лапках,
Калючы, рыжы, нібы хвост лісіны...
Курыцца ў яме горкі, даўкі дым...
Кароў паадганяўшы, сябра хутарскі
Спускае краем ямы, па пяску,
Мне асцярожна ў рукі, на бярэмя,
Снарад — як парасё з падбітым лычам!..
Яго мы тут рашылі падсмаліць.
Маўчыць, пакуль агонь бакі не ліжа!
Кладу ямчэй на вогненны сушняк.
Дрыготка, аслабела ныюць рукі...
Гарачы дым і слепіць і пяршыць...
Я адхіснуўся прэч!..
Шукаючы апору,
Рвануўся ўверх, чапляўся за пячуркі,
Каленкі абдзіраў, хапаўся, поўз,
Ды аб'язджаў на дно — ў куродым ямы...
Галлё сасны, ніжэй нагніся!

Пясок у яме жоўтай стаў сівым.
А хвоя чорнай, нібы маці...
Адкінутае хваляй выбуховай,
Ляжыць у непрытомнасці
Маё маленства.

*1974*

## ВАЎЧЫЦА

З лагва мы ўзялі чацвёра.
Адходзілі — шэрхла цела:
А раптам да воўчых нораў
І сама яна падаспела?!

Не данёсшы крывавай пажывы,
Застыла, вачам не верачы...
Узяла свежы след па ажынах —
Толькі цень мільгануў па верасе...

Гэта шэрая поўсць — ці то лісце?
Мох шарсціўся над пнямі лысымі...
За плячыма ў мяшку таўкліся
Ваўчаняты цёплымі пысамі.

Падганяючы нас, скуголілі.
На сляды падаў пах ваўчыны...
Пад калючай шчэццю голля
Мы адно — ад траіх адлучылі.

Тых — у вёску.
А гэта — заложнік!
Мех скігіча пад рыжай ігліцай...
І няўжо здурнець яна можа,
Асцярожнасць забыўшы,
ваўчыца?

Пах дзіцяці...
Пах шроту з урочышча...
Шэры цень на сцяжыну выбег.
Яна бачыла нашае схоўішча
І грудзямі ішла на выбух.

*1974*

## ГОД СПАКОЙНАГА СЭРЦА

*Марыйцы*

Можа, ў свеце і быў такі год,
Год спакойнага сонца,
Год спакойнага сэрца...
Мне б адзін толькі год — без нягод,
Поўны з венцамі, быццам вядзерца.

Каб зачэрпнуць з прадонных крыніц,
Не расплюхаць, не ўскаламуціць...
Мусіць, трохі паэты хлусяць,
Што мы прагнем адных навальніц.

Дожджык спорны шапоча ў траве.
Ты — як лекар мой ад бяссонніцы.
Я люблю, калі ў хаце суладнасць жыве
І ў сям'і — год спакойнага сонца!

Хоць бы год,
каб наш свет — без грымот!
Паласнуўшы, маланка ўсміхнецца...
Ты ж, як зорка, вяшчуеш год,
Год спакойнага сонца,
Год спакойнага сэрца.

*1974*

## ПАРАНЕНАЯ ЯБЛЫНЯ

Зарадзіла яблыня — параненая яблыня.
Кінуў камень нехта ў першы цвет.
А яна штолета чырванее ядрана,
Гоіць — не загоіць чорны след.

Я абмажу глінай — мо яшчэ паправіцца!
Як свае калена — шалем абвяжу...
А кара ўсё вышай жабіцца, каравіцца,
А з галіны кожнай — яблык па кашу!

Зарадзіла яблыня... Ці не з прадчування
Год нядоўгіх, злічаных — гэты жар ранет?
Выбух красавання, ядранае ранне
Вынесці спяшаецца у шырокі свет.

*1974*

## УПАР-ТРАВА

Расказваў бацька:
Бывае на лузе упар-трава.
Ты — касой!
А яна — толькі прыгнецца,
Затрымціць, зазвініць,
Да зямлі прыляжа...
Ты з размаху — яшчэ!
Шась!.. Толькі пыл ад грудоўя.
А зялёны кудлаты чуб
Прыхінецца і выслізне зноў
З-пад ляза...

Не старайся збіць.
Няхай сярод лугу
Застаецца зялёны касмыль.
Гэта — упар!
Скасі — усё роўна,
Калі будзеш везці сена,
Зачэпіцца за куст
І ўцячэ з воза.

*1974*

## ГАНЧАР

Ваду ў гляку,
Кіслае малако ў збанку,
Дух печы з гаючым праменнем,
Падпечак з яго сутарэннем,
Старадаўнія вежы з мурамі,
Жывучую вільгаць пад каранямі,
Гліняных бажкоў у храмах
(Таго, што Адама ляпіў,— таксама!),
Пеўня-свісцёлку з гарошынай,
Чаны з растворам-рошчынай,
Ранне дамоў абуджаных,
Хлеба прыпёк прысмужаны —
Усё, разам з гэтымі вершамі,
Ён важка рукамі вымешвае
І формаў дзівосных свячэнне
Шукае на крузе вярчэння
Зямлі.

*1974*

## КАМАРЫНАЯ АЛЕГОРЫЯ

Што там баюць пра мяне, камарочка,
Малалеткам галаву толькі марочаць,
Быццам шум з-за мяне учыніўся,
Калі хмельны я з дуба зваліўся...
Як жа мог я, камар, з высакосці
Пакрышыць, паламаць свае косці?
Мяне скіньце з завоблачнай кручы —
Не патрушчу я ног — я жывучы!
А вялікі з той кручы сарвецца,

Ад яго толькі мокрае месца.
Альбо скіньце вы з дуба асілка —
І рыхтуйце асілку насілкі!
Вось і гібель прыйшла мастадонтам,
Што не ўмелі лятаць над балотам.
І гіганты-стракозы звяліся,
Бо не ўмелі хавацца пад лісце.
Назаўсёды у бездані кануў
Час гігантаў і магіканаў...

Я лягу — нада мной верхавіны,
А ля вуха той спеў камарыны.
Разганяе камар маю стому:
Быць пігмеем?
Ці лепей — са стромы!

*1974*

* * *

Складанасці жыцця...
Усё складана!
Траве — расці!
Зямлі — радзіць аддана.
Складана брод знайсці.
Дарогу перайсці — складана!
Ісці сваёй сцяжынай у жыцці
Так, як табе наканавана.
Пакінуць след, сыходзячы ў нябыт,
Без ганьбы, без шальмоўства...
Складана чалавекам быць.
Астатняе ўсё — проста.

*1974*

* * *

Чагось як быццам бы не стала
Каля ляснога нашага кута...
Няма буслінага гнязда!
Адклекатала...
Адклекатала...

І ад бярозы той буслінай — пень.
Ён пеніцца вясной ад шумавіння.
І страты той няшмат,
ды ва ўспаміне
Крылом махае мне бусліны дзень...

*1974*

* * *

Чаму на квецень — халады?
Сякуць вятры дажджом, як лёдам.
Ды над ружовасцю вады
У венчыках — зачацце плоду!

Ідзе там спорнае тварэнне
Дзівос жыцця — цячэ агонь!
Знутры займаецца гарэнне...
Не астудзіць вятрам яго!

Дажджом расквасіла дарогу.
Вясельны ўбор — пялёсткапад —
Ляціць на лужыны... Ды сад
Святкуе хмельна перамогу!

*1974*

## МАТЫЛЬ

У трысңягу надрэчным першы промень
Разрэзаў цемрыва яго лічынкі —
Ад сонца ў сіняй пойме ён аслеп!
І паляцеў у мройны, цёплы ранак,
У сіні дзень свой —
першы і апошні!

Каб гэты дзень пражыць свой матыліны,
Ён поўзаў два гады бездапаможна
Лічынкаю па днішчы ручаін.
Ён два гады збіраўся ў гэты вылет!

Ах, як гулліва, вольна ён кружыў!
Наперадзе, здаецца, была вечнасць.
Антэнай вусікаў заслухаўся ў сусвет:
Стаяла ціша і грымела неба.
(«Не наваліся ў дзень мой, навальніца!»)
За дзень жыццё патрэбна абляцець,
Нектар з-пад кожнай зёлкі паспытаць,
У пары пакружыцца над вадой,
Каб шэраспёры, ўбачыўшы той лёт,
Панадна ўсплёсквалі на перакатах...

*1974*

* * *

Каштаваў я жыццю нямнога,
Больш з каша ішло, а не ў кош.
Можа, потым глаўбухі Бога
Парахуюць мой сабекошт.

Не курыў і не піў запоем.
Не кружыў каля славы свяціл.
Злу не спрыяў. Любіў святое.
Хоць шкадую: дзяцей не хрысціў...

Не спазнаў усяго, не пабачыў,
Ад жыцця браць усё не ўмеў.
Аднаго я хацеў —
без астачы
Праспяваць свайму краю спеў.

*1974*

## ПАРТЫЗАНСКІ ХУТАР

Калі ласка,
не зносьце гэты хутар!
Пакіньце ля самай дарогі стагоддзя:
з печчу-таўстухай —
колькі з-за чорнае засланкі
тут узыходзіла боханаў-сонцаў
(кожную ноч!)...
З прашараванымі ночвамі,
дзе кіпень круты з чыгуноў
вяртаў закарэлым бінтам і кашулям
кужэльную свежасць
(кожную ноч!)...
З трафейнай каністрай,
медным змеевіком на пліце,
дзе выціскалася сіняя моц —
па кроплі на раны
(кожную ноч!)...

І з тым абразом на куце ў ручніках,
перад якім на калені
  (кожную ноч!)
падала стомлена маці,
хрысцячы дзверы і вокны,
родную зямлю.

*1975*

## ДВА ЦЫКЛОНЫ

Два цыклоны, як два цыклопы.
Ледзь учулі адзін аднаго —
Разняліся на паў-Еўропы,
Сутыкнуліся:
                  хто — каго?

Выглядаюць людзі пагоды,
Ды не праўдзіцца штосьці прагноз.
Дзве стыхіі —
                  з Захаду, Ўсходу —
Шуганулі з халодных нябёс.

Пайшлі ўпрысядкі дахі навокал.
Захліснуліся рэкі... Патоп!
Два цыклопы глядзяць аднавока —
Не ўступае цыклопу цыклоп.

Месяц, два... Ні вясны, ні лета.
Навісь хмар не ідзе на згон.
Апантана прэ з-за паўсвета
На цыклон —
                  антыцыклон.

*1975*

4*

* * *

Каля старой плаціны,
Зашыўшыся у цень,
Гляджу, як з-пад насцілу
Зялёны б'е струмень.

Умшэлі ў ціне палі.
Спяць воды глыбіні,
Што застаўкі ўсе рвалі,
Крышылі камяні.

Млын журыцца на пенсіі.
Яшчэ ў муцэ, стары.
Яшчэ у мулкай пене
Сцішэлыя віры.

Ды стоена, ў напоры,
Трывожная штодня,
Вядзе перагаворы
З плацінай глыбіня.

*1975*

* * *

Пачынаю угадваць зорку,
Пад якой нарадзіўся на грані
Святла і цемры, на грэбні
Лясоў і бязлесся, на ўзмежку
Палеткаў і дымных ускраін...

Доўга не верыў, што недзе
Зорка ёсць і ў мяне!
Ды раптам
Скаланулася цяжка сэрца,
Забіўшыся, быццам пчала
На шыбе блакіту...

Як часта ў бяссонні заходзіцца
Яно, пэўна, чуючы водбліскі
Далёкіх магутных уплёскаў
Зорнага рэчыва...

Я ў тым ужо ўзросце,
Што прадчуваю зрухі сусвету.
Я чую, як промень дрыготкі,
Прабіўшы ўсе сферы і сцены,
Глыбока ўпіваецца ў сэрца,
Спазнаўшае сувязь...

*1975*

## ПЕСНІ ДРЭЎ

Дрэвы свету
праспявалі столькі песень —
мінорных,
калі на сэрцы у цябе пагана,
віхурных,
калі душой трывогі заўладалі,
плакучых,
калі не гоіцца цяжкая ростань,
водарна-хмельных,
калі ў табе каханне загняздзіцца...

Адгаманілі ў верхавінах,
здаецца, ўсе сугуччы і паўтоны.
Але зялёная калыска
яшчэ калыша столькі новых песень,
што іх, калі на добры пойдзе лад,
ніколі ў свеце не пераспяваць
дрэвам і людзям.

*1976*

* * *

Ты даравала ўсё... Густой травой
Хай тое зарасце... Мінуліся ілюзіі.
Свой даўкі боль
і горкі сорам мой
Ты мудра не выносіла на людзі.

Маю бяду,
Сваю — ўтрая! — бяду
Не выстаўляла для спажывы на
пасмешышча.
Хоць з мутнаю вадой
крыштальную ваду
Перамяшала гэтак недарэчы рэчышча...

Закон ракі...
Я п'ю зноў водар твой!
Ад самага вытоку з дна — свячэнне!
Рака жыцця згубіла б воблік свой,
Калі б не знала самаачышчэння.

*1976*



Маланка спаліла арэх,
Абвугліла мякаць каморкі.
Там зерне ўзыходзіла зоркай,
Там свет мой ружовы заднеў!

Той свет, як арэх спапялёны,
На вуснах гарэніць... Гляджу
На марыва промняў, дажджу,
На век, на разбег шалёны...

І толькі ў дыханні галля —
Ні спешкі, ні штурмаўшчыны.
Чаму ж твой закон не адзіны
Для ўсіх нас, матуля-Зямля?

Світанні і ночы густыя
Па жылах цякуць спакваля.
Чаму ж часам родзіш, Зямля,
Ты нас, як арэхі пустыя?

Мая светач-яснасць Зара!
Кранаюся чуйнасці ранку —
Рукой засланяю маланкі
Для мудрасці спелай ядра.

*1977*

## НА МАГІЛЕ
## ІВАНА ФРАНКО

*Міколу Ільніцкаму, паплечніку-сябру*

Благаславёна місія пяра,
Што стала кіркаю ў руках каменяра!
Грыміць удар!
Магутных рук узмах —
Вось дрогне пашчапаная скала,
Што цяжка навалілася на шлях...
Грыміць удар!

О, як азораны твой твар,
Няўтомны камяняр.
Снапом гарачых іскраў з-пад кайла?
Ці бліскавіца змыла цень з чала?
Грыміць удар!
Святы агонь — не з хмар.
Агонь — на скронь — струменіцца знутры,
Агонь непадуладных дум і мар...
Грыміць удар!

Нялёгка той гары!
Але яшчэ трымаецца гара...
Хто там упаў?.. На дол з абнылых рук
Сцякае боль — да ног каменяра...
Ну хто ж ты?.. Ўвасабленне даўніх мук?
Які праклён нутро тваё пячэ?
Ты, пэўна, і не барацьбіт яшчэ,
Ты не змагар,
А сейбіт і плугар,
Што любіць дом свой, жонку, родны кут...
Але адкуль знямелы крык пакут?
На вуснах — дзікі боль ахвяр?
Грыміць удар!

Агнём іскрыцца ў кірці вастрыё.
Пакутнік свету, ўстань!
Жыццё тваё
Не ўступіць лютай цемры
Каменяр!

*1977*

## КАМОЭНС

Шторм акіянскі
Патрушчыў, кінуўшы на рыфы,
Карабель... Шматкі парваных ветразяў,
Абломкі мачт, абсмаленыя дошкі,
Жывыя душы маракоў,
Іх крык апошні аб ратунку — ўсё
Глынула ў кіпені прадонне...
Ды глянь — які плывец у шторме
Спрабуе шчасця?

Няўжо мне гэта ўсё прыснілася?
Або ўсплыло ва мне з глыбінь маўчання —
Са дна пяці стагоддзяў?
Спрасоння не магу утаймавацца:
Задыханы, яшчэ ўпіваюся
Збялелымі да хрусту пальцамі
У нейкую смаляную дошку
На гарышчы бацькавай хаты...

А вусны шэпчуць мройліва:
«Памажы, кут бацькоўскі,
Твайму плыўцу ў шторме жыцця
Даплысці да высокага берага мэты,
Як калісьці з разбітага карабля
Даплыў да чалавецтва

Знакаміты бард, сын Адраджэння
Камоэнс,— ухапіўшыся
Адной рукой за дошку,
Другой рукой высока трымаючы
Над галавой — свае «Лузіяды»...

*1977*

## ВЫБАР

### 1

Сям'я ласёў, учуўшы звера дух,
Сарвалася з папасу — дай бог ногі!
Паперадзе важак сягаў за двух —
Каронай на хрыбце гарбатым рогі.

Але адзін прытомлены рагач
Пачаў здаваць, захлябісты, зблажэлы.
Не мог з другімі высціжыцца ўскач —
У гонцы ашалелай.

Нявылінялы, рваў ён аб сукі
Сваю нямогласць — поўсць на клочча!
І паласнулі па нагах клыкі
З адвечнай правятою воўчай...

2

Выводзіў чараду сваю важак.
Карчэўе тупат біў дваццаціногі.
Высока нёс ён, як збавення знак,
Арыенцір — каронай рогі...

Але сачыла ўпотай з хмызняку
Паквапістае вока... Што апошні?!
Зрок хіжа ўзяў прыцэл — па важаку!
Па важаку!
І прыгажун кульнуўся на скаку,
Агнём падкошаны...
Каронай рогі...

*1977*

* * *

Таемнасць першасных перапляценняў
мы спазнаем у стратах, спакваля.
Адною тканкай лісця і карэння
спрадвеку пераплецена зямля.

Крані адно звяно з набраклых парасткаў —
і недзе недарод і невырост.
Тапор ударыць —
спадцішка, па-варварску —
і здрыгане зямля за сотні вёрст!

*1977*

## ВЯЛІКАЯ КРАКОТКА

Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка —
Часоў бурлівых родны мацярык!
Была Кракотка,
як рака ў паводку,
Была Кракотка — гнеў, і боль, і крык.

Кракотка — гэта хвойны пах узлесся,
Гняздо за пазухай зялёных гор.
З таго гнязда заклекатала песня,
Што клікала з нізіны:
«Гэй, да зор!..»

Рашаўся лёс... Прадвесне гнала крыгі.
І вось тады з-пад стрэх мацерыка
Дрыготка пацягнулася да кнігі
Мазольная сялянская рука.

Святая прага ведаў і пазнання!
У родным слове чалавек ажыў!
Было тут вашай еднасцю змаганне.
А духам мужнасці Купала быў.

Хто знае, колькі іх адсюль, упартых,
Узняў да барацьбы змагарны край?
Недарам верш, якім пілуюць краты,
З зямлі вось гэтай здабываў Таўлай.

Нязломны дух... Жывая сіла мовы.
Жыву з тых дзён я вашаю красой.
Жыткевічы, Збраевіч, Трафімовіч...
Ля вас я грэўся словам і душой!

Я ўдзячны вашай дабраце і хлебу,
Хоць менее ўсё рук — іх кліча дол.

Вучылі ж вы, як сеяць зерні ў глебу,
Каб луста праўды асвячала стол.

Нашу я сёння, замест эпілога,
Гаркоту з вашых апусцелых хат.
За бурны век вы вызналі так многа!
Ды пра такое думаў хто?..
Наўрад.

Мой родны свет:
Я ў кожнай тут часцінцы
Жыву — дзялю трывогу і слязу.
І ўсё, чым з каранёў тут прычасціўся,
Я ў людства, як урок ваш, панясу.

*1977*

## СЯРГЕЮ ДЗЯРГАЮ

Ранкам,
Калі яшчэ пахлі дымам
Каменіцы і каласы,
Помніце —
Пеўнікі маладыя
Пачалі спрабаваць галасы!

Галасы тады ледзь праразаліся,
Ад натугі зрываліся ў нас.
Вы ў адказ —
толькі мудра ўсміхаліся:
Разумелі — дзе ўзрост, а дзе час...

Мяне ўразілі вы
Чыстым поглядам.
Сцяты боль... І сутуласць пляча...
Валасы густа ўсыпаны попелам,
Як пушком у драча-дзергача.

Ды з вачэй і з радкоў напорыста
Прамяніцца давер...
Не бяда!
Я не знаў праз якія вёрсты
Вы вярнуліся да гнязда...

Зрокам вашых радкоў,
Іх пальцамі
Я кранаўся нялёгкіх дарог,
Крыўд і праўд
гістарычнай памяці
І ўсплёску стыхій чатырох!

Ёсць паклады сумлення і годнасці.
Ёсць урокі...
А гонар — пасля...
Залатую расінку ў голасе
Толькі родная дасць зямля.

*1977*

* * *

Спачатку ўсё ж быў хлеб,
і быў ён — словам.
Спакон быў чалавечай мовай хлеб.
Пакладзены на стол,
пароўну разламаны,

як мудра ён яднаў плямёны,
свет людзей!
Здабыты ў поце твару, хлеб прарочыў
лучэнне чалавека з чалавекам.
Вяртаючы касцям трываласць крэмня,
а вуснам — шэпт ласкавы траваў,
хлеб мацаваў адзінства чалавека і зямлі.
Што можа быць трывалей і смачней,
чым той акраец, што падзеляць
гора і нястача?
Любоў і чалавечая усмешка,
сагрэтыя даверам разумення,—
які гэта салодкі, незаменны,
духоўны хлеб!
Святое цела хлеба гэтага
пераламіце і раздайце
усім галодным...

*1977*

* * *

Ці мне можна ў час сустрэчы
Так сябе трымаць — як калісь?
Ці магу з лугоў надрэчных
Падарыць вясну — як калісь?

Ці мне можна будзе ўлетку
Ноч блукаць з табой — як калісь?
І ці будуць тыя кветкі
Пахнуць хмельна так — як калісь?

*1977*



Цябе, мой край, я толькі распачаў...
Я столькі год насіў і сніў
Цябе, як кажуць,
край — мой абычай,
Зялёны неагледжаны масіў.

Я толькі развязаў той дзіўны сноў,
Крануў смялей той неабжыты кут,
Дзе кожная сцяблінка ніў, лугоў,
Дзе кожная душа жывая —
цуд!

Гняздоўі неадступных дум, трывог
І вёскі крэўных душ і дрэў,
Нібы цяпельца, я ў сабе бярог,
Каб хтось са мной
далоні адагрэў.

*1978*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Бацькаўшчына —
гэта не бацькавы спадкі.
Як вымеру ўсё, што табою даецца?
Ці зразумеюць мяне нашчадкі,
якім я багатым быў спадкаемцам?

Бацькава шапка, пуга, папруга...
Вы змалку мяне не вучылі на пана.
Вучылі, як трэба хадзіць за плугам,
каб коска была, як агонь, адкляпана...

Мы ехалі з рынку... З-пад лапін кашлатых
хіснуўся хлапчына вазку напярэймы!
Яго даганялі допыты, краты,
а ўслед ганчакамі яхкалі стрэлы...

Ах, конік, ратуй чалавека!.. Здзічэла
панёс ён, панёс... З бяды то ён вывез!
Ды колам гарачым вазок — на карчэўе!
Мяне, нібы пёрка, з палукашка вытрас...

Ад бацькі мне ў спадчыну — ўцехі, напасці.
Ды гоман пяшчотны дубровы і мовы.
Не ўсяму прапасці —
чаму з воза ўпасці!
Падняла мяне Бацькаўшчына
на шляху суровым.

Даруй мне, бацька: пракосам, загонам
пайшоў не тваім...
І ўсё ж — тваім я!
У мяне — твая думка, душа
і гонар!
І ўсё, што ахрышчана
тваім імем.

*1978*

## КОЛАС НА РЖЫШЧЫ

Зазімак выхаладзіў неба.
Вятрыска свішча над іржышчам.
Зламаны колас на сцябліне —
як журавель на папялішчы.

Не станеш ты у печы хлебам,
крупінкай радасці дзіцяці.
Цябе не будзе ў тым акрайцы,
што пакладзе ў дарогу маці.

Сябры па каласістай ніве
даўно на хлебадайным шляху.
Твае ж нязжатыя зярняты
хоць падмацункам будуць птаху.

Калі не рунь, калі не луста,
то хоць лятунак — сон тужлівы:
крылуе птах, у дзюбе колас —
трымціць галінкаю алівы.

*1978*

## САЛАВЕЙ

Ну і дождж зарадзіў!.. Па ядлоўцах дразды
Не трапічаць:
Пэўна, ў дзюбы набралі вады.

Да пяра, кіпцюра вымак птах і звер.
З лісця кроплі
Дрыготка ляцяць за каўнер.

Толькі што там за гук —
дзе хмызняк ды карчы,
Дзе за плёнкай замглёнай
Плюскочуць дажджы?

Перазвоны крыштальныя ручая?
Перашчоўк пералівісты
Салаўя?

Я крадуся праз голле да песні тае —
Вадаспадам халодным
Мяне абдае.

У «каленцах» зіхотка іграе прамень.
Я ж не чую змакрэлых
Ні плеч, ні калень...

Асыпаецца ў кроплях то срэбра, то медзь.
Салавейку і ў непагадзь
Трэба ж пець!

Але што варухнулася — звівы ўваччу?
Ці гадзюка на пні?
Ці струмень дажджу?

Неахвотна яна з пня саслізгвала ўбок —
Не адводзіла з песні
Ўтароплены зрок!

Ртуць халодным струменем сплыла
між куп'я...
Няўжо слухала тут
І яна салаўя?

*1978*

* * *

Закружыліся годы мае,
Як вятры ў ліставеі...
Толькі б вызнаць таемнасць
Квітнення палеткаў, садоў...

На прыбаўку гадоў —
Да жыцця! —
Аніякай надзеі.
Мне б прыбаўку жыцця —
Да гадоў...
Жыцця да гадоў!

*1978*



## МАТЧЫНА ЖЫТА

**Паэма**

---

**1**

На пагорку, за вёскай,
пад купай старых бяроз,
я застаў толькі свежы грудок
з крыжам:
*«Ефрасіння Смалянава*
*1928—1944».*

**2**

Зямлі патрэбна жыта... Запавет
адзіны і спрадвечны — людзям, нівам.
Нясу яго я ў слове лейтматывам
праз лёс уласны,
праз трывожны свет.

Я вызнаў боль і праўду каласоў
на матчыным загоне... Колькі перажыта!
Дазволь наказ твой, матчынае жыта,
як зерні ўзяць —
з тваіх зямных асноў.

Твой даўні боль —
мой пажыццёвы крыж —
нясу я зноў за вёску, пад бярозы...
Я кіну тыя зерні не ў барозны,
а каля сцежкі — ў свет,
дзе ты ляжыш.

Рассыплю іх...
Тры сажні — твой загон.
Ён зарунее густа і трывожна.
Ты выглянеш з-за цеснай агароджы,
свой жвіравы пакінуўшы палон.

Ды нехта апярэдзіў: твой грудок
ужо даўно праклюнулі зярняты.
І з нематы магільнай прарасла ты,
сцяблінка, зялёны каласок...

Зямлі не адрадзіць твае красы:
закон ёсць непаўторнасці ў прыродзе.
Але чаму здаецца: узы одзяць
твой стан-сцяблінка,
вейкі-каласы?

Чакала ты мяне?.. Я з кожным летам
надходжу да цябе — бліжэй, бліжэй...
Ды і тады не будзе мне лягчэй,
калі мой свет
з тваім самкнецца светам...

Чаму на знак нядобрага чуцця
ў той дзень я не прыйшоў на паратунак?
Чаму табе не суджан быў кірунак
пасля пакут —
да паўнаты жыцця?

Калі б там быў —
здаецца б, заслапіў
ад кулі здраднай маладыя вёсны.
Зірну ў той час — і болем невыносным
павее зноў
ад каласоў, ад ніў...

3

Жыта зжалі.
Пасляваеннае першае жыта:
колас падкошаны — ў касцы прабітай...
Жыта вяртала трывожна
з пожні —
гільзы, біклажкі парожнія,
пісьмы салдацкія —
з пекла апошняга бою,
і фотакарткі,
спавітыя нашай журбою,
ярасць асколкаў, ствалоў варанёных...
Жыта вяртала імёны, імёны —
на кацялках,
па крывавых рубашках,
алюмініевых лыжках
і спражках...

Сцяблінка кожная,
колас, камень
чадна прапахлі дымком гаркавым,

попелам, стогнам, пылам дарожным —
мы іх вязалі
ў снапы на пожні...

Першы сноп — матчын,
самы сцяблісты,
на галашэнне,
на боль каласісты.
Колькі ўздыханняў — гора не згасла!
Ледзь абняло гэты сноп перавясла.

Другі сноп — Фросін:
колькі ў ім бедства!
Горкіх, сіроцкіх дарог
яе бежанства,
што ад франтоў уцякала, тулялася —
аж перавясла ў снапе
развязалася!

Трэці сноп мой —
ён танчэй на нягоды.
Ён дае згоду
жнеям хаваць у збанку прахалоду...

Тварам да ўсходу
стан разгінае Фрося:
сноп замірае
са жменяй калосся...

4

Снапы мяне добра угрэлі —
укладвала Фрося воз.
Рублём я ўціскаў, каб на грэблі
калдобісты шлях не растрос.

Вазок наш пакоўны, бухматы —
пакрэктвае... Едзе тут шмат
і новых засеваў багатых,
і стрэх залацістых для хат.

Мы стогн пакідаем на пожні —
з натужлівым рыпам калёс.
Мо ў нашага жыта апошні
такі ўжо калдобісты лёс...

Хто толькі не квапіў!.. І ўсякі
цябе дратаваў на свой лад...
Пад шапкамі бабкі-дзесяткі,
як хаткі —
вёсачка хáт!

Паедзем мы, вёсачка, ў вёску,
пярэбары ў добры час!
Пустога іржышча палоска
праводзіць журботліва нас.

Вячэрняя грэбля п'яна
калыша калдобісты воз.
З бакоў мы — з густым туманам —
на варце ля дрогкіх калёс...

Ды воз — пахіснуўся грузна!
Трымайце ж сцяну гузыроў
зацята, і плечы, і вусны,
і ў скронях гарачая кроў!

Штурхайце ж вы, рукі і словы,—
яшчэ хоць на крок, на крок! —
гару, што абвалам гатова
змахнуць нас у гразкі рышток...

Хто ж думаў, што гэтак хіспецца
і лёс наш,
як гружаны воз?
Што суджана будзе сустрэцца
нам з наступам новых пагроз?

На шлях выпаўзала з абрэзамі
тады яшчэ часта вайна.
Вазы з кірмашу launched
зграбала ўмалот з гумна.

Высочвала
сельсаветчыкаў
на грэблі ў прыцемку дня
гайня
бітых Шкробатаў, Зеньчыкаў...
Мы ўчулі спалох каня...

**5**

— Ха-ха!..
— Заселі, ядрона вашу, па самыя ступіцы...
— Чый гэта малакасос?.. Хімін?
— Ты знаеш, каму будзеш здаваць паставачку?
— Прывязеш на круточынскі хутар!.. Сам!
— Тут баба, ядрона палева!.. Бежанка?
— Ух ты! Падыдзі, красунька...
— Будзе нам, Гэнька, добры выкуп...
— З барышом, ха-ха!
— Парні гэтага вераб'я... Хай не скача!

6

Ад вёскі ударылі фары.
На шлях паласнула святло.
Замерлі дзве вольхі ў пары.
Нікога... Нідзе...
Як змяло...

Прарвалася гора ў дзяўчыны...
Паедзем!
Прайшла ля вярбы
салдацкая песня ў машыне,
тручыся аб нашы снапы...

Напэўна, ўсё ўладзіцца ў свеце,
аціхне, як гром над шашой.
Ці столькі бяды, ліхалецця
вісела над кожнай душой?

У пастку тут крыўдна трапіць...
Ці столькі спазнана раней?
Збудзілася ўсё ў табе — раніць!
Паедзем!
Там будзе раўней!..

Вунь накрыж дзве зоркі упалі.
Парыпвае Зорны Воз.
Няйначай, і ён са снапамі —
па прысаку шэрых нябёс...

7

Ток...
Выпратваў снапы адзін я...
Тут учора, пры цёмным вазку,
у гуменцы, сцішэлым дзіўна,
ты кранула маю руку.

Грудавым разнатраўем мурожным,
палявою цяплынню жніва
густа пахла... Дрыготка-трывожна
штось хмялець пачала галава...

У табе штось парыўна наспела!
Працінаў мяне поціск рукі.
У маўчанні тваім нешта пела,
віравала, як плынь ракі.

Ты прыпала ў трызненні нейкім —
мне на рукі сплываў агонь!
Шапатлівыя, шорсткія вейкі
быццам сыпалі іскры ў далонь...

Што з табой?
Адхіснулася спуджана.
У гарачцы і рукі і лоб.
Пэўна, тое, што ў сэрцы разбуджана,
як сцяблiны, не звяжаш у сноп.

Той выпадак на грэблі гразкай
ці не стаўся апошнім штуршком?
«Я паеду...» — і ўдарылі цяжка
словы,
сказаныя цішком.

«Я паеду...»
Праз ноч прыстаронка,
дзе шуршанне ды піск мышэй,
ты глядзела на бераг свой стромкі,
на зямлю, што няма даражэй.

Там, ля вашых Смалян,—
бор смалісты,
яр цяністы з лясною травой.

Як стрыкаецца памяць дзяцінства
у маліnніку
крапівой!

«Я паеду...»
Куды?! Толькі ж памяць!
Дзе той бор па-над ярам крутым?
Лес, як лёс твой,
даўно патаптаны.
А Смаляны?.. Сяло?
Кроў і дым.

Не шукай там ні маці, ні хаты.
Пакланіся ды едзь сюды.
Будзе доўга агонь, тройчы кляты,
тлець пад попелам чорнай бяды...

Бор камлісты і ў нас пасечаны.
Цень чацвёртай сасны... у крыві.
Пад страху
кроплю гора Смаленшчыны
прыгарнула матуля...
Жыві!

Будзь у нас!
Ці загон табе вузкі?
Ці ж ты ў хаце у нас — не свая?
Прытуліў цябе край беларускі.
Прыгарну цябе я...

Мова вуснаў!..
Як глуха, трывожна
разрастаецца ростань ва мне...
У абдымках згарае
«не можна...»,
у пацалунках канае
«не...».

## 8

Прыстаронак з прымятай саломай...
Ды праз ноч, праз шуршанне мышэй
зноў глядзіць, не пагашаны стомай,
неспакой тваіх цёмных вачэй.

Праз дзіравы застрэшак зорка
ледзь свіціцца з начной сінявы.
Ты ў сусвет упіраешся зрокам,
а сама — ў маіх думках...
«Жыві!..»

Прыгадала: цябе партызаны
апазнаць ішлі — можа, дачка?
Быў гаючы для іхніх ранаў
свежы подых твайго кутка.

Тваёй мовай, тваёй слязою
гаварыла зямля смалян.
Ты для многіх была сувязною
іх лясоў, каласоў,
іх палян.

Што пасеяла гэтую смагу
непатольнай радзіннай любві?
Хто пасаг гэты даў — без пасагу?
І прысягу...
А шэпт мой: «Жыві!..»

Там жыццём не была ты пешчана —
і адкуль жа пяшчоты бязмеж?
Ах, Смаленшчына,
ты, Смаленшчына,
і няўжо ты яе забярэш?

Ад хаціны, ад матчыных гоняў,
ад сцяжынак, што поруч ляглі,—
яснасць воч, цеплыню далоняў
забярэш да свае зямлі?..

Ты прыўстала спакойна і пругка,
апраўляючы ўбор...
«Не крыўдуй!»
Наш абдымак — нібы парука
незабыўнасці...
«Я пайду...»

Павязлі цягнікі маю тайну...
Ты ўжо недзе ў дарозе... А мне —
рэха колаў,
агонь той расстайны
ды твой воблік балючы ў гумне...

9

Прыналяж, мой цапок,
не віхляйся, лайдак!
Бі —
          вось тут!
Бі —
          вось так!
Каб аж пырскаў ток,
каб падскокваў снапок!

Калаці не гузыры —
каласы узвіхры!
Гупай роўна з-за пляча,
каб аж рэха — ад біча!
Ды не пляскай па снапах,

а круці,
калаці,
як у бацькавых руках.
Помню, клаў ён з тарпы
ў два рады снапы.
Цупу-лупу,
цапок,—
і няма капы!
Толькі пошчак па гумне!
А ў мяне?
А ў мяне?
У два рады клады —
калаці ж, мой біч,
за ўсіх тых, каму
ў тры цапы не біць...

«Адпачні, ты уходаўся трошкі...
Падсілкуйся... Ды скінеш з тарпы»,—
у гуменца ішла пасля ўхожкі
маці —
білі мы ў два цапы.

Планавала:
вось гэты ўмалот
мы, сыночак, здамо на фронт...
Потым звыш — яшчэ тройчы пасад —
за... аднаасобніцкі лад.

А затым — і пасад
на сяўбу...
Ды хаця б да каляд —
і ў губу...
Уздыхала падчас:
«Ой, хутчэй бы ўжо той калгас...»

## 10

У гумне,
на каленях стоячы,
пры ўмалоце, ля кучы зярнят,
вучыўся і я веяць жыта.
Бацькаў шуфель,
адглянцаваны да бляску зярнятамі,
з заміраннем тапіў я
ў сыпучае золата...
Уз-мах!
І, здаецца, на міг застывалі —
і вочы, і шуфель парожні,
вераб'і на гуменіцы,
цэлы свет!..
Толькі дзынкалі звонка, як промні,
ўрассыпную па току зярняты.
Спакваля асядала мякіна,
ападала пазаддзе...
Толькі чыстае, спелае зерне
з гуллівым падскокам ляцела
да расчыненых насцеж дзвярэй,
далёка, далёка —
праз гады, праз нястачы і голад,
праз дзіцячую хлебную радасць
у наступны ўраджай
зямлі...

На золаце адвеянага жыта,
перад тым, як зачыніць гумно,
маці шурпатымі пальцамі
пісала выратавальны
крыж.

11

— Ха-ха!..
— Прыгатовілі паставачку, ядрона налева?
— А мы што на грэблі казалі?.. Забыўся?
— Мы зараз памяць надточым!..
— Запрагай, малакасос, каня!.. Жыва!
— Вы што тут — аглухлі? Насыпайце мяхі!
— І не пікніце! Растрыбушым!
— Агнём апустошым... Чуеце?.. Амін!
— А дзе ваша дзеўка? Бежанка?
— Укрываеце? Ад мяне не ўцячэ!
— Звязём і яе на вазку...

12

Не ўратаваў ты нас, бражкі гарлач.
Горкі урок навукі!
Мама,
ты не ўбівайся, не плач.
Не апускаць жа нам рукі.
Я ўмалачу — на пастаўку, засеў.
След іх віхляецца ж п'яна...
Колькі загонаў у жытняй красе,
усмешак дзяцей
абакрана!

Шкробаты... Зеньчыкі...
Што іх клясьці?
Злосць іх начнога бадзяння
на узбалоццях, па золкім трысці —
ёсць хіба горш пакаранне?

Колькі мы ў цёмных імшарах, барах
самі гібелі — па спратах.

Сёння па тых жа кустах, хутарах
гоніць іх жах
адплаты...

Фрося,
мяне часам хіліць журба...
З'ехала ты — і ні весткі.
Маці ўздыхае: ўпусцілі дарма
мы гадаванку нявестку...

Дзякуй, збярог
цябе твой парог!
Грозіць дарма недабітак.
Ён як учэпіцца... Хопіць трывог.
Мама,
будзе ў нас жыта!

13

Пара сяўбы...
Зямлі патрэбна жыта.
Патрэбна жыта плугу, баразне,
далоням сейбіта і баране,
абжытай старане
і неабжытай.

Патрэбна жыта, каб расправіць стан,
глыбіннай сілай выбухнуць чароўна
вясной...
Зямлі далёка не ўсё роўна:
расце на полі — жыта ці бур'ян.

Зямля рунець жадае аксамітам.
Ёй не ўсё роўна:
сноп альбо акоп.

На свеце, мусіць, добра ўсё было б,
каб людзі болей думалі
пра жыта!

Як думалі тады, калі вайну
на Захад гналі... Чыстае насенне!
Калі не мех, то ношку,
хоць бы жменю
укінуць на граду ці ў баразну!..

Той восенню пра матчынае жыта
успомнілі палі і цягнікі.
З краёў далёкіх ехалі жанкі,
вязлі ў абмен сякі-такі пажытак...

Знаёмае хусцінкі сіні ўзор
аднойчы згледзеў я: здалося —
ох, як цяпло ўнутры прайшлося! —
Фрося!..
Па-свойску закіроўвае у двор.

Вярнулася?
З далёкіх папялішч
ты зноў да нас прыехала, смалянка?
Я ў думках клікаў —
ты пачула кліч!
Ты, як буслятка, з попелу буслянкі...

Я ўжо хаду прыспешыў ад гумна,
аб асцюкоў кашулю не абтросшы.
Ды Фрося... скіравала не адна.
Я стаў на міг,
да весніц як прыросшы...

Быў з ёй салдат — карчысты, рабаваты.
Мне халадком павеяла знутры...
Ды мы — сябры!

Мы болей — чым сябры!
Крыжуюць сцежкі
зноў ля нашай хаты!

«Фамін...» —
кляшчыста цісне ён руку.
Нясе таропка рэчы да парога.
Падміргвае... Не трэба мне нічога!
Мая аздоба, ўцеха —
не ў мяшку...

Мяне смяшыць рухавасць Фаміна:
ўвіхаецца ён з вымушаным спрытам.
Пара сяўбы...
Зямлі патрэбна жыта!
А ўсё ж чаму... чаму ты не адна?!

Ты ўсё такая ж...
Толькі лёг ля шчок
якісьці цень засмучана-суровы.
Густыя, шорсткія, з надломам бровы
ды каля вуснаў —
стоены смяшок...

Сюды прыйшоў з табою перажыты
боль новых страт —
ён попелам смыліць!
Боль хат, зямлі...
Ты ж — залатая ніць,
што звязвае надзеі іх на жыта!

Прыходзяць людзі... Думы над чалом
адныя ж кружаць — пра аблог знявечаны.
Гаворка... Клопат спраў.
Сядзіць Смаленшчына
з былой Заходняй нашай
за сталом.

14

Ехала жыта...
Першым з канца
рэшата выйшла Адася Крыўца.
Рэшата ў латах, як сам гаспадар.
Рэшата з коптурам
несла свой дар.

Выбегла,
бразнуўшы клямкай каморы,
сіта салдаткі Тадоры...
Белай шчакой да мяха тое сіта
цяжка прыпала...
Ехала жыта...

Выплыў Антосеў гарнец стары,
сплецены некалі з лыка ў бары.
Спорна кульнуўся ў прадонне мяшка —
стукнула ў донка рука!

Бразнула ў Тэклі вядзерца скупа,
з шыбін
дзяцей пазірала купка...
Выграбла з кубла...
Спагада ўваччу.
Сыпнула ў мех...
(«Сабе ўмалачу»!)

Вылез з-за вясніц паўмісак Аўгінні
той, у якой, кажуць, поўныя скрыні...
Можа, не так у іх сёння і поўна —
дзякуй табе усё роўна!

Дар умалоту ішоў са стадолаў,
золата нёс у шырокіх прыполах.

Неслі засекі, каморы, кадушкі
меру — то з венцамі! —
то паўгарнушкі...

Ехала жыта...
Хто трошку,
хто ношку...
Хто толькі так пастаяў ды пабожкаў...

Мерцы няёмка падчас, ды не грэх:
сыпне — і поўны пад завязку
мех!
Ехала жыта...
Цяжэла ў падводзе.
Бабкі стаялі ля весніц:
«Хай родзіць!»

Вось і дом Шкробата...
Хай бы уранку
жыта мінула яго мураванку...
Бразнула брамка...
У вочапе рук
рэшата выйшла на брук.
Вулка замерла... Не, не насенне —
рэшата важка несла каменне!
Буркнула: «Дурніскі... Прыйдзе час —
гэтак і нас
давядзе калгас...»

Рушыла жыта ад мураванкі
далей — ад чорнай яе падаянкі.
Тых, хто лютуе, хто пагарджае,
жыта развражыць яшчэ
ураджаем!

Ехала жыта...
Уцешна, сурова...

Выйшаў даўно умалот мой са схова.
Лёг на падводу мех самавіта...
Ехала жыта.
Ехала жыта.

### 15

Няўжо расстанне ў нас ізноў?
Над галавой вятрысты час
пранёс аблокі гора, сноў —
няўжо расстанне ў нас?

Чаго ён будзіць зноў, той шум
ялін вячэрніх, саснякоў,
супольнасць нашых сцежак, дум —
чаго ён будзіць зноў?

Чаму так горне тут двaіх
начная ціша, родны кут —
да рук тваіх, да шчок тваіх,
чаму так горне тут?

Нашто той сэрца стук, калі
ужо наспела ростань рук,
вачэй, бароў, дарог зямлі —
нашто той сэрца стук?

Нашто трывожыць лёс, які
прывaражыў да родных гнёзд,
кладзе служэнню шлях цяжкі —
нашто трывожыць лёс?

Чым нас сустрэне дзень другі?
Плывуць Стажары ў хмарны цень...
Зямлі бацькоўскай берагі —
чым нас сустрэне дзень?

16

Ранкам у акно
трывожна пастукала тэлеграма.
Са шпіталя. Ад бацькі.
Я збіраўся ў няблізкую дарогу.
Шчаслівай дарогі і табе, матчына жыта!
Табе, Фрося!.. У дарогу заўтра і вам!
Розныя падхопяць нас цягнікі, розныя шляхі!..
Што творыцца на вакзалах!
Едзе жыта на дахах вагонаў, у тамбурах,
на прыступках, на скразняках платформаў...
Як жа ты дабярэшся,
матчына жыта?..

У задусе вагоннай палічкі
мне прымроіўся сон:
дарогі ператварыліся ў рэкі,
мяшкі жыта — ў белыя рыбіны...
Белыя рыбіны
спаважна плывуць на новыя нерасцілішчы...
Прыгожыя белыя рыбіны з жоўтай ікрой
чародамі тоўпяцца на перакатах, заторах...
Вось масток — як быццам наш — на вакзал
з ніцай, дрыготкай вярбой над плынню.
Пад мастком — утравелая рачулка.
Белыя рыбіны
трывожна плывуць у цёмна-зялёнай вадзе...
Нейкія цені хіжа стаяць з асцямі.
Высочваюць... Аднаго пазнаю:
Гэнька Шкробат!
Задыхаюся, крычу!
Ён нават не павярнуўся...
Восці б'юць з размаху ў белую рыбіну!
Жоўтая ікра плыве
па зялёнай траве...

**17**

Зямлі патрэбна жыта... Ды ў раллю
які яго нялёгкі шлях зваротны!
Хто толькі не цікуе з падваротні...
Патрэбна жыта і раллі
і варанню!

Патрэбна жыта хіжаму жалезу,
патрэбна жыта чорнаму ствалу.
Не аднаму дабру, але і злу!
Патрэбна жыта
пад мастом абрэзу...

Гразіла жыту змова іх цішком:
не пройдзеш ты на братнія загоны!
Лепш вып'ю цябе — з трубак самагонных,
лепш тройчы ў багне утаплю з мяшком!

Ды ў сэрца бражнае зайшла бяда:
яно нямала перабрала ў свеце,
ды бежанка-дзяўчына — на прыкмеце!
(«Калі не я — агонь вазьмі, вада!»)

Каціла важка матчынае жыта
з пагорка...
Фрося, ўскоквай на хаду!
З мяшка струменіць
цёплы хмельны дух —
тут спорна дыхаюць
мільёны жыццяў!

У просінь ранішняй смугі густой,
на перасіплы голас паравоза
спяшаюць тыя жыцці... Ды пагроза
рванула за ляйчыну крута:
«Стой!»

Фамін быў сам свінцовы на удар:
хтось шуснуў праз парэнчу
(ўскрык апошні!)...
Асеў яшчэ адзін, як мех парожні...
Ды паласнуў агонь салдату ў твар...

Як цяжка, сцята асядаў ён сам!..
Насціл пад ім ружовеў... А на возе
ў мяшкі аберуч упілася Фрося:
«Я жыта вам —
не дам... не дам!»

Не адарваць...
Дарма шалееш, Гэня...
Адзенне на дзяўчыне, блузку — рві!
Ды рук худых, зацятых да крыві,
не адарвеш ад жыта
на глумленне!

Чыгуначная змена з цягніка
вярталася апоўнач з позніх рэйсаў...
Ударылі калы...
Агонь абрэзаў...
Кроў апаліла ўсё нутро мяшка...
Мільён працятых жыццяў...

18

На пагорку, за вёскай,
пад купай старых бяроз,
я застаў толькі свежы грудок
з крыжам:
*«Ефрасіння Смалянава*
*1928—1944».*

19

Па мастку — гром калёс.
Едзе новы ўраджай!
Едзе стома...
Радзіны...
Вяселлі...
Ліст журбы маёй горкі, нібы малачай,
нібы кураслеппае зелле...

Я ступаю цішком
на крывавы насціл —
і цямнее ўваччу небасхіл...
Гоніць плынь па зялёным пяску —
луску...
луску...

Там —
зярністы пясок з-пад кары
ці крупінкі ікры?
Ой, пясок жвіравы, зярністы,
ікрысты...
ікрысты...

Аплыло крывёй цёплаю
матчына жыта,
маё светлае дзіва,
боль непазбыты...

Жыта рушыла ў шлях свой!
Фрося... Фрося...
Ты з набраклых зярнят
узрасла там калоссем
на радзіннай зямлі...

## 20

Ідзе сяўба...
Зямлі патрэбна жыта.
Патрэбна жыта кранам, лемяхам,
маторам цягавітым і рукам,
абжытым берагам
і неабжытым.

Патрэбна жыта, каб расправіць стан,
глыбіннай сілай выбухнуць чароўна
жыццю...
Зямлі далёка не ўсё роўна:
на полі родзіць —
жыта ці бур'ян?

Зямля рунець жадае аксамітам.
Ёй не ўсё роўна:
сноп альбо акоп?
На свеце, мусіць, добра ўсё было б,
каб людзі болей думалі —
пра жыта!

Каб думалі пра жыта гарады,
ў глыбінях — нафта,
ў домнах — плаўка сталі.
Каб думалі пра жыта магістралі,
асфальтавыя плошчы, правады.

Каб думала пра жыта неба!..
На арбітах
і тут, на кожнай пядзі, я малю:
не разлучайце жыта і зямлю!
Зямлю, крый бог, не адбірайце ў жыта!

## 21

Матчына жыта...
Ты гарачай крывёй набрыняла —
уставала!
Зямля цябе попелам накрывала —
уставала!
Саранча спакон веку цябе аб'ядала —
уставала!
Абкрадала, таптала любая навала —
устаяла!
Перад пагрозамі, здзекам, адчаем —
каб разысціся па свеце
ўраджаем!

*1976*



# ХІМІНА ХАТА

**Паэма-маналог**

*Памяці маёй слыннай*
*бабкі Хімы*

## 1

Хто ўстрывожыў спакой мой крокамі?
Гэта ты, мой нашчадак і госць?
Мае вочы забіты аполкамі.
Забыццё. Парахня. Млосць.

Што ж блукаеш між прывідаў хаты?
Ах, даводзішся мне раднёй?
Клічаш Хіму? Адзін з вінаватых
перад ёй
і яе дабрынёй?

Ты пашаны яе радаслоўнай,
яе шчодрасці слоў і скіб
не сплаціў,

не зраўняў мерай шчодрай
на вачах навакольных сяліб.

Ці не слава яе табе сніцца?
Хочаш вызнаць яе карані?
Зазірнуць у яе таямніцы?
Вытры шыбіны
ад парахні.

Мне зірнуць трэба вокам чыстым,
вокам памяці — ў далеч тых дзён.
У пажарышчы
імперыялістычным
воблік Хімы мне добра відзён.

Калі след —
не ў мужчынскім пачатку,
а жаночай натуры хвала
ахрысціла цябе,
дык пячатка
бабкі Хімы трывалай была!

**2**

Гаспадынька мая...
Паланянка.
Чуў жа сам пра яе сляды!
Сам ты ўведаў навалы, маланкі,
але гэта —
другі круг бяды.

Кругам першым, палонам-горам
ці падзівіш пакутны наш кут?!
Быў ён першым вугельчыкам чорным
ў папялішчы наступных пакут.

Пад пластамі вугалля і гора
набракала, як зерня ўзыход,
незабыўная тая гісторыя,
што прынёс чатырнаццаты год.

Ды не Хімін той боль, не мучэнні —
я хацела б табе, радні,
перадаць яе круг ачышчэння,
патаемнасць яе дабрыні!

3

Помню, вечарам, грукнулі ў сенцы
тры салдацікі... Стрэльбы ў куток.
Папрасіліся — пераадзецца,
бо куды ж было дзецца,
сынок?

Гаспадынька за стол дашчаны
пасадзіла тых, рускіх, трох.
Былі цёплыя — з печы — дранікі
ды ўпараны добра гарох.

Помню, бойню клялі і кайзера,
раны, паленыя свінцом.
«Я далей не хадок,— адзін кажа.—
Ёсць, мамаша, у вас сянцо?»

Засталіся... Былі тут палаці
над каморкаю — днюй і начуй.
«Іх падпраўлю,— ўздыхала маці,—
раны зёлкамі падлячу...»

Раптам — грукат!
Германскае войска...
Ад падковаў расколваўся брук.

Першы раз тады зведала вёска
тую хіжасць чужацкіх рук.

Грук — і ў нашыя дзверы і сені...
Адчыняй... Не ўтрымае замок.
На крывавым зляжалым сене
плыў удушлівы сіні дымок...

Іх пагналі...
А вёска — ў дыме.
Хтось агонь на страсе патушыў.
Два гады я сваю гаспадыню
выглядала...
Двары — ні душы.

4

Хата пусткай ляжала. І — вёска.
Выглядала я Хіму, дзяцей...
Раптам бачу — о, матка боская! —
Хіма?!
Прывід сухіх касцей!..

Толькі вочы ў слязах...
Тыя ж вочы!
Ды сухая далонь на сцяне.
О, як прагна «жывыя мошчы»
цалавалі тады мяне!

Цалавала яна мае сцены.
Абдымала свае вуглы.
Над цяпельцам голас здранцвелы
штосьці шаптаў...
Заклінаў на вуглі!

Я са слоў яе ўведала пекла.
Тое пекла расло ўжо тады!
Да мяне з-за дратоў яна бегла —
тры разы даганялі драты!

Яе сны ўсе на памяць я знала.
Стогн баракаў і брэх сабак.
Нават тут, пад радном, уцякала,
хоць запечак тут быў, не барак.

5

Праца гоіла немач палону.
Дзеці — ў бежанстве.
Поле — ў кустах.
Ускапала хоць пару загонаў,
але ў печы зноў — хлеба пах!

Апантана арала і секла...
Дзе ж вы, дзеці?
Ой, бежанства край...
Яна зведала лагераў пекла.
Праца дома — не пекла,
рай!

Памятаю яе ўсе малітвы —
на каленях, вось тут, у куце.
Праклінала нашэсцяў бітвы
і малілася ёй, дабраце.

У імя паратунку палоннай,
і дзяцей,
і зямлі ў цішыні —
прасвятой і прачыстай іконай
для яе стаўся — знак дабрыні!

Чысты знак той мае гаспадыні
меў рэальны абрыс і падказ:
дабрыня яе складвала ў скрыні
сваёй працы мазольны прыпас.

6

Вёска цяжка вярталася з бежанства
на пажарышчы, лебяду.
Дабрыня яе — ў вопратцы беднасці
падзяляла чужую бяду.

Крапіва... Пухлі дзеці... Крываўка...
Дабрыня несла зёлак настой,
ды скрылёчак — на затаўку! — скваркі,
ды яшчэ — на забелку! — надой.

Дабрыня ўсім снавала кросны,
была ў працы сама, як чаўнок.
Дзераскавы ён быў, ды памоцны
на сарочкі дзятве шарачок.

Была ў Хімы з кішэнню спадніца —
дзеці зналі таемны той схоў.
Там заўсёды ляжалі гасцінцы —
ад зайцоў, ад мядзведзяў, баброў.

Прыкрывала галоту, нішчымніцу
гаспадынька сваёй дабрынёй.
Дабрыня мела сэрца карміліцы,
рукі — з гарцамі жыта,
з мукой.

Наракалі з радні яе цёткі:
ад сям'і адрывала — другім!

З Азярніцы, з Вялікай Кракоткі
тут з паклонам былі дарагім.

Кіравалі і пешшу, і з возам.
Нават розум мудрэйшых з мужчын,
гаспадарчы цвярозы розум
радзіць раду ішоў з далячынь...

Кажуць праўду:
была дабрадзейкай!
Чарадзейкаю нават была!
Колькі рознай гаркоты і здзеку
ціхім словам сваім адвяла!

Дабрыня мела вобраз мудрасці
і глыбокі, зычлівы зрок.
Быў аддадзены густа ў падсуседзі
гэтай хаты кожны куток!

7

Што ж спыніўся між прывідаў хаты?
Ты ж даводзішся мне раднёй.
Клічаш Хіму — нібы вінаваты
перад ёй
і яе дабрынёй?

Мне ж аполкам забілі павекі.
Я не ў крыўдзе — час кожнаму свой.
Смачна хрустаюць сена авечкі,
і ў вядзерца цурчыць сырадой.

*1977*



# ПАДЗЕМНЫЯ ЗАМКІ

## ЗЯМЛЯ МІЦКЕВІЧАЎ

Зямля наднёманская!
Колькі сілы
Тваёй, знутры, прыйшло ў глыбінны рух.
Ты нарадзіла іх, тытанаў двух,
Іх творчы дух
магутна ўскаласіла.

Як сталася, што ў подзвігу святым
Дзве постаці грамамі пажагнаны
І ў місіі служэння паяднаны
І талентам, і прозвішчам адным?

З глыбінь іх паядналі курганы,
Паданні, замчышчы, сівыя вежы,
І пушчы, і дубы на прыбярэжжы,
І песні наднямонскай стараны...

«Літва, ойчызна моя!» — як уздых.
На зломе лёсу — вернасць да магілы.
А ўслед:
«Мой родны кут, як ты мне мілы!»
Зямля, ў цябе ўлюбёныя дваіх!

Зямля, гісторыяй не лашчаная.
Наваградчына — з нетраў карані.
Вялікі эпас памяці крані —
І адгукнецца
Мікалаеўшчына!

Нямала дзікіх крыўд, ліхіх нягод
У камянях стагоддзяў перамолата.
Міцкевічы —
ад волата да волата —
Пралегла колькі непакорных год!

Я на Русі спакон беларусін.
Нічога, што літвінам называлі.
Мяне дзялілі, паланізавалі,
Ды помню я —
якога роду сын!

З той памяццю — і крэўнасць удвая.
І улюбёнасць —
з болем, да бязмежнасці.
Каб не чуццё вось гэтай прыналежнасці,
Зямля Міцкевічаў,
кім быў бы я?

*1979*

## ЯК БАЦЬКА СПАБОРНІЧАЎ З СОНЦАМ

На луг,
шыза-сіні ад ранішніх рос,
з'явіліся двое: бацька і сонца!
І сонца праз белае стволле бяроз,
прабіўшыся нізам, на кожнай смолцы,
на дзятлаўцы белай ірдзела, цвіло,
на бацьку глядзела дасціпным вокам...

А бацька усмешкай прывеціў святло,
пад'ярыў касу — і займіста, шырока
прагнаў воддаль лесу
і здвоіў пракос.
А сонца ўжо хітрасць яго разгадала:
свяціла — уверх,
касец — да бяроз!
Пабачым,васпане, хто больш удалы...

О, моц нерастрачаных ранніх хвілін,
даспелая з ночы гуллівая сіла!
Пракосы гарбацяцца...
Ды з-за галін
цікуе пільней за касцом свяціла.
Шчыруеш?.. Ды цень з-пад ляза уцячэ!
Ці бачыш, як ён адступае, зубчасты?
Ніхто ўперагонкі з сонцам яшчэ
не выйграў...
Рыхтуйся, касец, дахаты!
Я ў вечных высцігах —
з жанцом ці касцом.
А ў вёсцы няўпраўка.
А вы, як дзеці.
Хацелі б вы сонца падперці кійком,
і лета, і восень,
і годы — падперці!

Тут бацька ўздыхнуў...
Хоць так, ды не так!
Заўсёды ёсць моц у таго, хто з касою!
Я дужацца выйшаў — а гэта знак,
што ў працы я роўны, сонца, з табою...

Падскочыла сонца — і на спіну
з-за краю бяроз
жменяй сыпнула жару...
А бацька лязо грубым ногцем крануў,
гарошыны поту выцер з твару,
свяцілу ў адказ падміргнуў:
яшчэ!
Ты спёкай мяне не справадзіш дахаты.
Каса пад заслонай бяроз аж пячэ —
прамень, дагані касца ты!

Тут сонца палезла да верхавін,
каб зверху на плечы абрынуцца спёкаю...
І загрудкі ў лузе — адзін на адзін —
цягаюцца:
бацька і сонца высокае!
Апошні заход...
Сонца мкне наўздагон.
Ды бацька ўжо ля бяроз цыгаркай
дыміць, а ўвушшу —
толькі промня звон...
Усміхаецца мне.
І бліццу са скваркай.

*1979*

## БАЛАДА БУЛЬБЯНОГА ПОЛЯ

Паставілі нас па барознах,
Нібы да сцяны прыставілі.
Я чую, як сочыць пагрозна
За мной —
вочка чорнае сталі!

Свідруе і збоку цэліць
У стому маю над кашамі.
Вось грымне...
І рэха па целе
Паўзе ўжо да ног мурашамі.

Імжыстая золь пацепвае.
Капачка скрыгоча абурана.
Чаму так карціць нясцерпна
Руцэ —
загарнуць тую бульбіну?

Не ў кош, а глыбока — у глебу!
Зямля паглядае з наказам.
Падлетак, няўжо табе трэба
У дол —
з гэтай бульбінай разам?!

Снуе за спіной двунога
Пастрашлівы цень — на ўсё поле!
У кош зазірае...
Ой, многа,
На дне скамянелага болю!

Ад стрэлу — злавесны пошчак.
З калень прыўстае падлетак.
Капае...
Здавацца не хоча
Свінцу бульбяны палетак.

Дых спёрла...
На грудзі абвалам —
Як бульба ў склеп — каменне...
З каленак маіх уставала
Вялікае Супраціўленне!

*1979*

## КАЗАЧНЫЯ МЕТАМАРФОЗЫ

Ваўкалакі, відмы, вурдалакі...
Свет таемных казачных дзівос!
Як спазнаць магічныя адзнакі —
Мову даўніх тых метамарфоз?

Быў — як чалавек.
А праз імгненне —
Вобаратнем стаў, папоўз да нор.
Ведзьмаванні ўсе, пераўтварэнні
Больш вялі —
ў ліхі якісьці створ...

Але ў тым пярэваратным стане,
Пад закляццем злога ведзьмаша,
Гэтак прагла да свайго вяртання
Ў чалавечы воблік свой —
душа!

Як прарвацца ёй праз абалонку
Чужароднай плоці — да быцця
Першаснага?..
Дзе — свой хлеб, гамонка,
На куце калядная куцця...

Немагчыма?.. Згублен ключ замовы?
З тымі быць — хто ў поўсці, падвываць?
Слыхам чуць лагоду свайго слова,
Ды ад чараў —
не адчараваць?

Казка, можа, бае нам падманна,
Толькі ў ёй заўсёды выйсце ёсць!
Казка свой урок дае гуманна —
І з душы зрывае
кіпці, поўсць.

І абставін злое ачмурэнне
Расчышчае цяжка ў барацьбе.
Праз парогі ўсіх пераўтварэнняў
Чалавек прыходзіць —
да сябе!

*1979*

* * *

*Н. С.*

Куды я цябе вязу,
Ахвотна цябе аддам,
Уцеху, сваю слязу,
У рукі другога...
А сам?

А сам — толькі там, уначы,
На ложы спусцелым, без сну,
Апомнюся, што зберагчы
Не змог...
І пакінуў адну.

Мой смутак, не рві валасы,
Дрыготка суцішся... Дарма...
Разваж, можа, ўцеху красы
Панесла ты ў ноч сама?

Панесла пакору... А мне —
Адплату і горкі дакор.
Шукаю на цёмнай сцяне
Твой воблік...
Узнік і памёр.

Світанак сячэ дажджом.
Тугу маю рве ліставей.
Улада абставін?.. Няўжо
Яны за пачуцці мацней?

*1979*

## БЕЛАРУСІ

Кажуць: ты без мяне абыдзéшся.
Толькі я без цябе — ні на міг.
Ты мой бор: гукну — адгукнешся.
Ты мой дол — цяжкі, як уздых.

Растваруся ў табе болем, стогнам.
Ты ж не ўчуеш і страты тае.
Не заўважыш у мроку прадонным,
што кагосьці з сыноў не стае.

Ды нязгода падступіць выразна:
калі сын, твая плоць і кроў —
ці пачуеш ты боль, што заўчасна
падкасіў тваіх многіх сыноў?

Калі сын, калі быў знітаваны
з тваім лёсам —
да дна, да тла,
калі моўчкі няўгойныя раны
ён насіў —
толькі б ты жыла!

Не, ты ўспомніш усіх паіменна,
хто ў турботах сваіх ці ў журбе
жыў табою няздрадна, нязменна
і сабою жывіў цябе!

Песняй, хлебам жывіў надзённым.
Вачанятамі ў родным акне.
Без цябе я тут чуўся б — бяздомным,
ды бяздомнай і ты — без мяне!

*1980*

## ПАЧЫНАЛЬНІКІ

Пачынальнікі,
вы, як іскры
з крэмня цярпення Айчыны.
Пачынальнікі, як пытальнікі
у сучаснасці за плячыма.

Неразгаданыя, апантаныя,
першаздабытчыкі ведаў.
А ўжо хтось ахрысціў беспадстаўна
вашу справу ўтапічнай легендай...

Не фантазіяй ілюзорнай
патыхала ад вашай справы.
А дарогай калдобістай, чорнай
у краіну і волі, і права.

Самавукі...
Шурпатыя рукі
той дарогай з далёкага часу
неслі з першым пламеннем навукі
нашай песні і сэнс, і акрасу!

Адкрывалі і скарбы і фарбы
напаказ — для цэлага свету!
Што я значыў бы,
што засяваў бы,
каб вы ролю не споўнілі гэту?

*1980*

## ЗАКЛІНАННЕ ЧЫЖЫКА БЕЛАРУСКАГА

Гальяшу Леўчыку, аўтару зборніка вершаў «Чыжык беларускі», сярод якіх шырокую актуальнасць набыў у час Вялікай Айчыннай вайны верш-праклён «Хто адрокся сваіх». Не слабне яго актуальнасць і сёння.

Паўтараю тваё заклінанне.
Чыжык, чыжык,
Слонімскі наш.
Разам з дымам у тое ранне
Гнеў глытаю твой,
дзядзька Гальяш.

Паўтараю усё — слова ў слова,
Той настрашлівы грозны заклён,
Што ў вайну адрадзіўся нанова
І прыйшоў у наш клас,
як стогн.

Перад намі, падлеткамі, стаў ён —
Той заклён —
аж зайшлася душа!
Вымаўляў яго наш настаўнік —
Даўні сябра таго Гальяша.

«Хто адрокся сваіх...»
За сцяною
Глуха гахалі стрэлы ў бары.
Там мышастай і чорнай гайнёю
Вораг зранку аблёг хутары.

«Хто прыліп да чужых...»
Заклінанне
Нарастала... І бой нарастаў.
Разам з гневам — мальба і літанне...
Хорам шэпт:
«Каб ён свету не знаў!»

«Каб ён свету не знаў!»
Той, хто вёску,
Хто зямлю нашу нішчыў, паліў.
А пажар крывяную палоску
Мігатліва на шыбах разліў...

Помню, голас дрыжаў і калені,
Калі я ў тым маленні
прыўстаў:
Той, хто мову сваю і сумленне
Патаптаў —
«Каб ён свету не знаў!»

О, дзіцячы праклён!
Згустак болю.
І прысуд, што на вуснах здавён.
Дзядзька Леўчык!
Гарачым вуголлем
Ад той школы —
смыліць той праклён.

*1980*

* * *

Хто ж мне такое ўзычыў —
Бог, а ці чорт лазаты —
Прагнуць да скону глыбінь крынічных,
Жыць пад уладай
матчынай хаты?

Чую: растуць мае травы!
Купіны крачуць над плёсам.
Рыбіна
ці чарацінка з канавы
Вабіць пяром бялёсым?

Чуецца звон... Закоскі...
Першыя копы ў сутонні.
Пахне хвашчом гаркаватым, конскім
Выган, былое раздолле коней.

Дзе, на якіх сенажацях
Хрусткі мурог скубяце вы?
Не, не заседжуся ў хаце,
Гляну на поплаў:
дзе вы?

Кошанкі трэба прывезці.
Мне, як і вёсцы, нязменна
Самае важнае ў свеце —
Сена, сена...

Сам, як не свой блукаю.
У сценах — і мулка, і даўка...
І, як Антось,
                    касу выбіраю
На гарадскім прылаўку.

*1980*

## МАЁЙ СУПОЛЬНІЦЫ

Колькі гадоў мы —
У кроўнай супольнасці.
На дваіх — родны хлеб і сардэчнасць.
Мне здаецца, што нашай роднасці
Ужо цэлая вечнасць!

Колькі помню — відаць, ад народзін
Мы — свае,
Мы, як з кораня, разам.
То шумім, то схіляемся ў згодзе
Пад вятрыстасцю часу.

То ладкуем гняздо ямчэй.
Пасля працы затлумімся, зморымся,
А сустрэнем прыязнасць вачэй —
Сядзем поруч...
Не нагаворымся!

Як той даўняй парой... Можа, там
Трохі больш было цноты, пяшчоты.
Сёння з слодыччу папалам —
І крутая ўжо соль гаркоты.

Закрадуцца падчас нелады,
Але што яны значаць пад грузам
Той навалы турбот і бяды,
Калі ранай раз'ятранай тузае

Супярэчлівасць часу і спраў,
Ад якіх не ўцячэш у прывольнасць
Ціхіх шатаў, гаючых траў...
Уратуе нас толькі —
супольнасць!

Ды адно захлынае дых:
Што пад гэтым трывожным блакітам
Між турбот і даброт зямных
Наша вечнасць —
адзін толькі міг
На дваіх дараваны
з нябыту.

*1980*

## МАЯ АБРАННІЦА

У свеце гэтым,
дзе нас раскрадаюць
наседжанні, інструкцыі і зводкі,
дзе больш за ўсё ўшчуваюць,
а не спачуваюць

і знясіляюць душу звады, плёткі,
казённасць лекцый, што без крыл,
без моцы
пустэчай тхнуць, як нуль хадзячы,—
у свеце гэтым дэфіцыт эмоцый
расце так хутка — шчырасці нястача!
У свеце, дзе наш розум халадзее,
а не мудрэе —
будзь мне іскрай з крэсіва,
мая абранніца, мая надзея —
Паэзія!

*1980*

* * *

Прыцемак восеньскі
З ношай не позніцца.
Пошум зялёны плячо ахінае.
Кужаль туману, быццам настольніца,
Пахам настоеным спакушае.

Сеецца мякка праз кужаль грыбніца.
Смолле-жывіца дых забівае.
Бохан крамянай зары-вечарніцы
Глянуў з-пад засланкі небакраю.

То ж не зарніца, а сполахі горада.
Гуд завісае на мачтавым дроце.
Добра з табою ў лагодзе ўзгодненай
Выйсці ў сутонне на адзіноце.

Толькі няма для душы адзіноцтва.
Спее ў дрыготкім напружанні слова.
Спеюць з тугой —
прадчуванні, прароцтвы,
З хмельнасцю церпкай, як куст ядлаўцовы.

*1980*

* * *

Усё,
нават самае значнае,
патыхаць будзе нуднасцю, таннасцю,
калі не знутры яно ўбачана,
не перайначана —
тваёй апантанасцю.

*1980*

* * *

Уязджаючы ў стары горад,
Я зглядзеў на высокай браме,
Што выгнута ў неба падковай,
Хлопчыка над гадзіннікам.

Пераводзячы стрэлкі часу
На новыя календары
І эпохі,
Спачатку зверце іх
З гадзіннікам хлопчыка,
За якім —
будучыня.

*1980*

## НА ПРАГЛЯДЗЕ ПОМНІКАЎ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

Ю. В. Хадыку, доктару фізіка-матэматычных навук, грамадскаму дзеячу, захопленаму адкрывальніку нашага старадаўняга мастацтва

Наш дом гістарычны...
Дзверы
ўлюбёнаму воку расчынены.
Там першасны свет матэрыі
духоўнай, радзімнай, айчыннай!

Матэрыя роднага краю
бунтоўна, ў глыбінных каморах
то білася ў ковах з адчаю,
то ўсплёсквала ў дзіўных формах.
Душу удыхнула ў каменне,
у вежы, байніцы, данжоны,
якіх не ўзяло і пламенне
крыжа, і мяча, і кароны...
Рукой трапяткою вадзіла
разец, чуйны пэндзаль часу —
мадоннаў якіх нарадзіла!
Сабораў —
красы Рэнесансу!

Каму ж ты, матэрыя краю,
пісала каменную кнігу?
З наказам якім?.. Гартае
наш час, устрывожаны крыху.

У тыя праломы глыбінныя
праз чорныя праёмы і зломы
чароды ляцяць галубіныя —
пад дах гістарычнага дома!

Ды дзіва!.. Рукою фізіка
тут яўнасць, здабытая з тайнасці.
Адкуль гэты свежы вятрыска
разбуджанай апантанасці?
Што гэты павеў нарадзіла?
Мо тая падобнасць імгнення,
што пэндзлем высока вадзіла
па зводах тваіх,
Адраджэнне?

Там з фрэсак, з магутных калонаў
і сёння на нас веюць чары.
З карціны глядзяць утрапёна
глыбозных вачэй паўшар'і!..
Там зрокам пранікліва-чула
у сэрца Міколы з Гусава
эпоха сама зазірнула,
нявеста яго беларусая!..

Не, гэта — не проста слайды,
а ўспыхваюць там, на экране,
з далёкім тым светам суладна —
наш розум і спадзяванне!
Амаль з небыцця, з невядомасці,
з матэрыі роднага краю —
я чую —
дух самасвядомасці
трывожна да нас прамаўляе.

*1980*

## РОЗДУМ З ВЫПАДКУ

Мне гонару спакуснага не трэба.
Ні слыннасці рэгальнае тае,
Што ўзросту, кажуць, важкасць прыдае,
А скроням —
венцаносны водбліск срэбра.

Не трэба.
Славаслоўя чадны тлум.
Не заслужу я, мажа, гэткай кары.
Чалу не німб патрэбен —
дзёрзкасць мары,
Адвага дум...
Так, так... Упартасць дум!

Хто пэратне артэрыю жывую
Цячэння іх —
дык гэта бляск пусты,
Калі яго ў сябе упусціш ты
І жыць пачнеш,
як бляск той патрабуе...

Не, не. Ёсць рэчы сэрцу даражэй!
Ва ўзросце гэтым я цаной любою
Крупінку аплачу —
пабыць сабою!
Тады я духам чуюся дужэй.

Як сёння...
Ідучы праз ноч і снег
На свой начлег,
праз месячнае срэбра,
Праз навісь хвой...
А дрыжыкі за рэбры
Так і бяруць — ну смех і грэх!

Во — поруч з кульбай цень —
Праз зімы, леты
Ідзе да кроўнай мэты...
Я люблю
Вас, людзі, дрэвы, цені і прасветы.
Дайду...
У печцы дымна дровы распалю
І адагрэю словы —
роздум гэты.

*1980*

**ВЯРТАННЕ Ў 1930-ты**

Анкета пытае — з якога году?
Графа б'е трывогу: давай адказ!
Прымае начальніцкі выгляд нязгода:
Паўвеку?!
Тут штосьці наблытана ў вас...

Наблытана?
Кажаце, дроў наламана?
Анкета, не хмурся: мая віна
У тым, што з'явіўся на свет
беспадманна,
Што потым паўторна хрысціла вайна.

Не дроў —
Колькі лёсаў яна паламала,
Скалечыла жыццяў, загнала ў жвір!
Не дзіва, што трохі і мне перапала.
У зрэнках і сёння — вогненны вір.

Вытокі мае апаліў ён і класы
І дымам заслаў тое дзіва кніг,
Што ў памяць запала —
з-за польскага часу.
А ў сэрца —
яшчэ пры Саветах тых!

Вайна...
Мне лічылі гады не зязюлі,
А кулі —
Чакалі, вось-вось дарасту!
Яны ўжо гукалі мяне ад матулі,
Свісталі ўвушшу і кідалі ў бяду.

Пасля тыя леты —
з апаленым светам! —
«На вока» прыкінулі — зменшылі ўзрост.
У маткі маёй запытайся, анкета!
Хоць справа — ці ў гэтым?
Што ўзрост...
Быў бы рост!

*1980, 10 снежня*

## ДАРОГАЙ СВІТАННЯ

Я сёння перажыў усю яе,
Світальную дарогу ў кут бацькоўскі.
Іду з чыгункі... Цемра растае.
І беды прыглушаюцца мае,
Калі глытаю вецер роднай вёскі.

Глытаю прагна пах гаркавых лоз,
Пах саладжавы прыдарожнай руні.

Хатуль свой зняўшы з плеч,
бяру у рукі
Пяро азіміны — мой жытні лёс.

Зямля мне з ночы голас падае,
Жаўрук,
з-пад ног сарваўшыся ў нябёсы,
Зару вітае... Як мне не стае
Вось гэтай ранняй свежасці твае,
Зямля бацькоў,
што стала маім лёсам!

Світальная дарога... Вецер сіні
Даносіць рэха даўняе гудкоў.
О, колькі мы збанкоў перанасілі,
Суніц, чарніц, зялёненькіх гуркоў
Сюдой да санітарных пягнікоў!

Світальная дарога — водар палявы!
І лёгкая ты мне.
І ўжо — цяжкая.
Ты ўжо — навечна мне. Пакуль жывы.
Абрыс купчастых дрэў ледзь праступае
Паўскрай сяла... Там сын мяне чакае
Між камянёў замшэлых і травы.

Там, знаю, не растане цемра ночы,
Куды мне сын дарогу перайшоў.
Туман крадком мне заплывае ў вочы.
Іду...
Ты стала мне свяшчэннай тройчы,
Світальная дарога ў кут бацькоў.

*1982*

## БАЛАДА БЛАКАДЫ

Цяжка за грэбляй канае
Злая блакадная бітва.
Ранены моўчкі вымае
З мокрай халявы брытву.

Больш ні патрона... Ў лагчыне
Вокрыкі блудзяць чужыя...
Брытва, яшчэ паслужы мне,
Покуль чарга прашые.

Эх, як ты шчэцце галіла,
Святам мяне маладзіла,
З воінствам нашым пушчанскім
Проста тварыла дзіва!

Помніш прарыў... Бездарожжа...
Перад атакай варожай
Сталі ў чаргу бароды,
Каб і памерці прыгожа!

Вось жа і я таго прагну:
Лепш праваліцца ў багну,
Лепш за цябе хапіцца,
Чым аддавацца на ганьбу.

Бач, закасмыліла шчэцце...
Ды ці паспею абскрэбці,
Каб, павылазіўшы з лозаў,
Не рагаталі чэрці?

Сеў на камлыгу, як п'яны,
Мокрым хвашчом акрапіўся,
Перад лістком расяным,
Як перад люстрам, галіўся.

Дзіва!.. Чужынцы падходзяць...
Прывід якісь барадаты
Промнем ляза ціха водзіць,
Цалкам сабою заняты...

Раптам прарвала чужынцаў.
Рогат ударыў брыдка.
Ну, не дадуць дагаліцца...
Эх, паласнуць бы брытвай!

Брытва крыху не паспела.
Кулі па ёй паласнулі.
І распрастаўся целам
Ён на імшанай пасцелі,

Непераможаны, пекны,
Голены, памаладзелы...
Чэрці з блакаднага пекла
Доўга ў здзіўленні глядзелі.

*1982*

## ПЕРАПАХАВАННЕ

Раскопваем дол асцярожна,
Пясок разграбаем цішком.
Як сёння балюча трывожыць
Магільны іх брацкі дом!

Той дом, дзе была дамоўкай
З шынеляў крывавых пасцель.
Адстаўце на хвілю рыдлёўкі,
Пясок абгарніце з касцей.

Пакуль мы ў здранцвенні сцятым
Без шапак стаім наўкол,
Прыпала старая салдатка
Да жвіру — і слёзы ў дол.

Да костачак белых прыпала
З рыданнем — за ўсіх удоў.
З вайны мужа-бацьку чакала
Пакутліва сорак гадоў!

Спагаднасці словы у горле
Скіпелі — не прадыхну.
З пяску дастаем наша гора,
У брацкую зносім труну.

Ды што там?.. Бліснула шкельца.
Бутэлька?.. Абцёрлі крысом.
Яе, як пасланне тапельца,
На бераг наш выкінуў шторм.

Там ліст да дзяцей, да матулі,
Закаркаваны, ішоў
Праз шторм агнявы, праз кулі,
З-пад жвіру — сорак гадоў!

Той ліст мы паслалі маці
У край, што нам стаў даражэй.
Шкада, не змаглі пачакаць мы —
Чакала ж матуля даўжэй!

Мы неслі труну, як святыню,—
На ўзгорак, да стыку трох сёл.
Прыедзе матуля — застыне,
Жалобай працяўшы дол.

*1982*

## СПРЭЧКА НАКОНТ ДУХОЎНАСЦІ

Кажаш,
Недзе ў дзедаўскім калене
Жыў я ў бездухоўнай цемнаце.
Толькі знаў саху, як затлумленне,
Ды любіў страху,
дзе мох расце.

Цёплы пах хлява любіў, дзе конік
І свая кароўка — абы хвост.
Родны свет кружыўся ў вузкім коле.
Меў прыпынкі два:
Парог... Пагост.

Толькі два сляпыя вымярэнні...
Ды няўжо ў тым свеце, пад травой,
Не крапалася маё карэнне —
Праз гаркоту —
і вады жывой?

Тых гаючых сіл, калі араты
На раллю сядаў —
і пот крысом!
Зміраў, захоплены, працяты
Навакольнай роднаю красой...

Вунь — па хвалях скіб — само каханне
З немаўлём на стружданых руках
Рольніку нясе падсілкаванне.
Вочы і падол — у васільках!

Хіба не такія вось мадонны
Пераходзілі на абразы?
Твары іх — духоўнасці бяздонне.
Ды такой, каб нам —
на ўсе часы

Засланяў сабой самаахвярна
Продак мой — усё, чым даражу:
Край свой ад зламыснасці пагарднай,
Хлеб і мову.
І сваю душу.

Дзе ж падгледзеў, дружа, тую тупасць,
Тую беднасць духу пад страхой?
Там жылі —
гасціннасць, мужнасць, мудрасць,
Ды такія,
каб і нам з табой!

*1982*

## ПАХ САЛОМЫ

Размяняў я, думаў,
Зноў свой дзень
На будзённы клопат, шэрасць стомы,
Што завецца возкаю саломы...
Стома, як ратунак,—
дзе ты, дзе?

Я на воз кладу салому тую,
Ветрам глянцаваную, дажджом,
Колкую ад промняў, залатую,
Удыхаю дух яе — нутром.

Раптам чую ў ёй не апусценне,
А як бы паэзіі глыток.
Ціха разыходзіцца па целе
З пахам дрыгатлівы нейкі ток...

Мо сярод гаркоты самым шчасным
Станецца імгненне, калі воз
На пустым іржышчы дрогка, часта
Пакалыхваў —
вочы да нябёс!

Адплывалі, кружачыся, ластаўкі,
Пёры аблачынак, голле дрэў.
І змяшаўся дотык роднасці і ласкі
З болем,
што ў глыбінях не тупеў.

*1982*

## БАЛАДА БАЦЬКОЎСКАГА КРАЮ

Праз адліжны вясновы снег
З-за дратоў след цягнуўся, як рана.
Чалавек поўз да родных стрэх,
Учарнелы, худы, скатаваны.

Ён прарваўся з-за чорных ірвоў,
З-пад завей, з-пад зіркатых вышак.
Камякі ледзяных пластоў
Ён разгроб — і ў дарогу выйшаў.

Бег спачатку, ды ўпаўшы ніц,
Наўздагонку чаргою працяты,
Ён жаваў злую церпкасць ігліц,
Каб жывіць неяк сіл астатак.

Ён правальваўся ў мутны змрок,
Прыўставаў з небыцця, з удушша.
У той край ён напяльваў зрок,
Дзе з глыбінь ён спазнаў сваю дужасць.

Ён канаў... ды ў напятасці жыл
Не канала прага вярнуцца
Пад радзінны свой небасхіл —
Хоць шчакой да яго прыхінуцца!

Так і згас ён... На снезе далонь...
Толькі што там?
З-пад вопраткі рванай
Праступае дрыготкі агонь
З кожнай раны, з прасечак і шрамаў...

Колькі тых аганькоў — і адкуль?
Язычкоў трапятліва-дзіўных!
Тыя шрамы не толькі ад куль —
Ад мячоў, ад клінкоў, ад дзідаў!

Цела ўсё ў векавых рубцах!
І з раз'ятранай кожнай прасечкі,
З распагоджанай сіні ў вачах —
Аганькі заняліся, як свечкі!

Аплываў ад свяцільнікаў тых
Снег адліжны — адтайвала глеба...
І сышоў, як апошні ўздых,
Жыватворны агонь — ці ў неба?

Праз завалы, праз ноч, лаўжы
Ён падаўся, агонь той дзіўны,
З апантанаю прагай душы —
У свой край, да зямлі радзіннай!

*1982*

## НАЧНАЯ БАЛАДА САЛДАТКІ

Апоўначы... Снег за акном
Так мякка садзіцца, кружыць.
А думка у спрэчцы са сном
Так тужыць па мужу, так тужыць!

Ды раптам нібыта штось
Кранулася шыбіны... Божа!
Асвечаны снегам... Антось!
Дрыготка схапілася з ложа.

Хіснулася ўся, а ў акне
З салдацкім мяшком за плячыма
Заснежаны ўвесь, не міргне...
Мой родны глядзіць мужчына!

Сняжынкі на вейкі, вусы
Пухната злятаюць, не таюць...
У зрэнках, ледзь-ледзь касых,
Дзве іскры мяне вітаюць.

Як паліць струменісты жар
Таго нематлівага зроку!
Прыкоўвае родны твар —
Ступіць не магу ні кроку.

Прачніся, сыночак, устань!
Спрасонку ці бачыш, дзіцятка...
Не, гэта не бойся — не здань...
Вярнуўся дахаты наш татка!

У хату ж заходзь!.. А ён
Маўкліва, неварухліва
Глядзіць... Калі гэта сон —
То мне прабуджацца жахліва!

Спарола старога... Пазнаў.
Перажагнаў салдата.
Вярнуўся... Адваяваў.
Ну, сыне, заходзь у хату!

Ды бліснула дзіка ў вачах
Антосевых горкая скруха!
Пайшоў ён... мяшок на плячах.
Абмоткі... А ўслед — завіруха.

Мы выбеглі ў замець — туды,
Дзе постаць растала салдата.
Ля вокан глыбока сляды
Сінелі пад снегам пухнатым.

Мы ноч прахадзілі ў двары.
Завея ўзвывала, як жонка...
Назаўтра ж ліхія вятры
Прынеслі з вайны пахаронку.

*1982*

## ЗЯМНЫ КЛОПАТ ПАЭТА

З вялікім паэтам у роздуме
Сядзім удвух.
Балючай жыццёвай прозаю
Яго запалонены дух.

Затоплены зрок яго ў далечы...
Што бачыць, прыхмураны, ён?
Ці звон грозна ўспененай Нарачы?
Ці ў квецені ветранай лён?

У зроку дрыготкасць блакіту —
Ад хваль, ад ільну — на міг.
Усмешлівы тон басавіты
Сарваўся на ўздых.

Няўцямна, нібы не верачы,
Ён вымавіў... Словы, як стогн.
Астаўся на полі, на сцелішчы
Зямны не сабраны плён...

Рука, дзе ў кожнай жылцы
Аратага кроў цячэ,
Той клопат мазольна-мужыцкі
Заціснула ў боль на шчацэ.

Надвор'е?
Ці больш — марнатраўства?
Злаваць — на каго?.. Ці кпіць?
Ну, як жа так стала ў сялянства:
Танней не вырошчваць —
Купіць?!

Гадаем — як гэта цяжка
Зямлі нараджаць свой плён,
Калі не даходзіць часта
Да рук і да вуснаў ён.

Калі не становіцца ўцехай,
Ці песняй, ці смехам дзяцей,
А ўздыхам цяжкім, як агрэхам,
У зямлі і ў паэта
з грудзей.

*1982*

## СТАРЫ САД

Стары...
Але ў пялёстках закружыў,
Скідаючы на мокры дол акрасу.
Маіх дзядоў, бацькоў ты перажыў,
А разам з імі —
колькі злыбед часу!

Агонь трох войнаў пёк цябе і сёк.
Час прагу пладаноснасці праверыў.
Чытаючы падаткавы квіток,
На дрэвы бацька ўсё ж
не ўзняў сякеру!

Аддзячыў сад: антонаўкі наўздзіў!
Тугую жаўцізну смакуй і дыхай.
На здачу — колькі бацька іх вазіў!
Замучылі,— казаў,— няхай іх ліха...

Прапахлі імі печ і ўсе кашы.
І сырадой...
Гарышча ўсё на хаце.
І сёлета ты ў квецені!.. Скажы,
Няўжо дзесятак восьмы табе, садзе?

Як юбілей адзначу твой? І чым?
Няхай цябе міне віхор шалёны.
Ці я змагу цябе асцерагчы —
Без бацькавай спіны, тваёй заслоны?

*1982*

* * *

*Н. Т.*

Надзея...
Хіба я мог думаць тады,
Калі маё сонца было не скупое,
Што сцюжна ударацць па мне халады,
Паласнуць халады,
нібы брытвай тупою?

Калі ж я рукамі крывавы свой боль
Заціснуць хацеў,
ты сястрою паўстала,
Бінтамі спагады, сэрцам, сабой
Нязмушана рану маю бінтавала.

А я ж усур'ёз і не жыў табой.
Даруй, але ў хмарыстай той бядзе я
Адчуў — як бы збоку,
наўскос, над сабой
Вятрамі прыгнаны прасвет надзеі.

Надзея...
І хто цябе так навучыў
Услухвацца ў споведзь,
у боль,
нараканні?
Сама ты не ведала, як памагчы
І чым памагчы, апрача спачування.

Ніхто так не вучыць, як боль толькі свой,
Рубцы, што ўнутры засмыляць незагойна.
І станецца свет над тваёй галавой
Як чорны абруч,
што сціскае няўмольна.

Глыбока ўздыхнуўшы, хвіліны лічы
Да нашай дзіўна гаючай сустрэчы,
Калі хоць не можаш нічым памагчы,
Апроч той спагады,
што ляжа на плечы.

І ляжа, бы ценем, на тварах у нас
Уздых разумення,
што ў гэтым бязмежжы,
Якое навокал разгортвае час,
Мы цалкам адзін аднаму не належым.

А ўсё ж на імгненне адчую, калі
Ад страты ізноў нутро халадзее,—
Як добра, што поруч на роднай зямлі
Ёсць гэты прасвет
З любым імем —
Надзея...

*1982*

* * *

Ці думаў,
Што суджана гэтак:
Не гляджу — на абутак,
Не гляджу — на адзетак,
А з тугой пазіраю —
на дзетак...

*1982*

## ДАЛУЧЭННЕ ДА ЗЯМЛІ

Далучаны да працы на зямлі,
Перажываю гэтае вяртанне
Ад настальгічных даўніх уздыханняў
Да ісціны ў рэальным мазалі.

Да разумення:
Тут — мой грунт, мой дол.
І несхадзімы боль сыноўняй страты.
Прыспешвае пад дах радзімай хаты
За сотні вёрст — штотыдзень —
грукат кол.

Праз перасадкі, праз паліц задуху,
Праз гул перакалочаных начэй
Спяшаюся туды, дзе не лягчэй
Рукам і развярэджанаму духу.

Па мне ў чаканні тужыць сенажаць,
Каса і плуг. І хатняя ўся жыўнасць.
Маё бацькоўства трэба тут, мужчынскасць,
Каб падтрымаць, сагрэць, пашкадаваць...

Ці будзе цуд?
Як веру утрымаць мне?
Кладу я рук натруджанасць на стол.
А на людзях хаваю іх, як маці
Хавала рукі чорныя ў прыпол.

Я не далонь сваю афішаваць
Хачу — у еднасці з віламі, плугам.
Яны — ратунак мой,
што полем, лугам
Ідзе, каб трохі скруху стушаваць.

Адсюль, з перажыванняў, з працы рук
Інакшы ракурс бачыцца ўсіх коштаў.
Тлум сходак... Прага слыннасці...
Навошта?
Струменіць — ці не з глебы дух навук?

Хлеб і духоўнасць —
што больш зпітавана?
У двухадзінства кінуў мяне лёс.
Зямля, я ўвесь да скіб тваіх прырос!
І да трывог,
што мне наканаваны.

*1983*

## УШЧУВАННЕ ЎПАРТЫХ

С этими легче, хотя есть упорствующие...

*(З падслуханага)*

Упартыя,
Вы шкадавання вартыя!
Падумайце: як неразумна ўпарціцца!
Ці вам не цярпіцца
касцямі парыцца?
Навокал — такія даброты ў жыцці!
А вы — супроць плыні плысці?
Кружаць веку віры... І вы ўсё адно,
Заядлыя, пойдзеце хутка на дно.
Як перад фактарам сілы ўпірацца?

Згубна за неба Айчыны трымацца!
Пра лёс вам падобных — ці чулі?
А вам ўсё сніцца голас вяшчунні!
Голас вяшчунні, наказ прарочы,
Вочы вякоў і бацькоў вашых вочы,
Гул званароў, пачынальнікаў крокі —
Ці шмат вам дабротаў
далі іх урокі?
Родная мова... Духоўныя вартасці...
Прывіды!
Няўжо яны варты ўпартасці?

*1983*

## ПАДЗЕМНЫЯ ЗАМКІ

Падземныя замкі, падземныя вежы,
Здаецца, вас бачу —
ўглыбі, пад зямлёй.
Валы насыпныя, крутыя ўзбярэжжы
І гмахі цяжкіх каменіц над вадой.

Крывавыя знакі на цэгле, як раны.
Праломы, кудой меч і здрада прайшлі.
Ды вы для мяне не былі зруйнаваны.
Не вашы там косці руін з-пад зямлі.

Таемна хаваеце вы, нібы айсбергі,
Магутнае цела сваё ўглыбіні.
Не раз правярала Еўропа і Азія
Тут вашу няўступнасць у горкія дні.

Наваградак, Ліда, Гародня і Крэва...
Над Нёманам, Шчарай, Бярозай, Дзвіной...
Вы ўсюды ўздымаліся —
з мужнасці, з гневу,
Былі для зямлі абарончай рукой.

Гарэлыя, ў зломах — выстойвалі замкі!
Ды ў нетры сышлі вы — ў падмуркі вякоў.
Там камень да каменя —
замест цамянкі —
Змацоўвалі слёзы і кроў мужыкоў.

Крамністыя зводы лёгка ў нябёсы
Узносілі ўмельства народнага дух.
Падземныя замкі,
вы сталі лёсам,
Вы доўга з глыбінь рыхтавалі зрух.

Гляджу: колькі постацей —
мужных, трывушчых —
Трымалі, як замкі, бацькоўскі рубеж!
Ад гвалту зямлю баранілі нязрушна,
Пакуль не зляталі галовы веж.

Вы мне памагаеце ўстояць самому,
Хоць смаляць над вамі і мной грамы.
Мы ўсе — са свайго гістарычнага дому.
Пакуль у нас вы,
не бяздомнікі мы!

Хтось, пэўна, над вершам здзіўлення знакі
Паставіць ды скажа: такой бяды,
Што сталі калісьці падземнымі замкі!
Не сталі б падземнымі —
гарады!

Падземным — наш свет, гэты дом чалавечы.
Падземнымі —
розум, краса, маладосць...
Вядома ж!.. Хоць гэта далёкія рэчы,
Ды сувязь між імі нялёгкая ёсць!

*1984*

## ПРА БАГАЦЦЕ

Ты мяне не пазнаў пры сустрэчы,
Кажаш: буду багаты, браток!
Сам не ведаеш, як недарэчы
Зачапіў ты мой боль незнарок.

Не гляджу я ў той бок,
мой дружа.
За раскошай даўно не сачу.
Часам моўчкі ў пляскоту і сцюжу
Як не свой між дамоў хаджу.

Можа, трохі не так апрануты —
Хай таварыш цішком праміне.
Можа, цёмная рыска пакуты
Так няшчадна мяняе мяне.

Я кірую ў той бок, дзе рэха
Гарадской мітуснечы замрэ,
Дзе і ў слоту дзіцячая ўцеха
Топча лужыны на дварэ.

Я загледжуся там, нібы ў шчасце,
Покуль сэрца ўспамін не пратне.
Хай мінаюць мяне ўсе багацці,
Толькі гэта —
пяхай не міне.

*1984*

## КРОШЫН

Ой, кажане, кажане!
Што ж не сеў ты на мяне?
*Паўлюк Багрым*

Заўсёды ўзрушае прыпынак Крошын.
Які ж ён нялёгкі для роздуму, кут!
Рой думак, нібы кажаноў растрывожаных,
Бясконца мяне апаноўвае тут.

Губляюся ў часе — як быццам не міма,
А еду кудысьці далёка ўглыб —
Да вузкіх палос, да бядняцкіх сядзіб,
Да бяроз,
што шапочуць на мове Багрыма.

Кажане, кажане...
Штось мяне скалане той хвіляй.
Колькі скрухі ў закляцці — і боль, і гнеў!
Прадчуванні вялікіх пакут малілі,
Каб ты лепш у маленстве яшчэ скажанеў!

Скажанеў — разам з дарам сваім, самацветам,
Чым салдатчыне дацца на глум, на злом.
Але ж загрудкі брацца трэба са злом,
Калі суджана ўжо нараджацца паэтам.

Крошын вершы чытаў і мужнеў на момант.
Сшыткі вершаў хаваў пад страхой у гумне.
Але дзякуй спрадвечнаму — scripte manent.
Напісаў — застанецца!
Кажане, кажане...

Так, ён сеў на цябе — той кажан, начніца.
Застаецца напісанае?
Каб жа так!
Што застанецца ад песень сініцы,
Якую асочыць дзікі хіжак?

Колькі лёсаў чытаю — ў адным тваім лёсе!
Бачу процьму рабункаў, крывавасць вякоў.
Але ўсё ж засталося,
усё ж засталося
Ад жыцця хоць бы пару крылатых радкоў!

Кажане, кажане...
Адмахнуся ад ценю злога,
Што вярэдзіць дарожныя вершы мае.
Ах, Багрыме... Чамусьці мая дарога
Гэтак часта праз Крошын —
снуе, снуе...

*1984*

* * *

Беларусь мая, шыракапольная,
Лесадайная, узгоркавая,
Спаконвечна ты з доляй супольнаю,
Як зара, світальнаю,
Як палын, прагорклаю...

Ёсць цяжкія пласты.
Ёсць засеў густы,
Дзе кусціцца рунь маладжавая.
Колькі скарбаў тваіх, хараства, дабраты,
Мудрай той праваты —
быць дзяржаваю!

Ты бяжыш на сустрэчу ў дарозе мне,
Лашчыш роздумны зрок мой гадзінамі.
Бой няўхільна даю хлусні, мане,
Каб ты чыстай, як маці, была,
адзінаю!

Нарастае ва мне прыцягненне тваё.
То лужок, то пясок ці тарфянішча.
Над вадой чарацінка, нібы пугаўё,—
Гэта ўсё мой выток
і прыстанішча.

Гэта ўсё, што абвостраным зрокам лаўлю,—
То сасоннік, то луг, то азіміна —
Я праз вас толькі бачыць магу Зямлю —
Ўсю Зямлю —
неадлучна ад краю радзімага.

*1984*

* * *

Калі кажаш,
Ты сябра мой —
Прызнай нашу роўнасць!

Калі кажаш,
Ты брат мой —
Памятай пра кроўнасць!

Калі кажаш,
Ты чалавек —
Уступай са мной у супольнасць!

Мне ўсё гэта трэба —
На поўныя грудзі,
А не тлум прафанацыі!

Каб у панах
Не хадзілі людзі.
Каб у панах
Не хадзілі нацыі.

*1984*

* * *

Вось тут — задоўга да мяне! —
Прайшлі па сцежках,
Цераз гаць, па бездарожжы,
Дзе напрасткі, а дзе ў абход,
Па ўзбочынах палынных,
Па здрадлівых абрывах,
Па круцізне — вышэй, вышэй,
Прайшлі — задоўга да мяне! —
Нагамі пазбіванымі
Аб камяні зласлівасці, глумлення,
Карчэўе недаверу і падкусаў —
Задоўга да мяне! — прайшлі
Мае надзеі, думы, спадзяванні...

Як жа праніклівa трэба
Чытаць усе тыя сляды,
Каб не збіцца сёння з дарогі!

*1984*

* * *

— Хай будзе святло!..
Кажуць, толькі паспеў прамовіць
Магічныя гэтыя словы
Сівы першатворца біблейскі,
Каб на цвердзі зямлі і неба
Перадаць іх навечна, нібы свяцільнік,
У рукі людзей,—
як адразу ж
На светлы язычок гэтых слоў
Дзьмухнуў з усяе моцы
Д'ябал:
— Хай будзе змрок!..

З той пары і віруюць па землях і сэрцах
Дзве гэтыя стыхіі —
І ніяк не ўтаймуюцца, не ўзгодняцца...
Якое ж вырашальнае слова
Вымавіш ты,
Чалавек?

*1984*

* * *

Не гушчар люблю, а рослы лес,
Мяккую прасветленасць у стволлі,
Жылаватых лапін паднавес,
Ценяў мігатлівае сваволле.

Што ж з маіх пасадак выйдзе — гай?
Ці ўваб'ецца хмыз пусты ў дзялянку?
Калі ж мне пласты адводзіць край,
Заглыбляйся духам без астанку!

Асвяжыць дыханнем трэба кут,
Ажывіць у клетачках тварэнне...
Я гадую бор свой...
Рве карэнне
Ў даўкіх сутарэннях
цяжкі грунт!

*1984*

## СТАРАЯ КУЗНЯ

Грымеў у кузні за сялом
Металалом вайны.
Соп неяк ярасна, са злом
Мех скураны.

У тым мяху —
Вятроў, вятроў
З усіх франтоў, атак.
Аж разрывалася нутро
Ў мяха — шугалі так!

Злавалася бунтоўна сталь
І пырскала крывёй.
Ды ў клешчы браў яе каваль
Трывалаю рукой.

Метал пляваўся і стагнаў —
Не перастаў шалець!
А молат быццам не каваў —
З жалезных нетраў выганяў
Смерць.

Ён усяляў жыццё у сталь —
Звон кос, сякер, падкоў.
І сам я чорны, як вухналь,
Круціўся між дзядзькоў...

Няма той кузні за сялом,
Але грыміць метал.
На той каляны пах з дымком
Іду я да арал.

*1984*

## ЗАМАК УЛАДЗІМІРА

Вежы замкаў у неба лятуць...
*Уладзімір Караткевіч*

Гэты замак лятучы,
як лісты Каліноўскага ў жыце,
Што калісьці збіралі ад кос, ад плугоў
дзецюкоў.
Замку гэтаму цесна,
да роспачы цесна ў нябыце,
Ён не можа змясціцца ўвесь
у прадонні вякоў.
Яго вежа — ў блакіце,
а важкасць падмурка — ў глыбінях,
Дзе яшчэ не ачахлі маланкі,
паганскі гром.
Гэты замак крылаты,
як млын на Вірах тых Сініх,
Над Дзвіной ці над Шчарай,
над грэбнем дняпроўскіх стром.

Пад зямлёй, там, дзе замчышчы,
усюды твае падмуркі.
І пласты, як сувоі,
дзе дух твой прайшоў з ліхтаром.
Там разгледзеў ты меч,
захінуты ў пакуты, у мукі,
Яго ў рукі нязрадныя ўзяў
і сустрэўся са злом.
Як ты кляў усю погань,
фіскалаў смярдзючых, мярзотнасць,
Ядры гневу і смеху выплёўваў
з высокіх байніц.
Вежа праўды тваёй
непрыступная ўся, як грымотнасць.
Вежа веры тваёй,
як паветра пасля бліскавіц.
Крэпасць духу!
А дух твой бунтоўны, трывушчы,
Апантаны, пякельна-балючы
ад свежых ран.
Толькі як жа так сталася,
любы мой замак лятучы,
Што ў мурах тваіх месца слабое
падгледзеў таран?
Злая немач, як зман,
апынулася ў пройме пралому,
І ў зрэнках блакіт рамантычны
прыцьмеў, як давер.
Ці то, можа, не вынеслі жылы
напругі-стомы,
Калі той трыццаць першы срэбранік
расплядзіў ненажэр?
Дол не скажа цяпер.
Сцены замкаў не рушацца самі.
То не жвір уваччу,
а нібыта над замчышчам вал.

На палетку вунь серп
з недажатымі каласамі,
А ў сівой гістарычнай дзялянцы —
страшэнны прагал!
За тым замкам я быў,
як у бацькі свайго за плячыма.
Няма роўных табе
і пакуль што замены табе.
Памажы майму одуму,
костцы маёй, айчына,
Хоць часцінку падняць
і панесці на ўласным гарбе.
Пакрамсаны я ўвесь,
але нейкі двухжыльны, жывучы,
Як зямля, дзе ўстае маё слова
з любві, з крыві.
Сябра мой, мой пагодак,
высокі наш замак лятучы,
Ты далоні свае ускладзі на мяне —
блаславі.

*1985*

## ПРАГА СУПОЛЬНАСЦІ

Супольнасць, адкуль ты паходзіш?
Ад ніў і супольных палос?
Ад рук, мазалёў, што у згодзе
Аблегчыць хацелі свой лёс?

Супольнасць з вясны супрагалася,
У пары ішлі хамуты,
І важка ўздыхалі, здавалася,
Рвучыся з-пад плуга, пласты.

Супольнасць хавала падпольшчыкаў
І слала за мур сухары.
Насіла лістоўкі у кошыках
І тол у глухія бары.

Супольнасць заўзята, з цярпеннем
Знутры гартавала, ў агні
Вялікае Супраціўленне
Няпраўдзе і здрадзе. Хлусні.

Чаму ж не хапае супольнасці
Для ўсіх, хто садзіцца на мель?
Для дум раскаваных і вольнасці,
Малых і вялікіх зямель?

Зямля без пачуццяў сыноўнасці
Намножыць трывог і бед.
Пад знакам высокім супольнасці
Мой роздум глядзіць у свет.

*1985*

## ПАГОРАК АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

З пажарамі не ўсё аціхне бедства,
што ў памяці запісана свінцом.
Пакліча час — і раны ўсе, калецтвы
раз'ятрацца — хоць лезь у дол жыўцом!

Яны ў той міг раз'ятрацца пякуча
і ўдараць, як з зазубрынай асцё,
калі ўсвядоміш ты, што на гаручым
пагорку тым раструшчана жыццё.

Тваё жыццё, але найперуч — сябра.
Тваіх сяброў, пагодкаў колькі там!
Прыйшла, як прывід ноччу, іх ахвяра
паразмаўляць з табою сам-насам.

І прарастала ўсе дзесяцігоддзі
праз даўкія, у чорным дыме сны.
І прачынаўся ты ў халодным поце,
віной працяты нейкай — без віны...

З палос палітаддзельскае газеты,
з цяжкой разрухі гаспадарчых спраў
выходзіў спакваля ты у паэты,
у той агонь, што памяццю караў.

Мяне з табой зраднілі Слонім, Стоўбцы.
І ў зрэнках тваіх — дым і рубяжы.
Але ў размове — як пагодкі-хлопцы:
ніякае узроставай мяжы!

Хоць ведаў я, наколькі ты старэйшы,
ды зразумеў глыбей цябе, калі
нанова адраджаўся ты у вершы
і сам рабіўся памяццю зямлі.

Як ты любіў свой бор, лясное птаства!
Ды зросся ты з сябрамі явай, сном,
ды так, што паспяшаў да іх заўчасна
на той пагорак, дзе агонь не гасне
і жаўранак трымціць над курганом.

*1985*

## ПОСТРАХ

Перапуджаны пострахам,
Часам ад ветру ці грому
Затрымчу, нібы ліст,
Як сухая ў рацэ асака.
Б'ецца ў клетачцы кожнай —
Бы даўняя лютая стома.
Як адвесці мне навалач гэту
Закляццем радка?

Над бацькоўскаю хатай
Гэты пострах кружыў патарочы,
Днём і ноччу
Грукочучы ў дзверы
і ў зраненасць душ.
Маці вокны завешвала,
А ён заглядаў у вочы,
Пёрся прывідам воўчым,
У куткі запаўзаў, як вуж.

Прыліпаў ён вушамі да шыбін —
Цішэй гаварыце!
Ён ставокі, старукі,
Стаязыкі, як чорт ці бог.
Заклінаю, шапчу:
У карчэўі смалістым гарыце,
Жахі, пострахі ўсе,
Што ступалі на наш парог.

Вы не дні, а стагоддзі
Хадзілі за мной, як прыблуды.
Гнулі долу, як голле,
Трывушчы мужыцкі мой род.
Калі цень ваш ва мне —
Я і сёння відушчым не буду,

Ні праўдзівым, ні чуйным —
Сляпым у зямлі, нібы крот.

Мне сягоння, уласна,
Не страшна ўжо анічога —
Ані гэты, ні той,
Нематой апавіты свет.
У жыццё улюбёны,
Я страціў у ім замнога,
Каб жадаць каму злога,
Як аднойчы сказаў паэт.

*1985*

## МАНАЛОГ ЗЯНОНА

*З. Пазняку, грамадскаму дзеячу,*
*гарачаму ахоўніку*
*роднай спадчыннай культуры*

Трэба быць Герастратам,
Каб уласную памяць паліць,
Каб не помніць таго,
Што балела, баліць,
Каб забыць незваротныя страты.
А забыць — гэта ж сябе забіць!
Спапяліць сябе з імем, з найменнем,
З тым жывым у пластах карэннем,
Што для нас — нібы кроўная ніць.
І духоўная ж ніць!.. Колькі мар
І таемных сваіх спадзяванняў
Продак наш укладаў у паданні,

У каплічны абраз, у разьбяны алтар,
У той воблік, у твар,
                    што на фрэсках
Не свячэннем золата-серабра,
А ўзрушае чаканнем дабра,
Прагай праўды высокай...
І гэта — па трэскі?!
У пламенне?.. На злом?
Без жальбы і спагады
Трушчыць цуда красы,
Дзіва з дзіў?
Пачакайце там! Хто упусціў
У свядомасць, у нашу душу
                              Герастрата?
Ён з падпалам ідзе — па красе,
                              па касцях,
Па далёкаму, блізкаму болю.
Нішчыць памяць не толькі ў глыбокіх
                              пластах,
Але й кроўную — нашу з табою!
Тут не дрэвы, а вісельні густараслі,
Крывянелі ад мук камяніцы.
Кропля кожная — баліць зямлі,
Рыска кожная — матулям сніцца!
Часам цені пакутных кратаў,
Цені родных — у друзе, ў агні...
О, змагарны народзе мой, перапыні,
Перапыні ў сабе
                    Герастрата!
І пакуль не наспела самарасплата
Па рахунку глабальных бед,
О, ўсёўладны, шалёны свет,
Перапыні у сабе
                    Герастрата!

*1985*

## ХВАЛА БЛАЗНУ

Узношу хвалу не таму блазнюку,
што часта намарна дурачыцца.
А блазну пры слынных дварах, дзіваку,
што ўмеў быць не блазнам — дарадчыкам!

Ён праўду пад блазенскім нёс каўпаком,
і пырскалі жартаў калючых зярняты,
калі ён з гарохавым пеўнем-свістком
пад ногі кідаўся — царам-царанятам.

Па звычцы правы надзвычайныя меў.
Для змрочных часоў — проста з дзіваў дзіва!
Такое з падскокам званочкам грымеў,
што хціўцы галовы ўгіналі пужліва.

За праўду у вочы -- яго б крыжаваць!
Язык яго ў клешчы — і то было б мала!
Ды гнеўны ўладар не спяшаўся караць
той смех, праз які хоць крыху прамаўляла —

жыцця справядлівасць, крутая, як соль.
Чуваць былі ў гэтым блазненні —
цярпенні, што зносіла чэрнь і голь,
і крыўды, што ноччу вярэдзяць сумленне...

Вяльможнаму ўладцу хацелася б мець
той смех для пацехі-забавы.
Ды ў блазнавых пальцах званочкаў медзь
распырсквала боль крывавы...

З мінуўшчыны смех той, як рэха, жыве,
стрыкаецца праўдай — з тых блазнавых бомаў.
Бяссоннем і сёння ў цяжкой галаве
напята трымціць, як запальнік ад бомбы!

*1985*

## ПАДРАНАК ВАЙНЫ

*Памяці Міколы Куляшэвіча*

Чаму так рана, так нелітасціва
Цябе бяда забрала на спачын?
І медыкі, шукаючы прычын,
Адкрылі сэрца —
                    ў шрамах і разрывах...

Адкуль пякуча-сіні цень рубцоў?
Ці не з тых вогненных і зім і летаў,
Калі вайна на хутары падлетка
Хрысціла і крывёю і свінцом?

Матэрыя з танюткіх чуйных тканак
Тварыла нерваў лад, пражылкі ўсе,
Ды іх знутры ўзрывала пакрысе
Бяда —
                    твая бяда, вайны падранак.

Усё, што зведаў партызанскі хутар,—
Бяссонне, кроў,
                    пякельнасць ран і слёз —
Ты без хвальбы і нараканняў нёс,
Ды чорны боль жыў у табе атрутай.

Што ж, даганіла і цябе вайна.
Але галоўнае паспеў ты споўніць:
Ты навучыў дзяцей святое помніць
І даць працяг свой дочкам і сынам.

Прывіў ім шчыраванне і адданасць
У працы, у вучобе, у быцці.
Як кажуць, трэба многа вёрст прайсці,
Каб напаткаць такую апантанасць.

Ты ведаў хвілі шчасця — хоць не часта.
Умеў дружыць, спрыяць, плаціць дабром.
Ты змог бы больш,
ды вогненны той гром
Як недарэчна ўдарыў,
як заўчасна!

*1985*

## ШТРЫХІ ДА ПОСТАЦІ

*Старшыні калгаса*
*Чэславу Тамашэвічу Шмігіру*

Уразіў незвычайнасцю стыль працы:
Размова — сцішана.
Цікаўны зрок.
Падцягнутасць ва ўсім і лёгкі крок.
Крутая пільнасць вока ў гаспадарцы.

Ён — усёісны, днём і уначы.
Не лезе ў пустаслоўе — звады, дробязь.
Ён з тымі, хто работу шчыра робіць,
Ён там, дзе трэба справай памагчы.

Ён — з племя «дзелавых»... Гатоў маліцца
На еднасць баразны і мазаля,
Далоняў і руля —
без іх зямля
Далей, відаць, не здолела б круціцца...

Максімаліст...
Ах, як жа ён не любіць
Усіх, хто прапівае ўласны лёс!

Не раз ён загрудкі адчайна трос
Атруту п'янства, што вядзе да згубы.

Ён, хатай мнагадзетнай гадаваны,
Не разумее — як жа можна хлеб
З зямлі не ўзняць, калі ты не аслеп,
Аддаць нягодам —
плён свой несабраны!

Ён б'ецца — як пазбегнуць марнатраўства?
Праблемаў шмат, на жаль, яшчэ зашмат.
Ёсць, можа, непазбежнасць горкіх страт
Пры гэтакіх маштабах гаспадарства?

Ён па-зямному грэшны і святы,
Выжыльваецца ўвесь, перажывае.
Натура ўпарта-дзейсная, жывая,
З чуццём сваёй віны і праваты.

*1985*

## ДУША СЯБРА

*Адольфу Фянькевічу*

Калі вярнуўся я ў бацькоўскі дом,
На прысядзібны пляц асірацелы,
З'явіўся сябра — ў працы ўдатны, ўмелы,
Не проста так з'явіўся,
а з канём!

Каб трохі памагчы і падвучыць —
Наладзіць плуг ці завязаць пастронкі,

Зрабіць, як пух,
зямельку з-пад баронкі,
Асыпаць бульбу ці падварушыць.

Як адкляпаць касу, ды так, каб джала
На ногці прагіналася ледзь-ледзь,
Асадку даць ёй —
зноў жа трэба ўмець,
Каб не ныралa,
а з прысвістам джгала!

Ды я чакаў яшчэ адной гаворкі.
Мой сябра запрасіў мяне ў свой дом
(Дом-шкляначка паблісквае нутром!)
І ўзнагароду выняў са скарбонкі...

Пранікся дзівам зрок яго жывы:
Няўжо так праца рук вось гэтых важыць,
Парэпаных, разбітых,
што заўважыць
Маглі іх клапатлівасць аж з Масквы?

І я пачуў: шумелі агрэгаты,
Бяссонне гулка стукала у скронь,
Штурвал урос мазоліста ў далонь...
Ты ж і цяпер шчыруеш так заўзята!

Пазнаў я у табе наш моцны род,
Зычлівы ў дружбе, цягавіты ў працы.
Ён ускалосіць на любой дзялянцы
Свой шчодры плёп —
і не пайдзе на звод!

*1985*

## ПАЖАР

*І. Саламевічу*

Яшчэ тут курыўся вогненны дым,
Дагарала ў суседа сяліба.
Я трохі спазніўся на покліч бяды,
Прыехаў, калі ўжо чарнелі сляды
Пламення,
                што бёрны паставіла дыбам.

Застаўся ў ватоўцы адной сусед,
І тую пажар палізаў языкамі.
Калісьці з такое бяды жабракамі
Пагарэльцы выходзілі ў свет.

Нясу спачуванне, сваё суцяшэнне.
Сусед уздымае ў задуме твар:
— Не ўразіў балюча гэты пажар,
Душу ператрэсла не гэта ўзрушэнне...

Я ўсё зразумеў і прасіў мне прабачыць,
Бо тут аніякіх не трэба спагад,
Не таму, што ў сяле дзешавізна хат
І не пойдзе цяпер пагарэлец жабрачыць...

А таму...
Ах, як цяжка прарваўся ўздых,
Даўкі, змрочны, такі незагойна-гаручы!
Сярод бедаў — крый бог вам такое бяды,
Што адна пажыццёва і паліць, і мучыць.

З роднай хаты забрала ў суседа яна
Гаспадыню, дзіцячую маці, каханне...
Разумею уздых твой, суседзе Іване...
А пажар?
Дык не ходзіць бяда ж адна.

У цябе, дзякуй, ёсць ад кахання працяг...
Абмініце працяг гэты, беды-напасці!
Я кажу, я малю — як сусед па няшчасці:
Абы толькі ўтрымацца —
ў той попел не ўпасці,
Што так вусцішна стукае ў дзверы жыцця.

*1985*

## У ГРАБАВЫМ ЛЕСЕ

У грабавым лесе
стогадовыя сосны
Разлапіста ў небе здранцвелі у сне.
Стаяць без падсочкі — і ў небе марозным
Апошняй красой захапляюць мяне.

Аж неяк няёмка за ўласную ўладу,
За права на выбар:
са ста — чатырох!
Даспелыя, вось яны ў грохаце ўпадуць,
Убіўшы галлё у глыбокі мох.

Узняўшы віхуру срэбнага інею,
Хваіна скранулася — важка пайшла.
Ды вось зачапіла сваёй верхавінаю
Сястру —
меднаствола на плечы лягла.

Засела — не зрушыць...
Пра што на расстанні
Яны так надумалі пагаманіць?
Пад жарам кастра снег глыбокі растане,
Птушыная песня з галлём дагарыць.

Чытаю ўтрапёна бурштынныя кольцы,
Што столькі ў сабе спрасавалі вятроў,
Ласінага рыку, зялёнага сонца,
Слядоў,
                    дзе спяклася змагарная кроў...

Няўжо так і мы, як лясны гэты грэбень,
З уздыхам успененым грымнемся ніц?
І памяць пра нас, як і тых старадрэвін,
Тут з веццем смалістым
                              навек дагарыць?

*1985*

## У ПАРУ ГНЕЗДАВАННЯ

У небе вясновым пралёт жураўоў,
У небе вячэрнім гогат гусіны.
І стукае гэтак шчымліва кроў,
Калі я гляджу на іх —
                              з думкай пра сына...

Мой птах збранзавела на камень прысеў
І дзюбу, застылую ў немым клічы,
З крылом надламаным у золкай расе
Узняў —
                    быццам родзічаў вольных лічыць.

Апала крыло — на барэльеф...
Ці думаў дажыць я да гэтай сімволікі?
Крычаць журавы —
                              а пад сэрцам колікі...
Мой боль не сплыве на вячэрнім крыле.

Ці суджана вам у паднебным ключы
Данесці працяг на свае гнездаванні?
Стаю я за вёскай да позняй начы
І слухаю свет у цяжкім віраванні...

Падбіты бязладдзем, я ў боль свой зірну —
І ўчую бацькоўскую тую правіну,
Што свет я не змог хоць на дольку адну
Улашчыць —
і долю аблегчыць сына!

У змрочнасць я доўга кудысьці глядзеў,
Дзе гогат растаў у вячэрняй сіні.
Ды не, не растаў,
а зусім неўспадзеў
Назад павярнуў, бачу, шнур гусіны!

Ці збіўся са шляху, з прывычных прыкмет —
Да плёсаў аерных, куп'я у чароце?
Ці рэчкі спрамлёныя так белы свет
Змянілі —
адкуль столькі суму ў звароце?..

Ці, можа, заўважылі вы з вышыні
Майго збранзавелага ў поклічы птаха?!
Уздрыгнулі крыллем над прыцемкам ніў,
Над купаю соснаў, шукаючы шляху!

Нялад не пагнаў вас на захад, назад,
Бо вам, як і мне, ужо няма вяртання...
Адно не спазнайце вы гэтакіх страт,
Як я ў родным краі —
ў пару гнездавання!

*1985*

* * *

Дзіву даемся з капрызаў
Сучаснай прыроды, з пагоды-надвор'я,
З усіх адхіленняў і зрухаў,
Якія, відаць, не прадбачаны
І самім Богам!..

А ў свеце ж, напэўна,
Кожны зламысны стрэл,
Кожны выбух,
Як аддача прыклада ў плячо,
Штурхае Зямлю крыху ўбок,
Збівае з арбіты прызначанай,
І ўсё далей адхіляе.
З кроўна-жыццёвага курсу
Чалавека.

*1985*



# КУРГАННЕ

**Драматычная паэма**

*Памяці любага сына Леаніда*

## УСТУПНЫ МАНАЛОГ

Вёска Курганне. Крайняя хата — над ёй пахуча-ранішні дымок над комінам. Паблізу, над жаўтаплёсам рачулкі,— пашчапаная капліца святога Яна.

Раніца раптоўна гасне. Дым над страхой гусцее, засцілаючы вёску попельна-шэрай плёнкай. У смузе лесу выступаюць абрывістыя контуры Курган-гары. Адтуль глуха, як з падзямелля, даносіцца-нарастае маналог Янкі Курганнага. Нарэшце з'яўляецца ён сам — вогненны прывід паэта. Над постаццю — дымна-трапяткая плёнка.

Я н к а, вогненны прывід паэта

Курганне,
Я з тваіх пластоў маўчання
Паўстаў, як здань... Прарос мой немы боль.

Памёр тут час.
Згас цэлы свет... Дазволь
Твой дзень апошні ўспомніць, як паданне.

Курган-гара,
Я твой лятучы цень,
З-пад каранёў прабіўся, з тога свету,
Да вас...
Я — прывід вогненны паэта,
Які тады не ўстаў з-пад чорных сцен.

Хрысцілі песняроў і гнеў, і тол,
Агонь, які па ўсё жыццё пявечыць.
Ды ўсё ж яны прыйшлі свой боль засведчыць!
А хто, ну хоць адзін,
Прыйшоў з тых сёл?!

У свет паэты з вогненных блакад
Дайшлі з маленства — з песняй уваскрэслі!
Ва мне ж спалілі сведчанні ўсе, песні,
Пусцілі іх, як іскры з дымных хат.

Жахлівых сведак шмат... Але паэта
Няма ў нас з вёсак вогненных, няма.
Мой дух лятучы, пэўна што, дарма
Трывожна кружыць над звуглелым светам...

Курган-гара...
Крыжасты верх сасны
Не раз тут перуном пражаганы.
На той сасне я сам раскрыжаваны
І ў рове пахаваны —
з дзён вайны.

Маё Курганне,
Дай прыўзняцца крыху,
Апалы дух пазбавіць нематы,

Абцерці з твару жвір і дым густы,
Прасцерці рукі над абрывам крыку
Астатняга...

За мной спакон шукалі нейкі грэх:
Я меў правы на край свой, бор свой,
рэха...
Як гэта ўцяміць мне: былі там стрэхі —
І стрэх няма...
Не будзе болей стрэх!

Ні стрэх і ні мяне.
Я — толькі здань,
Што блудзіць ярам на сцяжыне скрухі...
Жыццё навокал — прывідныя рухі,
Дрэў прывідныя рукі,
дзе ні глянь...

Я растварыўся ў моху і ў сасне,
У свеце тым, адкуль ніхто не ўстане.
На строме веку я —
Злы міф, паданне
З цяжкой гарой маўчання
на спіне.

## З'ЯЎЛЕННЕ ХЛЕБА

У вёску Курганне ідзе бохан хлеба. На кужэльным ручніку, на руках старога Каляды, хлеб прыпыняецца насупраць капліцы святога Яна. Кажа вуснамі Каляды.

Хлеб

Ты ўсё яшчэ стаіш тут,
Святы Ян,
У зраненай асколкамі капліцы?
Каго ж цяпер над плыткаю вадой

Ты хрысціш?.. I ў якую веру?
Вера?
Хто больш крыві ў набоішчах праліў,
Чым людзі тваёй веры і хрышчэння?
О, колькі каля ног тваіх сплыло
Крывавых Іярданаў!
Ты вадой
Хрысціў на пакаянне... Але хто
Хоць раз, велікагрэшнаю душой
Перад табой упаўшы,
Гэтай хваляй
Свае грахі па шчырасці абмыў?

Ты кажаш,
За табой услед ідзе
Мацнейшы за цябе... I будзе ён
Хрысціць тут не вадою, а агнём!
Збярэ спачатку ў жытніцу сваю
Адборную пшаніцу, а салому
Агнём нязгасным спаліць...
Я не знаю,
Чый ты прыход вяшчуеш за сабой,
Ды ўжо агонь пражэрлівы шугае
Па стрэхах нашых — чорны, ой нячысты
Агонь!
Людзей ён спапяляе, як зярняты.
Ён хаты — нашы жытніцы — глытае
У вогненнае, дымнае нутро...
З чаго ж тады мне парадзіцца,
Хлебу?
З якіх зярнят?
Зярняты чыстай праўды,
Прыязнасці людской, паразумення
Ідуць на тло... Адно пустое зелле
Буяе нечапана... А з яго,
З насення злога, што учыніш?

Божа,
Калі ты ёсць у небе, не аслеп
Ад дыму нашых стрэх,
Дапамажы
Ў закляцці мне абрадавым, з якім
Я ў свет пакутнаю зямлёй пасланы!
Няўжо схмялелае ў дзікунстве зло
Гатова ссеч галовы вёскам
І народам,
Каб дэспату вярхоўнаму на блюдзе
Паднесці іх, як некалі ў час балю
Тваю, ў крыві, паднеслі,
Святы Ян?

Хлеб на руках Каляды падыходзіць да ўстрывожанай вясковай грамады, што збіраецца ля канцавых хат.

### Хлеб

Мір табе, Курганне!
Гняздоўе знакамітых ганчароў.
Мір гліпіцы тваёй, што дорыць вёскам
Начынне звонкае — збанкі, свісцёлкі...
Мір гладышам тваім з надоем цёплым,
Гаршкам у печы...
Мір вам, каміны,
З якіх струменіцца дымок пахучы!
Мір вам, дзеці
З бліпцом гарачым у руках...
Здавён, Курганне,
Ты прыткнула стрэхі
Каля гары — у пошуку зацішку.
Але заўсёды за твае вуглы
Чапляліся ліхія навальніцы.
Расла не вёска ваша, а на ўзлессі
Ад вашых могілак —
Курган-гара...

Жанчыны

— Пасланнік-хлеб... Прачысты, справядлівы!
— Ратуй сялібы нашы ад агню!

Усціна

*(расчыняе весніцы на свой падворак)*

Ты сілай уладаеш таямнічай:
Дзе пройдзеш — стрэхі не крane пажар...
Пакінь закляцце на парозе кожным!

Жанчыны

— На покуць просімо!.. Хадзі на кут...
— Дзе нашы мужыкі сядзелі ўчора...

Хлеб

Не госцем я да вас іду на покуць.
Іду з агню!
Бядой вялікай гнаны.
Няхай свяшчэннай сутнасцю маёй
Тут кожны прычасціцца...

Кабеты выносяць з хаты стол, нож. Усе заміраюць перад пачаткам свяшчэннага абраду. Ды цішыню прарэзвае хрыплы вокліч — да хлеба хістка падступае нямецкі паслугач солтыс Турац.

Турац

Што за зборышча? Вон-цур-р-рык, бабы! Ану, расступіся, разыдзіся! Умэнт! А то я вас... Што? Хто тут гаворыць?! Хто мне пасмеў агітацыю разводзіць?.. Хлеб?! От ядры, жвір яго бяры! Хто табе дазволіў? Га?.. Ты ўзяў у новай уласці дазвол? Хлеб, ану пакажы свой аўсвайс!

Жанчыны

— Зусім здурнеў наш Турац!.. Патрабуе аўсвайс у хлеба! — Ідзі праспіся, аўсвайс рыжы...

Турац

Маўчаць! Мне загадана: убачу — затрымаць! Даставіць у каман- да-ту-ру... Але спачатку... Тэк-тэк... Я мушу спачатку скласці акт. Па форме ўсёй і строгасці. *(Садзіцца за стол.)* Адкуль ідзеш, хлеб?

Тахвіля

Ці не зглузду ты з'ехаў, солтыска! Гляньце на яго: учыняе допыт хлебу!

Турац

Кажу, маўчаць! Ідзе дазнанне. *(Кладзе на стол паперыну, хімічыць у губах аловак.)* Куды ідзеш, пытаюся? З якім заданнем? І хто ты ўвогуле такі?

Хлеб

Я — хлеб,
Рашчынены ў дзяжы вайны,
На папялішчах горкіх замяшаны.
Іду я з печыва бяды
Ад вёскі ацалелай — і да вёскі.
Іду з дзяжы — ў дзяжу,
Ад вуснаў перасмяглых — і да вуснаў...

Турац

Ты, хлеб, мазгі мне дужа не таго...
Кхэ-кхэ... Не тлумі!

Усціна

Яны і так затлумлены ў цябе!

Турац

Маўчаць! А то вы ў мяне інача загаворыце... У каман-да-ту-ры! Там усім языкі развяжуць... І табе, хлеб! Гавары мне толкам. Хто з табою звязаны? Хто з табою ўночы быў?

Хлеб

Хто быў са мною?.. Пяць маіх братоў!

Турац

Пяцёх? *(Ажыўлена тыцкае алоўкам пад рыжыя вусы, крэкча — пад руку яму падсоўваюць бутлю мутнай самаробкі.)* От ядры, жвір яе бяры. *(П'е.)* Як памыі... Тэк-тэк. Значыцца, пяцёх? Хто ж яны, твае браты?

Хлеб

Мы — пяць хлябоў...
Раслі ў адной дзяжы,
На горы чорным разам замяшаны,
Апалены адным пякельным духам
На подзе вогненным вайны...

Турац

Ты зноў мне тлуміш! Я знаю — хто ты! *(П'е.)* Кхэ-э-э... Ты — партызан! І ты, і твае браты... Знаем мы вас! Хо-о, ці мала расце вас у вясковых печах для лясоў! Ну, прызнавайся... Лепш будзе!

Хлеб
*(звяртаецца да грамады людзей)*

Прыйшоў я з запаветам ад зямлі.
Яна мяне грудзямі ўскарміла!
Пусціла ў свет на пошукі ратунку
Ад спапялення...
Людзі, хай гартуе вас
Агонь, што апаліў маю скарынку,
Хай вас яднае кроў,
Што ў тым агні,
Звуглеўшы, на скарынцы запяклася...
Вы чуеце пякельны хлебны дух?
То — слёзы ўдоў, дзяцей,

То — горкі попел
Сёл вогненных...
Я ў вёскі грукаю: каштуйце, людзі,
Вось гэты бохан з печыва вайны!
Не абыходзьце лустаю маёй
Ні добрага, ні злога чалавека...
Так-так... Ні злога чалавека!
Няхай мой боль пякельны
І ў яго
Нячыстае нутро перабярэцца!..

Т у р а ц
*(хапае нож, цягнецца да хлеба)*

Дык от які ты! Кхэ-хэ... Бач, які дабрадзей знайшоўся — і пра мяне клапоцішся! Пра маё нутро! Тады ходзь сюды... На закусь! *(П'е.)*

Ж а н ч ы н ы
— Не смееш!.. Ён благаславенны!
— Не дамо паганіць... Адсохнуць рукі злыдню!

У с ц і н а
Жанкі...
А чуеце, што кажа хлеб?
«Не абыходзьце лустаю маёй
Ні добрага, ні злога чалавека!»
Няхай і ён сабе адкроіць скібку
Ад бохана...
Няхай і ён адкусіць
Кавалак тога гора, да якога
Прыклаўся сам... Хай добра пасмакуе
Зямляцка-братняй, з вогнішча, крыві!
А можа, засмыліць?!. Апомніцца?

Турац са страхам утаропліваецца на бохан хлеба. Адступаецца, размахвае нажом. Вяскоўцы заломваюць яго руку — выкручваюць нож. Цягнуць да паграбка ў агародзе. Але зачыніць не ўдаецца. С о л т ы с выкручваецца і, кульнуўшыся за плот, уцякае.

ЗЯЎЛЕННЕ БАЦЬКІ

Я н к а, вогненны прывід паэта

З дабром ідзеш да кожнага ты,
Хлеб!
Наіўнай веры колькі ў цябе, бохан!
Табе даўно б не шкодзіла
Стаць богам
У свеце тым, што ад злабы аслеп.

З дзяжы вайны
На наш лясны парог
Прыйшоў ты — веры, моцы духу ўзычыць.
З абраду ты, відаць, крыху язычнік,
Пагансці Бог,
Ды не паганы Бог!

Жанчыны вяртаюцца да стала. Кладучы на стол бохан хлеба, К а л я д а звяртаецца да людзей — яго вуснамі мовіць хлеб.

Х л е б

Дык вось мой запавет вам:
Па крупінцы
Раздайце ўсім мяне... Усім!
А рэшту —
Тут, у дзяжы удовінай, заквасьце:
Вазьміце шчопці стогну з папялішч,
Дзіцячую слязу... І промень веры!
Мукі вазьміце — з кожнай хаты жменю.
Печ напаліце звечара, а ўранні
З праменнем першым
З поду пяць хлябоў
Пашліце ў пяць дарог, у свет трывожны...
Запомніце: калі ўвесь гэты свет,
Праўдзівы і зламысны,
Чорны, белы,

Прайду наўсцяж з наказам — вось тады
Я толькі адраджуся ў сутнасці сваёй,
Якой я ўзняў на ногі
Чалавека!..

Хлеб на рукі прымае Усціна. Нерашуча ўздымае нож. Мерыцца кроіць бохан — і не можа... Спалохана адводзіць руку.

Янка

Матуля, што з табой?.. Чаго так рукі
Калоцяцца?..
Чаго ты так збялела?
Апальвае твае далоні бохан,
Нібыта ўдовін лёс!.. Апанаваў
Цяжкі ўспамін?
Няўжо зноў прывід бацькі?
Матуля, не палохайся — рэж хлеб!
Во — так!..
Дрыготка ўпіўся ў бохан нож...
Ды што там?!
З-пад апаленай скарынкі
Струмень крыві гарачае запырскаў!..

Усціна ўскрыквае. Нож выпадае з рукі. Жанкі падхопліваюць Усціну, спрабуюць узяць з яе рук бохан хлеба, але яна моцна туліць яго да грудзей.

Усціна

Сцяпанка!.. Ты ў крыві, але прыйшоў...
Зноў да мяне вярнуўся!
Ты — жывы!
Цябе на Ярнеўскай дарозе не забілі...

Янка
*(саджае маці на лаўку, робіць знак жанчынам)*

Пакіньце нас... Нясіце ў хату хлеб!
Ёй пройдзе... Гэта нечаканы ўдар.
Матуля, супакойся... Гэта прывід!

Крыві няма...
Табе, напэўна, зноў
Прымроіліся бацькавыя раны?
З кім ты гаворыш, мама?
Ну, не плач...

Усціна

Крывавыя сляды на снезе... Не!
Няпраўда!.. Прэч, ліхія чуткі... Ты —
Жывы!.. Ты дома... Вось ты!

*(З'яўляецца прывід цяжкапараненага Сцяпана.)*

Я рукамі
Кранаюся тваіх адкрытых ран...
Як іх раз'еў туман!.. Яны гараць
Раз'ятрана...
Хадзем барзджэй у хату.
Я зёлкамі прамыю іх і мяккай
Кужэлінкай перавяжу...

Сцяпан

Чакай...
Але чаму так людна ў нашай хаце?

Усціна

Да нас жа хлеб прыйшоў.
У хаце — хлеб!

Сцяпан

Ты сёння хлеб пячэш?.. Я так і знаў!
Пах печыва... Як хочацца на міг
Крануцца хлеба!..
Я пачуў здалёк,
Як свежым жытнікам запахла вёска!
Такі нязвычны, дымны і гаючы
Той пах!
Ён сёння ўсё нутро маё

Перавярнуў... Я косці адарваў
Ад жвіру і пайшоў на гэты пах!
Але чаго ты плачаш?
Дзіўна ўсё ж:
Чаго сышліся людзі ў нашай хаце?

Усціна

Хлеб гэты з-за цябе прыйшоў да нас.

Сцяпан

Як... з-за мяне?!

Усціна

Хлеб, мусіць, памыліўся!
Скажы, Сцяпанка: праўда, гэты хлеб
Зайшоў у нашу хату па памылцы?
Хіба я удава?!

Сцяпан
*(з болем, сам сабе)*

Чаго я так спяшаўся
На гэты дзіўны пах?.. Ну чым цяпер
Тваю бяду суцішыць мне, Усціна?

Усціна

Пра што гаворыш ты?

Сцяпан

Пра гэты хлеб:
Ён горкі і круты!.. Не паспытаў
Яшчэ яго, а ўжо сціскае горла!

Усціна

Ён з печыва вайны... Ён прадвяшчае
Ратунак нам!.. Хадзем! Табе патрэбна
Свяшчэнным гэтым хлебам прычасціцца!

Сцяпан

У вас ён... быццам Бог!

Усціна

Калі ўсявышні
Ад нашага парога адступіўся,
Хай будзе Богам ён, пасланнік-хлеб,
Заступнік ад агню, наш абаронца!

Сцяпан

Мне карабін — і Бог, і абаронца
Дзяцей і ўдоў!
Вы хлеб святы пячыце
Лясам... Карысці будзе больш, паверце!

Усціна

Хіба ты хлебу гэтаму не верыш?

Сцяпан

Я болей зброі веру... Толькі сілай
Злыдушнай сіле ўчынім мы канец.

Усціна

А ўсё ж ты — вер!
У хлеб, зямлёй пасланы:
Няхай па вёсках, нібы засцярога,
Ідзе абрад вайны... Ну як не верыць
Таму, хто ў свет ідзе з дабром,
Хто прагне
Уратаваць нас?.. Як не перадаць
Сваю слязу, свой боль?.. Я іх сама,
Пайду, на ўслоне зыбкім замяшаю,
Заквашу у дзяжы і жах, і стогн
На новым хлебе...
Сёння цэлай вёскай
Мы ўдовінае гора і любоў
Рашчынім!..

8*

Сцяпан

Помсту рашчыніце!

Усціна

Я перадам сама дзяжы, рашчыне
Твой з перасмяглых вуснаў запавет,
Сваю любоў і гора... І адплату!
Спяку я печыва з усёй мукі
Заступнікам-барам,
Пяці шляхам —
Няхай у свет ідзе твой запавет,
Аплачаны крывёю, самы чысты!
Адно прашу, малю... Не адыходзь!

Сцяпан

Але ў зваротны шлях мяне гукае
Сівы курган...

Усціна

Ой, чула сэрцайка...
Маім слязам цяпер не высыхаць,
А чуткам спраўдзіцца...
Зноў слепне дзень.
Крывавая зара ўваччу. Сляды
Набраклыя ў глыбокім снезе...
Па тых слядах я ўсё блуджу, шукаю —
Дзе твой курган?.. Каб я сама магла
Прыходзіць да цябе, калі ў душы
Жуда, нібы ў магіле!
Як жа мне
Убачыць хоць здалёк твой воблік-цень?
Хоць рэха твайго слова чуць?
Сцяпан,
Я прынясу табе наш цёплы хлеб
Уранні — так, як некалі дзяды
Дзядам насілі...

Сцяпан

Дзякую, Усціна...
Там хлеб не трэба ні дзядам, ні мне.
Нас мучыць толькі прага-успамін
Пра хлеб,
Як пра глыток вады халоднай...
Але ў тваім памкненні ўчуў я
Святасць,
Нязнаны нейкі патайны саюз
Любові і абрадаў... Я пайду!
Я сам яшчэ вярнуся па ваш хлеб,
Сам занясу яго ў Сухінскі бор
Да партызан... Хай перад новай бітвай
Тым хлебам прычасцяцца!

Усціна

Ой, цішэй!
За намі хтось цікуе...

Сцяпан

Гэта ён!..
Наш вечны спадарожнік... Ты не бойся!
Я невідомкам стаў для здрадных воч.
І толькі калі ўчую дух паганы,
Запыюць раны страшна... Я пайду!
Сырым пяском іх падлячу...

Усціна

Чакай!
Не адыходзь!.. Я зноў адна, адна...

Прывід Сцяпана знікае. З ганка кабеты клічуць Усціну: пара рашчыняць хлеб. Але яна як не чуе. Утароплена глядзіць у бок Курган-гары...

За прывіднай постаццю бацькі кідаецца Янка, але яго перапыняе жаночы голас.

Т а х в і л я

Янка! Бяжы на Казлоў хутар... Накажы цётцы Настусі: няхай хутчэй падыдзе сюды, да хлеба... Няхай крыху свае мукі возьме. Ды пачакай: на табе ў дарогу лустачку гэтага хлеба!

## НА КУРГАННІ

Курган-гара... Абрывіста-сухадолы лясны ўзгорак. Каля падножжа зарослы бадыллём старадаўні курган. Над ім — жылаватыя галіны волата-дуба. Перасвіст птушак. Першыя пралескі.

Я н к а, вогненны прывід паэта
Стары курган...
Над ім тысячагоддзе
Прайшло з грымотнай пошай навальніц.
Асела колькі згадак, таямніц,
Нібы цямніц,
Зямля, ў тваёй гасподзе!

Што тоіш ты
Пад сховам нематы?
Нашэсці даўніх крыўд, палону, здрады?
Як спрасаваліся твае паклады
Пад новымі пластамі гаркаты!

Пласты...
Наш край, напэўна б, скурганеў,
Гарбаціўся б нямой гарой маўчання,
Калі б праз гнеў —
вось гэта веснаванне
Не прарастала, родзячы наш спеў!
Я б сам тут пеў,
Як родны кут лясны,

У лад вясны...
Але наканавана
Згарэць мне не ад песні... Гэтак рана
Дарогу перайшлі мне курганы!

Вогненная плялёнка над постаццю Янкі знікае. Ён зноў перад намі ў абліччы цыбатага падлетка. Ідзе назіркам між кустоў. Здзіўлена спыняецца ў папаратніку.

Я н к а

Прабач мне, тата, назіркам сюды
Ішоў я за табой лятучым ценем.
Ды на старым Курганні на імгненне
Я на траве згубіў твае сляды.

Ты знік нябачна — ці не ў наспе той,
Што ледзь жаўцее свежа ля Кургання?
Адкуль той жвір з'явіўся на паляне
Сярод кустоў, сухой травы густой?

Скажы мне, прашчур-дубе, вартаўнік
Сівых вякоў,
Хто ў дол пясчаны свежы
Вось тут прайшоў, пераступіўшы межы
Нябыту і жыцця?
Прайшоў — і знік!

Да свежай наспы, накульгваючы, падыходзіць хутаранін С а м у с ь  К о з е л. За ім з пралескамі — Г а н я. Янка хаваецца за камлішча дуба. Козел абкладае магілу дзёрнам.

К о з е л

Табе цішэй тут будзе, на Курганні,
Сярод вячыстых соснаў, сярод продкаў,
Пахілых камянёў сівых, што з долу
Гарбацяцца, нібы пытаюць нема:
Хто тут яшчэ да нас прыйшоў у вечнасць?
Не знаю, хто ты...

Ды па світцы зрэбнай
Відаць, што наш ты чалавек...
Завеі
Адвылі над табой... Цяпер спачні!
Ёсць на зямлі у кожнага святыя
Правы —
На вечны свой прыстанак,
На камень абымшэлы ў галавах,
На жвіравы парог, на тыя дзверы,
Кудой сышоў за продкамі услед...
Выходзіць ноччу будзеш ты з дзядамі
І слухаць з кургана — мо век, мо два —
Няўжо яшчэ у свеце не аціхла
Людская калатнеча злая?.. Чуеш?!
Грыміць па нашых землях зноў бяда!

Г а н я
*(кладзе пралескі на грудок магілы)*
Ты з кім так вусцішна гаворыш, дзеду?
З тым чалавекам?.. Хто ён?

К о з е л
Для яго
Мы ўсё з табой зрабілі, што маглі.
Астанкі перанеслі... Ды імя
Яны нам не сказалі... Папільнуй
Ускраек гэты, дзетка,— каб жа ліха
Не напаўзло ад Ярнеўскай шашы...
Адной не страшна?

Г а н я
Я ж — лесавічанка...

К о з е л знікае сярод дрэў на сцежцы. З-за камля паказваецца Янка.

Я н к а

Лесавічанка, добры дзень... Не бойся!

Г а н я

Спалохаў, ой... Чаго ты на Курганні?

Я н к а

Чыя гэта магіла?

Г а н я

Ты сачыў?

Я н к а

Сачыў я не за вамі...

Г а н я

А за кім?

Я н к а

Скажы, нікога тут не бачыла?
Ну... хоць бы ценю?

Г а н я

Ценю?!

Я н к а

Між кустоў
Вось тут прайшоў нядаўна цень лятучы...
Ты не заўважыла?

Г а н я

Ну што з табой?
Ты ўвесь у нейкім тлуме... Што за цень?!

Я н к а

Я сам не знаю... Патайная сіла
Мяне вяла з сяла праз яр... Як здань!

Г а н я

Якая здань?! Яна ішла па хутар?

Я н к а

Ды не... На хутар я ішоў да вас,
Пасланы хлебам...
Сам яшчэ не ўцямлю,
Што сёння творыцца наўкол...

Г а н я

І я...
Не разумею слоў тваіх — пра што ты?
Ты ўвесь нібы ў гарачцы... Супакойся.

Я н к а

Каго вы пахавалі ў той магіле?

Г а н я

Каго?.. Яго імя зямля не скажа...
Мой дзед прынёс яго ў старой радзюжцы
Учора... Толькі косці...

Я н к а

Ды адкуль?

Г а н я

Наткнуўся каля Ярнеўскай шашы...

Я н к а

Ля Ярнеўскай?

Г а н я

Ды чым ты так узрушан?

Я н к а

*(утароплены ідзе да магілы)*

Я знаў, што гэта ты... Нібы гара
На грудзі легла мне — няма прадыху!

Зімой цябе, скалечанага, ціха
Прывезла ў двор крывавая зара.

Чаму я не разгледзеў, не ўсачыў
Таго, хто краўся ўслед да вокан хаты?
Чаму тады мой слых не быў напяты?
Зрок не гарэў вуголлем уначы?

Не ўпільнаваў!
А ты здушыў свой стогн,
Мой ранні сон трывожыць не дазволіў.
Чаму не прахапіўся я ад болю?
Не ўчуў праз сон —
пачвару ля акон?

Цябе схапілі, скрывавілі раны...
Забінтавала кудаса твой след.
Дзе ты скапаў?.. Дзе капуў на той свет?
Дзе ў муках задыхнуўся, скатаваны?

Цябе ў дарозе кінулі на страту.
Як зімна ад тых чутак!.. Ад бяды.
Я да цябе не так прыйшоў сюды.
Устань, мой тата.
Раскажы, мой тата.

Як раны ледзяніла ўзвей-мяцель,
Як з пекла ў пекла везлі — не давезлі...
Як прах паганілі...
Як напрадвесні
Вятры раскрылі снежную пасцель.

Устань, мой тата... Трэба нам удвух
Пагаварыць...
Дай сыну сваю сутнасць.

Я чую сярод нас тваю прысутнасць,
Я чую і праз гэты жвір
Твой дух!

Ты бачыў хлеб?
Даруй, здалося, тата,
Кроў нашых сёл ахвярных на нажы.
Запёкся немы боль там наш... Скажы:
Хто ворага навёў на нашу хату?

Хто выдаў?.. Знаю, горкіх слёз
Табе не трэба... Спеюць гневу позвы!
Даўно хаджу я па сцяжынах помсты.
Да помсты партызанскай я дарос!

Устань — над гэтай прорвай жвіравою
Благаславі ў Сухінскі бор — туды,
На сцежкі гневу!
Знаю, што бяды
Мне не сквітаць адплатаю святою.

Не заглушу я матчынай тугі.
Пакуль між нас на лапках ходзіць здрада,
Мая віна — без жалю, без спагады —
Пячэ мяне... Устань, мой дарагі!

Ганя палахліва глядзіць на свежы дол. Узрушаны Янка чакае цуду з'яўлення бацькі... Але дол маўчыць. Схамянуўшыся, Янка кідаецца да старога дуба, караскаецца па камлішчы. Рука цягнецца да дупла. Адтуль спуджана вылятае птах.

Ганя

Ах, Янка, як мне страшна... Злазь!
Ты чуеш —
Галосіць бор... Ой, не скрані гняздзечка!

Я н к а

Я нешта прыхаваў тут... Паглядзі!

Г а н я

Янулька мой, што робіш ты?.. О, божа!

Янка дастае з дупла рабаватыя птушыныя яйкі. Кладзе ў шапку. Потым выцягвае з дуплішча зеленавата-рабую трафейную гранату.

Я н к а

Адзін паклад — вясны,
Другі — вайны.
Як часта разам вы ў адным дуплішчы
То песню спеліце,
То папялішчы.
То сееце жыццё, то — курганы...
Паклад вясны,
У схоў свой дупляны
Вяртайся ды праклюнься у нябёсы!
А ты — сплаці за матчыныя слёзы
І ў кут наш не хадзі,
Паклад вайны!..

На дрэва налятае парывісты цень хмары. Недзе ў гушчары чуецца трэск галіны.

Г а н я

За намі нехта сочыць... Янка, злазь!
Вунь з гушчару, за соснамі...
Ой, божа!

З-за яра нарастае гул машыны. Ускрыкнуўшы, Г а н я стрымгалоў кідаецца ў бок хутара..
Янка разгублена піхае лімонку за пазуху. Шапка з птушынымі яйкамі падае. На каранях дуба беляхцяць мокрыя шкарлупіны.

## ПАРТЫЗАНСКІ ХУТАР

Хутарскі двор. Хата з каморай, збоку хлеў, воддаль гумно. Сярод двара — студня з вядром на ланцугу. Пры сцяне хаты Настуся развешвае адпараную бялізну. З хлява з пустым рэшатам выходзіць Козел. На падворак, задыханая, улятае Ганя.

Ганя

Немцы! Ад Ярнева ідуць машыны... Барзджэй!

Пад рукамі ў маці абрываецца дрот з бялізнай. Козел з рэшатам пускаецца да гумна... Позна!.. Адтуль, з тыльнага боку, на хутар заходзяць некалькі карнікаў. Ідуць міма гумна — у бок хаты.

Настуся
*(са слязамі да Гані)*

Уцякай!
Ах дачушка мая, ці не бачыш —
Гэта наша бяда ідзе!
Перапора яна ўсе куткі,
Ператрасе стадолу...
Ой, не пашкадуе нікога!
Уцякай!
Гэта наша пагібель ідзе,
Не адкупішся, не адмолішся ад яе —
Пераніштчыць усё да самага кораня!..
Ляці барзджэй, саколка мая,
Праз яр баравы ў сяло:
Бяжы, хоць людзям накажы:
Ой, не ходзіць бяда адна!..
Уцякай!
Яшчэ выслізнеш з нашай бяды хутарской
Хоць адна... Ой крывінка мая!
Ну чаго ж ты стаіш у слязах?
Ах, мацер боская, літасцівая,
Абразумі ты яе, уратуй!
Пашкадуй ты хоць, дачанька,

Татку нашага!
Калі прыйдзе дахаты з вайны —
Каго ж застане?
А ён цябе песціў, так любіў!
Чым ён гора сваё суцяшаць будзе?
Хто раскажа яму,
Як жылі мы ўсе ночы-дні
Тут на хутары партызанскім?
Хіба чорны камень?..

Тры карнікі і солтыс Турац падыходзяць да хаты. Каля студні ў разгубленасці стаіць з рэшатам стары Козел.

Турац

Чаму сустракаеш з пустым? Кх-э-э, благая прыкмета!.. Прызнавайся, на днёўцы партызанаў няма?

Немец

Партызан — хаўз?

Козел

Няма ў нас партызанаў... Нямашака.

Настуся

Паночкі, прашу ў хату... Да стала. Якраз яечня ў печы. Можа, вы не снедалі?

Турац

Ух ты, накрывай добры стол, Настуся! Каб і да яечні было... А то ліха не абярэшся! *(Адводзіць Настусю ўбок.)* Ты мне, як перад бацюшкам на споведзі... Дзе партызаны? У хаце?.. У гумне?.. Галавой не круці, як крутагалоўка. Мы-то знаем, што яны тут заляглі на днёўку. Па вачах бачу... Кх-э... Не адкруцішся! Табе, як добрай, кажу... Бачыш, ідзе аблава па хутарах. Чаго губу закусіла? Прызнавайся. Потым позна будзе!

Адзін з немцаў пачынае пільна ўглядацца некуды за паркан, у бок лесу. Кладзе між штыкецін карабін. Цэліцца... Потым рэзка махае рукой. «Ком!.. Ком!»
Цераз паркан на падворак пералазіць перапуджаны Я н к а. Рукой стараецца захіліць пазуху, дзе прыхаваны небяспечны трафей.

Т у р а ц

Чаго ты, падшыванец, бяжыш на хутар? З наказам?.. Хацеў апярэдзіць нас? Хто паслаў?.. Ану, выварочвай кішэні!

Я н к а
*(дастае хусцінку з акрайчыкам хлеба)*

Во хто паслаў мяне на хутар —
Хлеб!
Прыйшоў ён з папялішч у нашу вёску...

Т у р а ц

У-ф-ф... Што за напасць! Зноў уваччу той самы хлеб! *(Выцірае лоб рукавом.)* Чаго ты прэшся з ім? Выкінь!

Я н к а

Не... Гэта хлеб свяшчэнны!
Ён нясе
Па вёсках заклінанне ад агню,
Надзею на збавенне... Каб, крый божа,
Не выбілі нас...

Т у р а ц

Чорт ведае што... Насланнё нейкае! Гэты хлеб — партызан!

Н е м е ц

Брот — партызан?! *(Асцярожна разглядае акраец.)*

Я н к а

Наказваў хлеб: раздайце яго ўсім!
Тут слёзы ўдоў, дзяцей,

Тут горкі попел
Сёл вогненных... Хай кожны паспытае
Акраец гэты з печыва вайны...
Не абыходзьце ім —
Ні добрага,
Ні злога чалавека... Хай смыліць
Наш боль пякельны і ў яго нутры!

Турац

Маўчаць! Зарадзіў тут, вашывец, пропаведзь... Чулі!

Янка
*(да Настусі)*

Вось гэты хлеб прыслаў мяне па вас —
Да печыва...
Жанкі ў нас рашчыняюць
Свяшчэнны хлеб...
Ідзіце, цётка Наста!

Настуся

Мне, сынку, з хутара ніяк не можна.
Ты бачыш, што за госці ў нас?
Так і скажы ў сяле!
Бяжы... Ой, не!
Замест мяне ад нашай хаты сходзіць
Да хлеба мая Ганька...
Дык бяжыце!

Турац

Кх-э-э!.. Запомні, сёння ні з аднаго хутара нават мыш не пралезе! Каб і не рып адсюль... А то ўмэнт даганім! Во чым... Вядзі лепш, Настуся, ў хату. *(Раптам заўважае абарваную на дроце пры хаце бялізну.)* А гэта што такое?!

Настуся

Дзе?.. Бялізну сёння перамыла збольшага... Сушу.

Т у р а ц

Во-во... Аслепла? *(Тыцкае ботам.)* Між споднікаў — што такое, пытаюся? Бінты?! Ух, ядры, жвір іх бяры! Чуць не прамаргалі... Ану — у хату! Усё ператрасём...

У расчыненыя дзверы ўслед за Настусяй ідуць Турац і два карнікі з аўтаматамі напагатове. Трэці вартуе на падворку. Козел ад студні цішком паварочвае да гумна, але немец загадвае стаяць на месцы.

Я н к а, вогненны прывід паэта

Адкуплялася хата...
Першаком, што панадна
Струменіўся сіне-ружовым агнём
У шклянкі...
Адкуплялася хата
Яечняй духмяна-падросцістай з печы,
Сухой каўбасой,
Знятай з ражна на гарышчы...
Адкуплялася хата,
Чым штодзённа жыла:
Кіслай капустай, салёным грыбком,
Агурком з паграбка сцюдзёнага...
Адкуплялася хата
Прыцьмелым даўнейшым срэбранікам,
Што перахоўваўся за абразамі...
Адкуплялася хата
Гаспадыньскаю змушанай ветласцю —
У прыдачу да той каўбасы.
*(Каб у горле ім стала ражном!)*

Адкупілася хата... Захмялелыя прыблуды расчыняюць дзверы каморы. Прагавіта вынюхваюць спажыву.

Адкуплялася цяжка камора:
Польцам апошнім сланіны,

Прыжоўклай, са дна кубельца...
Адкуплялася з болем камора
Глячком бурштыновага мёду
З багунніку, дзікай маліны,
Што хаваўся ашчадна па лекі...
Адкуплялася з енкам камора
Гаючым гусіным шмальцам,
Што з лекамі святаянскімі
Прыкладваўся разам да ранаў...
Адкуплялася слёзна камора
Расчыненым скваппа куфрам:
Хвастом палатна саматканага,
Шаляноўкай з гарачымі кутасамі,
Якая чакала з Ганяй
Яе маладога свята...

Адкупілася камора... Карнікі з Турцам хістка ідуць да хлява, на далейшыя «агледзіны» хутарской гаспадаркі.

Чым жа хляўку адкупіцца?
Куркай рабою з седала?
Цялём-сысунком, што даверліва
У рукі тыцкае пысай
І соладка пахне малодзівам?
Чым жа хляўку адкупіцца?
Свінчом, што крапіўку раннюю,
Наставіўшы лыч, храбустае?..
Ці гэтаю параю коней
У дымна-каштанавых яблыках?
Ах, як смачна яны пахрумстваюць
З прыскрынка плывучы авёс!
Чые ж гэта коні?!
Хутарскія коні...
Гаспадарскія коні!
А чые гэта сёдлы
Пад сенам у яслях ляжаць?!

Турац

Ух ты, ядры, жвір іх бяры! Яны недзе тут залеглі... *(Выносіць сёдлы з хлява, злосна шпурляе, бярэ ў аднаго карніка ліхтарык.)* Партызаны во дзе — на палатках! Лезце!.. А я пасвячу. *(Ды лезці прыйшлося найперш самому.)*

Янка, вогненны прывід паэта

Енчыць дрыготка драбіна
Пад цяжкімі каванымі ботамі.
Жоўтае вока ліхтарыка
Злосна па жэрдзі слізгае...
Хто між кулёў саломы
Тут, у застрэшшы, прыціх?
Замёрлі кулі — ні дыху,
Стоена хлеў маўчыць...
Няўжо адкупіўся і хлеў?

Насцярожаныя карнікі, перапароўшы ў хляве ўсе закуткі, падаюцца да гумна. Турац гоніць паперадзе гаспадароў хутара.

Расчыняй свае дзверы шырока, гумно!
Адкупляцца табе ўжо няма чым:
Вайна змалаціла, падгрэбла ўсё —
Да апошняга падскрэба.
Разышоўся ўраджай па дарогах, лясах:
Жыта ўмалотнае —
Хлебам трывушча-духмяным,
Ячмень —
Добра ўпараным крупнікам,
Півам успенена-маладым,
Авёс залаты —
Гнеўнымі іскрамі з-пад капытоў!
Засталася ў стадоле
Гара залатое саломы...
Гэй, а хто там на ўлежаным золаце
Так беспрабудна разлёгся,

Падкошаны сном малацільшчыкаў?
Чые гэта людзі?
Хутарскія парабкі!
Гаспадарскія парабкі!
Бачыце — стома якая:
«Малацілі» тры ночы ўзапар!..
Ляжаць, як снапы на таку
З развязанымі перавясламі,
Ляжаць у абдымку з «цапамі» —
Ах, як недарэчы, бяздзейсна
«Цапы» тыя ў сцятым паўзмроку
Блішчаць!

Турац

Ух ты, ядры!.. Пабярэм, як курапатак... Амба!

Немцы

Партызан!.. Хэндэ хох!

Аўтаматы зірката нацэлены ў расчыненыя дзверы — на золата зляжалай саломы. Нядобры, задаволены рогат — мурашкі па спіне...

Янка

Мой тата!
Памажы, з'явіся зданню...
Не дакарай мяне... Благаславі.
За прывід твой,
За хлеб, што у крыві,
Я сам між іх
Слупом агністым стану!

Пад ногі ворагаў ляціць лімонка. Дзверы засланяе дымны выбух. За гумном — стрэлы, цяжкі тупат ботаў. Ланцуг нямецкай аблавы ачапляе хутар. Па стрэхах пачынае шугаць агонь.

## У ДЗЯДОЎ

Курган-гара... Я н к а цяжка паўзе між дрэў, кустоў. Спрабуе прыўстаць. Зняможана валіцца на вузлаватыя карані дуба.

Святло прыцьмявае. З'яўляецца прывідная постаць Янкі пад агністай плёнкай.

Я н к а, вогненны прывід паэта

Я да цябе,
Трывожны матчын дом,
З трызненнем поўз, з абдымкаў тога свету.
Я толькі ў апраметнай з жахам зведаў,
Што тоіць пад сабой курганны дол.

Які цяжкі ён, дол маіх дзядоў!
Не дол, а дом.
Час сцены не патрушчыў.
Там выспявае сэнс былых гадоў.
Там бой ідзе —
За нашы з вамі душы!

Агнём і там пазначаны вякі.
З пячор звісае горкае карэнне.
І гэта — ўглыб! — нямое вымярэнне
Не выпускаў ніколі свет з рукі.

Ідзе адтуль магутны сокаў рух.
Лістамі прарастаюць запаветы.
Не знішчаны, віруе з тога свету
У дрэве чалавецтва праўды дух!

Яго хісталі войны у бакі.
А чужакі —
таптаі душы, пушчы.
Ды ўсё ж, япічэ не скораны, відушчы,
З мальбой ён шэпча гэтыя радкі.

Прывідны воблік Я н к і знікае. Зноў высвечваецца Янка-падлетак — ён у пакутным трызненні шукае вачыма свежы грудок бацькавай магілы. Прыўздымаецца, бязгучна і адчайна кліча. З'яўляецца прывід С ц я п а н а.

Сцяпан

Я тут, мой сыне!.. Я благаслаўляю
Тваю пралітую ахвярна кроў.
Ды апраўдаць яе ўсё ж не магу
Ні перад Богам, ні сваім сумленнем.
Вайна — не для дзяцей.
Вайна — віна
Усіх дарослых перад вамі, дзеці!
Што бачылі, апроч пажараў, слёз,
Вы ў гэтым свеце,
што ніяк для вас
Не можам мы улашчыць?

Янка

Даруй... Яшчэ не ўсё я споўніў... Не!
Ён недзе тут...
Ён вобарацень, змеем абярнуўся!..
Падбіты ля гумна, ў дзвярах, ён следам
Мне напярэймы поўз па сасняку,
Між папараці...
Во — ён прытаіўся
У яры... Чуеш, як агнём сычыць
Яго разяўленая зяпа?
Тата!
Як горача ён дыхае мне ў твар!
Аж лісце ад слюны яго атрутнай
На дрэвах курчыцца...
І скачуць, скачуць
У зрэнках маіх іскры... Што ён хоча?
Ён прагне сцежкі ў лесе пераняць
Майму наказу...
Як паспець мне ў вёску?
Як дапаўзці мне?.. Эх, каб у дупле
Я прыхаваў яшчэ адну лімонку!
А ў вёсцы месяц хлеб...
Вунь — рукі маці

У падыходзячым цягучым цесце...
Не ведае іх вера пра бяду.
А змей паўзе туды...
Як апярэдзіць?

Сцяпан

Не апярэдзіш... Змей той — сотняногі!
Ён ланцугом аблавы заціскае
Курганне наша... Гэты лес і яр.
Ты чуеш гул машын?
Не дапаўзеш...
Сплыве жыццё апошняе ў дарозе —
У гэты мох, брусьнічнік, жоўты жвір...
Я чую: быць бядзе!.. Я не пушчу
Цябе з агню ў агонь...
Застанься тут!
Застанься хоць адзін!
Ты — нашы вусны.
Ты мусіш выжыць, выйсці, каб у слове
Зноў адрадзіць апалены наш свет!
Перадыхні на бацькавых руках.
З пабітых ног я кроў тваю спыню,
Твар абатру і лоб твой астуджу...
Цябе я ціха-ціха залюляю,
Нібы ў калысцы... Чуеш песню дрэў?

## ПЕСНЯ ДУБОВАГА ЛІСЦЯ

Шапоча ў вясновым блакіце
Над першай зялёнай травою
Дубовае жоўтае лісце,
Сухое, даўно нежывое.

Пяклі маразы і сцюжы,
Вятрыска надрыўна скуголіў,

Ды лісця сухога не здужаў
Ніхто у дубовым голлі.

Адолее нас толькі свежы
Лясны веснавей у зацішку.
Ён промнем блакітным разрэжа
Набраклую сокам пупышку.

Журботлівы сум сухалісця
Не значыць, што дрэва сухое.
З адчаю трывогі не біце:
Абы каранішча жывое!

З пластоў нежывых, безгалосых
Яно вузлавата, па жылах
Не раз яшчэ ўздыме ў нябёсы
Вяршынна-зялёную сілу.

Янка ўпадае ў сон-забыццё. Вецер трывожна ўзвывае ў дубовым лісці. На ўзлеску нарастае гул машын. Па лесе ідзе чужагалосае рэха.

Сцяпан

Яны ідуць аблавай... Ты заснуў.
Знямажаны, ты бачыш сон крывавы.
Для іх я — невідучы... А цябе
Яны з бацькоўскіх рук са смехам вырвуць!
Працягнецца твой сон у новых ранах,
У пекле катавання...
Не аддам!
Вы чуеце: з калыскі маіх рук
Не вырвеце!
Яшчэ ёсць выйсце, выйсце!
Вось мой курганны дол пад дзёранам —
Мой уваход!
Мой жвіравы парог!

Яго ты, сынку, толькі ў моцным сне
Са мной нябачна-ціха пераступіш...
І толькі ў сне
Назад вярнуцца зможаш.
Цябе я ў свеце тым схаваю... Спі!

Постаці бацькі і сына апынаюцца ў бякла-дрыготкім святле, сярод хісткіх сполахаў, ценяў...
Янка цяжка працірае вочы. Спаўзае з рук бацькі і ўстае на ногі.

Я н к а
Куды я трапіў?
Вусцішна навокал...
Нібыта праваліўся я ў прадонне.

С ц я п а н
Ты ўжо ачнуўся, сын?

Я н к а
Няўжо я спаў?
Наўкол у хісткіх водблісках снуюць
Якіясь цені, вусцішныя здані...
Ну дзе мы?!

С ц я п а н
Мы знайшлі надзейны схоў
У продкаў...
Так, не бойся... На тым свеце.

Я н к а
Мы ў пекла трапілі?

С ц я п а н
Ну што ты!.. Пекла —
Не тут, а там — наверсе, на зямлі.

Такога віру вогненнага, дзе
Людзей жывымі паляць на вуголле,
Тут аніякім д'яблам не раздзьмуць!

Я н к а

Ага, цішэй тут...

С ц я п а н

Сынку, не зусім.
Не можа быць зацішша ў апраметнай.

Я н к а

Я чую быццам стогн глухі... Адкуль ён?

С ц я п а н

То — наш мінулы час... Нялёгкі,
Зляжалы мацярык былых вякоў.
Яны, нібыта з поля бою воі
Смяротна раненыя — ўсё канаюць...

Я н к а

А хто крылуе там, над стогнам?
Воран?

С ц я п а н

Адроддзе хіжадзюбых.

Я н к а

Што ім трэба?

С ц я п а н

Там, на арэне ярасных пабоішч,
На землях, што мячы спаласавалі,
Яшчэ спажыва ёсць!

Я н к а

Астанкі вояў?

Сцяпан

Ды не!.. На свеце тым патрэбен кіпцю
Не прах...

Янка

А што?

Сцяпан

Душа... Душа ім трэба!
Яны пасланы душы забіраць
У тых, хто, нават ідучы сюды,
Душу ўтрымаў...
Ім напачатку трэба
Злыдушнай хітрасцю або прымусам
Душу зарабаваць... А потым можна
Кляваць і цела!
Зрэшты, можна цела
І не расклёўваць цалкам:
Без душы
Ужо сабе яно не падуладна...

Хіжадзюбы цень нізка пралятае над галовамі Сцяпана і Янкі. Сцяпан рашуча адмахваецца рукой.

Як цяжка, сын мой, вечна адбівацца
Нам ад рабунку душ...
І на той свет
Яны гурмой услед ляцяць... Не бойся!
Глядзі, яны як хіжа і глюгаста
Віжуюць над галовамі дзядоў...

Янка

Я бачу там, за дымам,— толькі здані...

Сцяпан

Ды вунь — пад каранямі старадрэвін
Сядзяць каля кастроў...

Янка

Там нашы продкі?
Чаму ж глядзяць увысь?.. Няўжо яны
Асуджаны тут вечна адбівацца
Ад хіжадзюбых?

Сцяпан

З іх не ўсе ўтрываюць,
А толькі тыя, хто быў моцны духам!
Зірні, во — палясоўшчык... Барада —
Як смольнае карчэўе... У руках
Разгалых, вузлаватых колькі ён
Ператрымаў мядзведзяў і зуброў!
А потым на рагаціне сваёй —
Прыблудаў розных...
Поруч з ім — ганчар
Курганскі, наш... У месіве гліняным
Умеў ён замяшаць усе дзівосы
І моц зямлі сваёй...
А там во — бортнік...
Каваль... Гарбар...
Там — сейбіт і плугар...

Янка

А хто вунь да дзядоў прысеў у круг?
І ў водбліску агню удумна, з болем
Гартае кнігу тоўстую?..

Сцяпан

Скарына...
І тут ён не цураецца ні цесляў,
Ні пастухоў... Відаць, рашыў з дзядамі
Разважыць беды свету, разгадаць
Святую прытчу пра агонь...
Ты чуеш,
Як заклінае ён глюгаста-хіжых?

Сцяпан і Янка кіруюць бліжэй да кастра дзядоў. Спыняюцца.

Я н к а

Я слоў яго таемных штось не ўцямлю...

С ц я п а н

Нічога, сынку... Потым разбярэшся!
Адціснецца на памяці тваёй
Тут слова кожнае, як на паперы
Ягоны старадрук...

Над вогнішчам дзядоў зніжаюцца раз-пораз, выпускаючы кіпці, драпежныя цені. Скарына адганяе іх разгорнутай кнігай.

С к а р ы н а

Прэч, ідаласлужыцелі,
Няшчаснае адроддзе сатаны!
Вам нашы душы трэба?
О, ўсявышні!
За грэх які ты ў кіпці нечасцівых
Аддаў мяне?
Бярыце прах мой, тлен...
Але душу — ў пасеве родных літар —
Вам не скляваць, як зерне на раллі,
Тут, на старонках кніг маіх свяшчэнных.
Прэч ад дзяцей маіх адзінародных!
Ад кніг, якім жыццё тут з рук маіх
Давалі на вякі ўсе — Прага, Вільня...
Я перадаў ім з плоццю і крывёй
Жывую мудрасць, розум дасканалы,
Навуку мудрасці і другалюбства,
Навуку ўсякай праўды... Хай яны
У дабрадзействе будуць,
Як свяцільнік,
Як скарб прачысты, прэблагаславенны,—
Табе, люд паспаліты, для пажытку

І дабратлівых цнот...
Хіба без іх
У свеце сёння можна справаваць?
Я сыты быў духоўным прыніжэннем,
Як той Іоў, я праклінаў свой дзень,
Калі пабачыў я святло дзянніцы.
Я вобмацкам хадзіў удзень, як ноччу,
Але нідзе не ўблытаўся нагамі
Ў цянёты зла...
Ішоў я не на баль,
А ў хаты плачу... Я лямантаваў
У тайніках душы сваёй — і з твару
Сціраў я жоўць аспідаву цішком
Рукой доўгацярпення...
Я пытаўся:
Навошта чалавеку дадзен розум?
Моц розуму — хіба не ў аддаленні
Ад зла?
Навошта ласка гэтай мовы,
З якое Бог пусціў мяне на свет?
Хіба праз моц яе, праз чарадзейства
Не прарастае еднасць?
Наша моц?
Навошта нам прыроджаны свой кут,
Свой край радзінны?
Ці не для пазнання
Саміх сябе у свеце?.. Дык які ж
Мой грэх?..
Не я, а край мой распачаў
Сяўбу на белым полі кніг маіх...
Не я,
А дух разумнасці у свеце
Маёй рукой насенне літар сыпнуў
Для памнажэння мудрасці і веры
Жыванačальнай...
Я праракаваў

Вялікую высокасць чалавеку!
І ён такім адродзіцца яшчэ,
Калі засцеражэ ад цемратвораў
Душу сваю...

Янка стаіць, заварожаны магутна-гаючай сілай пачутых слоў. Спачатку ён не заўважае, як на голас Скарыны пастрашліва ляціць доўгі чорнасутанны цень. Згледзеўшы, Янка ўскрыквае.

Я н к а

Ой, тата, страшна... Выпушчаным кіпцем
Глюгасты цень падчэпіць тую кнігу...

С ц я п а н

Ён не пасмее з рук дзядоў, якія
Душу ў сабе ўтрымалі тут...

Я н к а

А хто ён?
Увасабленне даўняга тыранства,
Расправаў дзікіх... Можа, гэта нават —
Вялікі інквізітар Тарквемада.
Дзе толькі пах пражэрлівы агню —
Ён там... Ягоны апраметны цень
Чыніць гатоў і сёння тую ж справу...

Цень глюгаста апускаецца поруч дзядоў, набліжаецца да Скарыны.

Т а р к в е м а д а

Што чуе слых мой?
Зноў свае наводы
Вы з гэтых кніг пускаеце на свет?
Ах, колькі, бачу, засталося тут
Блюзнерцаў без майго благаславення!
Без ачышчэння вогненнага...
Езус!
Прымі душу грахоўную з далоняў

Высокага агню!.. Маліся, схімнік...
Тваю душу яшчэ я уратую
Для неба...
Слуп чашыце і паленне
Складайце у касцёр... Падкіньце смолля!

Янка

Не смейце!.. Знаем ваш агонь... З яго,
Апаленыя, самі толькі выйшлі!

Сцяпан

Агонь ваш служыць люта для распраў!
А не збавення...

Тарквемада

О, дарэмна вы
Мяне і пана Бога гневіце!
Паверце,
Я, вялікі інквізітар,
Не зычыў зла ніводнаму з ерэтыкаў,
Якіх на свой касцёр благаслаўляў.
Я ачышчаў іх душы для нябёс!
Я ратаваў іх кожнага ад пекла,
Ад чорнае смалы ў катлах, ад чортавых
Гарачых вілаў!
Я, вялікі інквізітар,
Меў багалюбны, праведны намер:
Навечна зачыніць старое пекла,
Пакінуць д'яблаў без пасад, без працы...
А душы грэшнікаў на крылцах вогненных
Я адпраўляў дарогай дыму —
У рай!
Так-так, не ў дзверы пекла —
Раю, раю!
Калі ступаў ерэтык на касцёр,
Не ён стагнаў, а ў грэшным целе чэрці

Сквірчэлі і пляваліся агнём!
Засведчу я, вялікі інквізітар:
Я справу аграмадную пачаў,
Калі ў імя святое нашай веры
Я восем тысяч восемсот кастроў
Высока запаліў па ўсёй Еўропе!
З іх ачышчальнага агню паслаў
Я клапатліва кожную душу
Сілком... У рай!
О, Езус!.. Ці ты чуеш
Маю малітву?.. Дай майму агню
Неўтаймавана-яркае пламенне —
І я...

Сцяпан

Ты напладзіў і так нямала
Наследнікаў, вялікі інквізітар!
Майстроў катоўняў лагерных і печаў...
Мо досыць іх для нашае Зямлі?
Ты чуеш, як агонь на ёй шугае?

Тарквемада

Такая воля Бога...
Ці не гэта
Па стрэхах вашых зашугаў той самы
Агонь,
Украдзены калісьці Праметэем!
Тут не мая віна... Па волі Бога,
Мы толькі той украдзены агонь
Зрабілі ачышчальным на Зямлі!

Воддаль, з абрывістай скалы, цяжка прыўстае, спрабуе разарваць жалезы Праметэй. Голас яго абураны пачуцым.

Цені хіжадзюбых імкліва ляцяць да яго — дзяўбаць печань. Праметэй адпрэчвае іх узмахам ланцуга — ад звенняў па скале прабягаюць бліскавіцы.

## Праметэй

Я людзям перадаў агонь Багоў.
І вы, жахлівай карай пакараўшы,
Мяне тут са спакоем алімпійскім
Усё яшчэ пытаеце:
Навошта?!
Па-вашаму, няхай бы той агонь,
Неразгаданы ў сховішчах прыроды,
Драмаў ці тлеў — у спратах Грамавержца.
Хай людзі поўзалі б кратамі ў цемры,
Абмацвалі б далонямі ў пячорах
Каменні, быццам чэрава цыклопа.
Ірвалі б кіпцямі сырое мяса
І, сіверам працятыя, дрыжэлі б,
Да цела тулячы дзяцей...
Затое
Усё ж яны жылі б, жылі б на свеце!
Хай цёмнай сілай набрыняла б цела,
Хай душы абрасталі б дзікай поўсцю,
Але ж яны не зруйнавалі б
Дом свой!
Не спапялілі б полымем, якое,
Прарваўшыся з каморак патайных,
Пайшло гуляць па свеце!..
О, Багі!
Папрокі вашы раняць мяне больш,
Чым птахі, што дзяўбаюць маю печань...
Няўжо я памыліўся?
Ды без промня,
Што патаемна ўкраў я для людзей,
Кім жа былі б яны?.. Рабамі змроку?
Вы цяжка праклінаеце мяне... А людзі,
Што на сабе пякельны шал агню
З тых дзён нясуць,—
Мяне не праклінаюць!
Складаюць мне і оды, і паэмы!

І з тым агнём гуляюць, нібы дзеці.
І ходзяць ужо самі ў Праметэях!
Збіваюць путы з патайных каморак
І з ланцугоў уладна вызваляюць —
Не, не мяне, прыкутага да скалаў,
А новыя смяротныя стыхіі
Пламення ўзбунтаванага!
Навошта
Я людзям перадаў агонь Багоў?
Каб асвятлялі заравам пажараў
Суседзяў землі?
Службу не такую
Прарочыў я яму, ой, не такую!
Я перадаў свяшчэнны той агонь,
Каб вы спачатку пільна асвяцілі
Саміх сябе!.. Каб азарылі душы,
Што поўняцца, нібы пячоры, змрокам...
Го-о-о!.. Людзі на Зямлі
І пад Зямлёй!
Ратуйце гэтай службаю святла
Сябе ад спапялення!

Водгулле гэтых слоў цяжка коціцца па апраметнай, канае... Янка ўсхопліваецца і з мальбой хапае бацьку за руку.

Я н к а

Як паляць мяне вогненныя словы!
Навокал толькі вогненныя вусны...
Ой, тата... Стала мне так страшна тут...
За нашу вёску... Маму!
Як занесці
Мне ў нашае Курганне тыя словы,
Што я пачуў тут?..
Як туды вярнуцца?
Хачу я на зямлю, у свет зялёны
Людзей і птушак!

Сцяпан

Не спяшайся, сын:
Цябе чакае там ліхі агонь!

Янка

Але ж мяне чакае там і мама!

Сцяпан

Ты моцна растрывожыў раны, думкі,
А каб туды вярнуцца, ты павінен
Суцішыцца, аддацца ўладзе сну...

Янка

Хіба я тут магу заснуць?.. О, чары,
Сыдзіце на мяне!

Сцяпан

Ёсць у дзядоў
Якоесь варыва ад смагі... Бачыш —
Яны пад зёлкамі нібы варожаць,
Каштуюць лыжкай...

Янка

А чаму так нема,
Прыўстаўшы, у агонь яны глядзяць?

Сцяпан

О, мова языкоў агню!.. У іх
Таемнасць неспазнанага...
Дзяды
Умеюць пазнаваць у іх трымценні
Моц і уладу полымя таго,
Што на Зямлі бушуе...
Што ж то будзе?
Яна ўсё больш займіста і нястрымна
Шугае ў свеце, дзе жывуць іх дзеці!

Яны жылі заўсёды для нашчадкаў —
Так, як і мы...
Рай — не для іх быў!
Продкі разумелі...
І снілі рай той толькі для дзяцей!

Я н к а

А мы, іх дзеці, сёння з тога раю
Хаваемся у пекла?
Го-о, дзяды!
А можа, вы зусім не тое снілі?
Не гэтак снілі?

С ц я п а н

Сынку, што вярзеш?
Іх промень веры чысты!.. Над чалом
Ён у сумленных самых — ззяў бы німбам!

Я н к а

Але ж чаму расце ліхі агонь?
Як перасмягла сёння ад яго
Усё маё нутро! Ты чуеш, тата,
Як нешта ў іх булькоча ў сагане?
Мне хоць глыток, хоць кроплю!..

С ц я п а н

Пачакай.
Я папрашу ў іх варыва, якое
Цябе апоіць прагай сну...

Сцяпан ідзе да вогнішча. Янка памкнуўся ўслед, але яго перапыняе зманлівы плёскат рачулкі, зусім паблізу.

Я н к а

Што гэта сцішана плюскоча?.. Рэчка?
Дзівак, як не заўважыў я яе!

Удосталь піце, вусны, што сасмяглі
Ад вогненных і дум і слоў!

З пахмурных хваль паказваецца *русалка*. **Выходзіць** на бераг і перапыняе юнака.

Русалка

Не пі!
Вада цячэ тут мёртвая... А ты —
Жывы яшчэ!..
Ты жыць павінен, Янка!

Янка

Такі знаёмы твар!..
Ты — не русалка...
Ах, божа, гэта — Ганя, мая Ганя!
Адкуль жа ты ўзялася у вадзе?

Русалка-Ганя

Плыву я з нашай студні хутарской
Услед за мамай...

Янка

Плынь — з той вашай студні —
Нясе цябе у воды мёртвыя?
Не можа быць!
Які жахлівы дзень!
Русалкі цела белае ў прастрэлах...
У сініх неастуджаных падцёках...
Крывавы ўсплёск вады у студні...
Ганя!

Русалка-Ганя

Прабач... Бывай!
Мяне той кліча бераг...

Янка

Чакай, яшчэ я вынесу цябе
З-пад гэтага Курганя — да жыцця!

Каханая, мы вернемся з табой
У свет зялёны!

Русалка-Ганя

Не... Але ад слоў,
Ад вобліку твайго — нібыта вецер
Зямны падзьмуў і свежа захістаў
Мае распушчаныя дзве касы
Па хвалях...
Ты ідзі, вяртайся ў свет
Зялёны — той, куды нам перайшлі
Шляхі кахання першага — агонь
І хваля мёртвая...

Знікае ў рэчцы. Хвалі зноў робяцца свінцова-пахмурнымі, з вогненнай луской...
З'яўляецца Сцяпан з глінянай конаўкай.

Сцяпан

Тут варыва апойнае... Глыні —
І сон цяжкі скуе твае павекі...

Янка
*(прагна п'е)*

Апаражніў да дна... Цяпер хутчэй —
У забыццё!.. Магу я толькі ў сне
Пераступіць парог цяжкі — туды,
У свет ваколіц родных!..
Але што там?!
Не я наверх іду ў сваё сяло,
А быццам бы яно, маё Курганне,
Спускаецца у водбліску пажару
Уніз... З галошаннем жанок, дзяцей...
З апаленымі тварамі, рукамі...
Няўжо я гэта сню?!
Няўжо ад зелля
Таго, апойнага, нахлынуў цяжка

Такі пачварны сон?.. Ледзь пазнаю
Дзядоў і цётак... Хлапчукоў вясковых...
Тахвіля... Дзядзька Стах...
Дзядуля Карп...
Захарка, Петрык... Твары нібы ў прыску.
Што сталася?.. Ад учарнелых рук
Якісьці грук, нібы ад галавешак,
Ідзе па апраметнай... Божа мой!
І толькі вочы ў кожнага гарэць,
Як ветрам раздзьмуханае вуголле...
Але куды вы?.. Ў мёртвую раку?!
У тыя ж хвалі, дзе русалка-Ганя
Вось толькі на той бераг праплыла...
О, сон жахлівы!..
Тата, разбудзі!

Сцяпан

Не, сынку... Ты не спіш.
Твой зрок гарыць,
Зжахаецца і нема заклінае...
Ты, як і я, баішся ў гэты міг
Сярод вяскоўцаў згледзець постаць
Маці!
О, жудасць гэтага чакання...

Янка

Тата...
Яна мяне гукае з нашай хаты!
Яна мяне чакае... Фартухом
Вунь шыбу выцірае... Зноў ідзе
Да печы... Чуеш хлеба пах?
Здаецца,
Той хлеб таксама кліча на ратунак!
Дзяды, я вас прашу, наліце мне
Яшчэ густых апойных зёлак!
Дзе ж вы?

Сцяпан

Вунь паўставалі ад сваіх кастроў
І моўчкі, хмурна, у нямым здранцвенні
Глядзяць на мёртвую раку... Такое
Відовішча яны тут бачаць часта.
Вось так, як сёння... Кожны дзень!
Ды цяжка
Штодзень лічыць ім вогненныя вёскі,
Што сходзяць над зямлю...
Яшчэ такога
Не знала апраметная ніколі,
Каб з дня у дзень, за вёскай вёска —
Правальвалася, капула ў прадонне!
Сціралася агнём з зямлі бацькоўскай...
Каб з дня у дзень —
І год... І два... І тры —
Абвугленыя людзі, дрэвы, мары
У зараве плылі з зямлёй айчыннай
На бераг смерці...

Янка

Дык хутчэй — туды!
Пакуль мой край на бераг той не сплыў...
Пакуль жыву я — трэба мне дайсці...
Калі ўпаду — мне трэба дапаўзці
Да рук матулі і да тога хлеба,
Якога свет чакае з нашых сёл!..
Дзяды!

Сцяпан

Ах, сыне мой... Пасля таго
Што ты пабачыў тут, у апраметнай,
Ніякае апойнае карэнне
Цябе, напэўна, ўжо не разбярэ...

## ВОГНЕННАЕ ПЕЧЫВА

Вёска Курганне. У хаце Усціны жанчыны месяць хлеб. Рухі паважна-стрыманыя, гаворка сцішаная — творыцца свяшчэннадзейства...

Паліцца горача печ — па хаце скачуць трывожныя водбліскі.

Над дзяжой Усціна.

Усціна

*(спалохана разгінаецца над дзяжой)*

Ой, дзе ж гэта страшна так грымнула?

Жанчыны

— Недзе недалечка... Бабахнула — шыбы заляскаталі!

— Усё роўна як за Курган-гарой...

Усціна

За Курган-гарой? Божа!.. Нешта мой Янка не вяртаецца з хутара... Каб чаго не сталася там! На душы так трывожна...

Падкладваючы дровы ў печ, Тахвіля заводзіць песню. Да яе далучаюцца тужліва-ціхія галасы.

Песня ўдавы-салдаткі

Каравай пякла, печ паліла...
Па ваду пайшла —
Вядро ўпусціла...
Штось не павядзецца —
Усплыві, вядзерца!
Усплыві са дна незамучонага,
Ой, вярніце, людцы, заручонага,
Падыміце ў лесе з долу чорнага!..
Ці ўсплыве вядзерца?
Кепская прыкмета.
Плача маё сэрца
Ціха, на паўсвету...

Тахвіля
*(падбягае да акна)*
Ой, людзечкі, гляньце... Нешта гарыць!

Жанчыны
— Ці не Казлоў хутар? І страляніна ўсчалася...
— Бабы, наша бяда ідзе...

Усціна
*(кідаецца да акна,*
*рукі ў цесце, у вачах мальба)*
Там — Янка мой! У полымі... Ах, Божа!
Чаму цябе пусціла ў той агонь?!
Крывавы лес... Курган-гара у дыме...
Схавайце сына ў папараць, у яр!
Прыкрыйце раны першаю травой,
Зязюльчыным імхом... Зацерушыце
Іглічай след яго крывавы...
Янка!
Стаіся, пацярпі!.. Калі ты ў неба
Гаручай іскрай не сышоў яшчэ,
То я цябе ўратую... Уратую!

Усціна, як у чадзе, снуе па хаце — шукае нечага па кутках.

Тахвіля
Усціна, чаго ты шукаеш?

Усціна
Дзе ж гэта я паставіла сваю лапату?

Тахвіля
Усцінка, што ты збіраешся рабіць?..

Усціна
Ой, трэба барзджэй хлеб садзіць!

Жанчыны

— Печ яшчэ не напалілася добра... Духу не набрала.
— Трэба дроў падкінуць... Хоць бярэмя!

Усціна

Я ўратую яго... Яшчэ паспею! Мне толькі трэба ўправіцца іх пасадзіць... Пяць хлябоў!

Тахвіля

Пачакай трохі. Я выскачу пад павець — дроў прынясу.

Тахвіля выходзіць. Праз хвіліну, напуджаная, убягае ў хату.

Тахвіля

Ой, бабкі... Каля павеці немец! У мяне як абарвалася штό. Кажу: «Па дровы». А ён аўтаматам махае: «Нахаўз!»

Усціна
*(збянтэжана, з заклёнам)*

Ліхі агонь сюды ужо прыйшоў?
Па нашу вёску?.. Дзетак?..
О, сыдзі,
Пражэрны, ненатольны і звыродны,
На лес сухі, няплодную пустэчу!
На стэкішча вужоўе...
Захлыніся
Вадой гнілой у багне, у макрыне...
Ды адкасніся ад скарынкі хлеба
Благаславеннага...
Жанкі, куды ж вы?

Жанчыны

— Мы вернемся да хлеба...
— Мы толькі на свае хаты глянем!
— Як там дзеткі?

Кабеты гуртам ціснуцца ў дзверы. На падворку іх перапыняе кароткая аўтаматная чарга. Галосячы, жанкі кідаюцца назад...

Тахвіля хістка пераступае парог і валіцца тварам да дзяжы.

Тахвіля

Забілі мяне... Мусіць, забілі... Назусім.

Жанчыны ўздымаюць яе на ўслон пры сцяне. Разрываюць кашулю — заціскаюць рану на грудзях. Белая рука Тахвілі ападае ўніз. Кабеты хрысцяцца...

Усціна адрываецца ад дзяжы — глядзіць неўразумелымі вачыма. Схамянуўшыся, яна дрыготкімі рукамі кладзе з дзяжы цеста на шырокую лапату. Наспех прыгладжвае хлеб мокрымі, з вады, далонямі. Праводзіць зверху крыж і, прыгнуўшыся, нясе бохан у пелюсці печы.

Жанчыны

— Не галасіце, бабы... Мусіць, з гэтай хаты мы ўжо не вырвемся.

— І што яны надумалі?

— Саджаймо лепей хлеб... Святы хлеб яны не крануць!

— Хлеб, а збавіцелько наш, уратуй!.. Пашкадуй дзетак нашых.

— Вой — дым! Сяло падпалілі з таго канца!

— Выганяюць людзей з хатаў...

— Ой, людзечкі... Майго Петрыка з Карпеем вядуць!

— Ах, дзетачкі, куды вас? А вы свету белага яшчэ не бачылі. За што?

— Забірайце і нас разам!

— Цішэй, яшчэ забяруць... Усіх выметуць!

— Гляньце, пад святога Яна зганяюць... У машыну з чорнай будой!

— Нядобрае надумалі... Бачыш, дзеляць... Ах, каб іх нячыстая дзяліла!

— Мужчын, бач, да той буды пазганялі...

— Вой-вой, і маіх да той буды павялі!.. Стасік, Стасік! *(Барабаніць у акно.)*

— Ах, ірады, і дзяцей — у тую чорную буду!.. Пусціце мяне, пусціце!
— Куды ты? Застрэляць!

Некалькі мацярок выскакваюць у сенцы. Але насустрач ім у хату ідуць карнікі — гоняць кабет назад. У дзверы увальваецца Т у р а ц — галава ў бінтах.
Усціна асцярожна і дрыготка кладзе цеста на лапату і напаўголаса размаўляе з хлебам. Яе таемны шэпт прыпыняе карнікаў.

У с ц і н а

Прачысты хлеб наш...
Чуеш, колькі гора,
І новых слёз, і горкіх галашэнняў
Спадае на цябе, каб ахрысціць
Твой дзень народзін?..
О, благаславенны!
Ты бачыш, колькі для цябе агню
З усіх бакоў спяшаюцца раздзьмуць,
Каб стаў хутчэй ты вуглем скамянелым?
Збавіцелько,
Няўжо дапусціш ты,
Каб сёння наша роднае сяло
Для ўсіх нас сталася
Пякельным домам?
Няўжо цябе спазнюся пасадзіць —
І ты нас не ўратуеш?

Т у р а ц

Ух ты... А яна, як ні ў чым не бывала, хлеб садзіць!.. Для каго? Жвір вас бяры... Ды яшчэ нейкія літанні выгалошвае!.. Кхэ-кхэ... А печ добра напаліла? Не?.. То мы напалім. *(Застрашліва падступае да Усціны.)* Дзе сваё ваўчо схавала? Га? Літаннямі не адмолішся... Сюды, у логвішча цягне крывавы след! *(Заглядае на печ, у цёмны падпечак.)* Шкуру гаду спушчу!

Расступіся, бабы... Гэй! *(Ходзіць разбушавана па кутках.)* Не пакажаце, дзе ўтаілі,— усіх з дымам! *(Раптам уздрыгвае.)* Чый гэта я чую голас? Я так і знаў: ён тут!

У расчыненых дзвярах з'яўляецца страшэнна змардаваная постаць Я н к і — адразу і не ўцяміш: наяве ці гэта прывід? Усціна кідаецца насустрач — засланіць.

У с ц і н а

Ах, Янaчка!.. Ратуйся, цябе схопяць!

Я н к а

Не бойся, мама!
Я для здрадных воч
Стаў сёння невідучы... Як і тата.
Я ад яго іду... Я ў дзядоў
Схаваны быў надзейна пад Курганнем...
Ды больш не мог я там... Матуля!
Я бачыў сам там: з чорнае буды
У мёртвую раку чаргой бясконцай
Там сходзяць нашы людзі...
Хаты... Дрэвы...
Я толькі аднаго хацеў: пабачыць
Цябе яшчэ не спаленай, жывой...
Як добра, што застаў!
Дазволь, я моўчкі
Уткнуся галавой у твой прыпол
І выплачу усё, усё, усё,
Што там пабачыў... Прагне маё сэрца
З табой у роднай хаце —
Хлеб садзіць!
Я на яго вялікую надзею
Ашчаджваю у сэрцы:
Ён — з Зямлі!
Так, ён з цябе паходзіць, Зямля-маці!
І толькі ён, матуля,
Сын твой, Бог,

Азорыць промнем розум чалавечы
І перапыніць хіжы той агонь,
Што сёння перакінуцца ўжо прагне
Ад вёскі нашай вогненнай —
Да вогненнага горада,
Ад вогненнага горада —
Да вогненнага свету...

Турац і карнікі са страхам адступаюцца ў сенцы, за дзверы. На падворку — крык і галашэнне жанчын. Гэта заганяюць у хату астатніх кабет вёскі.

Усціна

Сынок...
Няўжо ты мне прымроіўся?
І знік!.. Сама я ў хаце бачыла
Твой спалатнелы твар... І голас чула!
І знік, растаў, нібы ў тумане...
Божа!
*(Кідаецца да дзяжы.)*
Апошні бохан... Пасаджу хутчэй!
Але адкуль у хаце
столькі дыму?..

## ЭПІЛОГ

Крывава-попельны світанак. У чорных і пустых печах блудзяць вусцішныя адгалосы-зыкі...
Перад нематлівай цішынёй папялішч апускаецца стары Каляда. Цяжка аглядае груды вуголля. Асцярожна, з цікаўнасцю кіруе да печы, зачыненай чорнай засланкай...
Здымае засланку з прыпека. Печ зеўрае прадоннем...
Перахрысціўшы пелюсць, Каляда падаецца ўвесь туды, у прадонне. Пачынае выцягваць з печы — адзін за адным — пяць учарнелых, нібы вугаль, боханаў хлеба...

Я н к а, вогненны прывід паэта

Шукаю заклінання ад распаду
Зямлі, што родзіць гэты хлеб бацькоў.
Я поўз на пах яго — ўставаў і падаў.
А напярэймы мне —
агонь і кроў.

Шукаю заклінання ад распаду
Блакіту неба, прозелені траў,
Ігліцы сіне-церпкай ля прысадаў —
Да іх я ў трызненні прыпадаў.

Шукаю заклінання ад распаду
Таго, чым я вучыўся даражыць:
Удоўяй песні, святасці абраду,
Вялікай веры —
беды перажыць!

Шукаю заклінання ад распаду
Жываначальных тканак вечных слоў:
Праўдзівасці, сумленнасці, спагады —
Як цяжка чэрпаць іх з зямных аснов!

Шукаю заклінання ад распаду
З-пад каранёў вады — яшчэ жывой!
І мовы роднай,
без якое праўда
Была б не ўсёю праўдаю, хлуснёй!

Шукаю заклінання ад распаду
Той чысціні, якой так праглі жыць,
Абы вайну прыкончыць!.. Толькі ладу
Няшмат у свеце —
свет бядой вірыць.

Шукаю заклінання ад распаду
Тых сцежак, марай выслапых, шляхоў,

Якімі з попелу бацькоўскай хаты
Пайшлі па свеце
тыя пяць хлябоў!

У гэты час некалькі жыхароў з дзецьмі з суседніх, яшчэ не выбітых вёсак, падыходзяць да папялішча — да той печы, з якой Каляда дастае ўчарнелы хлеб. Хлеб з рук Каляды — бохан за боханам — пераходзіць да людзей, у дзіцячыя рукі.

Пяць хлябоў цяжка выпраўляюцца далей — у пяць дарог, як бы да пяці кантынентаў свету.

Шукаю заклінання ад распаду
Надзей на той пякельны, мудры хлеб.
Ён — пасланец жыцця,
Ён радзіць раду
З усімі, хто ў шаленстве не аслеп.

Шукаю заклінання ад распаду
Той памяці, што нам гукае ўслед.
О, як закляць
мне ўсю няпраўду, здраду —
Інакш ці збавіш ад распаду
Свет?

*1979*



# КРЭВА

**Драматычная паэма**

Пачнем дакапывацца самі
Разгадкі нашых крыўд і бед.
*Янка Купала. Магіла льва*

## ПРАДСПЕЎ, АБО СЛАВА ДА КУПАЛЫ

У свой прадспеў я клічу не Уранію,
Не апякунку даўніх эпапей,
А непадлеглы дух твой, што глыбей
Наказваў нам капаць сваё курганне.

Як цяжка там зляжаліся ў пластах
Вуголлі хат, нявыйграныя бітвы,
Адвечны страх, і вера, і малітвы —
Няўжо усё гэта сёння — толькі прах?

Сплывае ў даль, што маем... А былое
Нібыта набліжаецца да нас.
Пылінкі праху раздзьмувае час —
І з мёртвага успыхвае жывое.

Жывым, нам трэба пазнаваць сябе,
Ісці глыбей да цяжкае разгадкі:
Хто мы былі?
І хто нашы нашчадкі?
Які наш лёс далейшы ў барацьбе?

Мы на сваёй зямлі... Заўсёды — дома!
Нязрушна, так... Хоць ёсць, вядома, рух.
Даўно нас вучыць твой, Купала, дух
Ісці праз слова — у самасвядомасць!

З-пад старадаўніх зломаў, з-пад руін
Бяру абломак цэглы, нібы крэда.
І апаляе вусны слова «Крэва»
Гарачым згусткам крэўнасці, крыві.

**Частка першая**

## ПЯТАЯ НОЧ КЕЙСТУТА

Крэва, 1382 г. Ноч наплывае на кутнюю вежу Крэўскага замка. Стары Кейстут трывожна і зняможана глядзіць праз байніцу.

Кейстут

Канае за мурамі пяты дзень.
Касы прамень праз праймішча байніцы
Зламаўся на каменні, нібы мой
Вялікакняскі посах...

Крэўскі замак!
Ты ў лёхах тоіш крокі Гедыміна,
А ў вежах —
Грозны, ратны дух Альгерда.
Ты — іх правіца збройная, кулак,
Што адбіваў націсце крыжакоў.
Чаму ж ты сёння
Стаўся мне вязніцай?!
Я — грэшнік перад небам,
Ды мой посах
Сцярог у землях княства правасуддзе.
Чаму ж ён сёння ў нас слугуе здрадзе?!
Дзе голы меч мой, што на крыжакоў
Наводзіў жах па ўсёй мяжы заходняй?
Меч — у руках Ягайлы, зганьбаваны
Таемнай змовай з крыжакамі...
Над галавой маёй занесены!..
Стары арол, як мог ты пільны зрок
Так прытупіць, каб у сіло патрапіць?
Як мог ты, гневам падкаваны конь,
Да шыі дапусціць ваўчыну пашчу?

Няўжо мой дух парушыцца ў цямніцы?
Хіснецца, быццам мур перад таранам?
Ноч прадчуванняў змрочных...
Не!.. Мне трэба
Застацца абароннаю рукою
Усёй Літвы Вялікай... Трэба мне
Заходнюю мяжу, як сваё вока,
Ахоўваць ад законнікаў крыжацкіх.
А хто асцеражэ мяжу з усходу —
Вось так, як ты, Альгердзе мой,
Ахоўваў?
Як землям Белай, Чорнай Русі,
Жмудзі —
Ад Полацка да самае Гародні —

У моцы атрымацца?.. Каб у свет
Ісці ім не прыйшлося жабракамі,
Туляцца па падсуседзях бяздомна,
Абрабавана?..
Грэшны перад небам,
Я дзеля іх, для памнажэння моцы
Ішоў не раз на горкія ахвяры...
Ноч змрочных прадчуванняў...
Хто там?!. Чую —
Ахвяры тыя сходзяцца чыніць
Мой Судны дзень...
Няўжо у гэтым атачэнні ценяў
Я розум пагублю?..
Гэй, з-за дзвярэй —
Хто сочыць там прытоена за мной?
Ты — можа, кат мой?
Адступіся, здань!

Узнікае пахмурны прывід *Яўнута*, брата Кейстута.

### ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЯЎНУТ

*Яўнут*

Не бойся... Я не кат.
І катам брата
Пры княжанні сваім не быў?
А ты?
Тут гаварыў пра посах правасуддзя?
Успомні, Кейстут, як ты гэты посах,
Што Гедымін мне даў па волі неба,
Акрутна вырваў з рук маіх... Адсёк —
З рукамі разам!
Адабраў — з нагамі!
Была зіма...

Кейстут

Яўнуце, не карай
Мяне ўспамінам тым.

Яўнут

Была зіма... І кудаса шалела.
А я, прастак, пад завірушны спеў
На Замкавай гары спаў ціхамірна.
Збудзіў гвалтоўны крык і звон сякер,
Што браму высякалі... Са сцяны,
Як варанне, злятали твае воі...
Спусціўшыся з абломкаў па драбіне,
Я ў кажушку адным, па снезе, босы,
З гары уцёк у лес... Мяне яліна
Схавала пад зялёнае крысо.
І стала цёпла мне... І сніў я сон:
Ішло на адмарожаных нагах
Братазабойства...

Кейстут

Грэшны перад небам,
Я ўсё ж святы перад сваёй зямлёй.

Яўнут

Апраўдваеш ты змову?

Кейстут

Неабходнасць.

Яўнут

Тады чаму ты з болем гаварыў
Цяпер аб чорнай змове з крыжакамі?

Кейстут

Праспаць няцяжка княства... Ды цяжэй
Нядрэмным вокам быць сваёй дзяржавы.

Я ў н у т

Хіба не зычыў я сваёй зямлі дабра?

К е й с т у т

Яе б ты не ўсцярог... Не мы,
Дык разбудзілі б сон твой крыжакі...

Я ў н у т

Ты ўсё гатовы імем асвяціць
Сваёй дзяржавы... Змову і захоп!
А можа,— гэта маска, пад якой
Хаваюцца і сквапнасць, і зламыснасць?

К е й с т у т

Пяруне ясны!!
Бачыш, не сабе
Я падгарнуў здабытую уладу.
Вялікакняскіх строяў не надзеў,
А меч аголены, і посах княскі,
І стол Літвы Вялікай — усю зверхнасць
Аддаў я брату нашаму Альгерду.

Я ў н у т

Дзялілі вы і ўладу між сабой,
Заручаныя клятваю і змовай.
Дзялілі разам замкі,
Спрат і скарб,
Усё багацце земляў зваяваных...

К е й с т у т

Але дзялілі разам мы і гнеў,
І цяжкія ахвяры, курганы,
Якімі густа на зямлі сваёй
Аплочвалі мы волю і яднанне.
Была вышэйшым скарбам нашым — згода!
І памнажэнне моцы...

Я ў н у т

Іх не стане!

К е й с т у т

Чаму?

Я ў н у т

Хіба трывалым можа быць
Яднанне па прымусе?!. Вабіць вас
Хутчэй валоданне,
А не яднанне...

Прывід Яўнута адступаецца, знікае.

К е й с т у т

Балючы мне, Яўнуце, твой прысуд...
Цяпер, калі нязгода урастае
Глыбока ў дом наш,
Ах, як не стае,
Альгердзе, браце мой, рукі нязднадаай!
Скажы, хіба не мы запавядалі
Сваім сынам — супольна справаваць?
Каб так — як мы з табою справавалі!
Ды дзе той згодзе ўзяцца ў княстве, дзе?
Калі свае шалеюць ад замахаў
Братазабойчых!..
Як нам заручыць
Ягайлу з Вітаўтам адзінай справай?
Альгердзе, бачыш: сын твой заручыў
Мяне і Вітаўта з глухім скляпеннем...
Мой сыне, дзе ты?.. У якой вязніцы?
У лёхах Вільні?.. Ці ўжо тут, у Крэве,
У вежы кутняй гэтак, як і я,
Вядзеш з нямым каменнем паядынак?
За свой давер пароўну атрымалі
З табою, сыне...
Дзе ж ты, адгукніся!

Стукае кулакамі ў сцяну... Недзе за мурамі — тарахценне і гулкі цокат капытоў. Кейстут крычыць у змрок.

Вітаўт!.. Вітаўт!
Усё... Кагосьці праглынула брама.
Як і мяне...
Мой сын, няўжо іх змова
Цябе сюды у ланцугах прымчала
Праз гулкі чорны мост, які назад
Ці перакінецца ўжо нам пад ногі?
Няхай мяшок каменны аднаго
Задушыць тут...
Навошта дзве ахвяры?!

Адчайна грукае ў глухія дубовыя дзверы... Хістка пляцецца да ложка. Дзверы прыадчыняюцца — крадком уваходзяць служкі Л ы с і ц а і К у ч у к Ж ы б я н д з я і, першы трымае перад сабой падушку, другі — прыхаваны мех пад крысом. Не адважваюцца — штурхаюць адзін аднаго.

— Ц-сс... Кучук, пачынай ты!
— Не, Лысіца... Першы ты! Я за табой...
— У-хх... Дых займае. Лацвей табе — на падушку!
— Ах, лісіная твая душа! Мы як умовіліся? Паўтары!
— Вялебны княжа... Во — новая падушка вам!.. Не, не магу.
— Стой, ты куды? У кут падаўся?
— Сам пачынай... Адразу яго на пасцель — брык!.. А я тады...

Кучук і Лысіца зноў крадуцца ўслед за князем. Кейстут зняможана апускаецца на ложак. Нерухома сядзіць, абхапіўшы далонямі твар.

— Зручны момант!.. Накрывай!
— Не магу... Руку не ўзняць, во — у локці... Звіх!
— У-хх... Лісінае тваё мяса! Давай сюды падушку...

Кейстут

*(насцярожваецца, прыўстае з пасцелі)*

Я, пэўна, тут апошні розум свой
Згублю... Якіясь шэпты, галасы
Вярзуцца майму слыху...
Што за ноч?!
Ноч змрочных прадчуванняў!..
Хто тут?.. Хто?!

Кучук і Лысіца адступаюцца ў кут. Кейстут, нібы атрасаючы знямогу, рэзка ўстае — ідзе да байніцы.

— Эх, падла лісінае... Упусціў! Такі момант!.. Бяры сваю падушку. А я гэта дастану. *(Бярэцца за прыхаваны мех.)*
— Цяпер не руш!.. Трэба перачакаць. Вяртайся ў кут, назад.
— У кут?! Ягайла з кашталянам Прокшам пакажуць нам кут! Саміх — у жалезы, на гноішча... Пад кола! А што, па лысіне пагладзяць? Хадзі за мной... Напагатове будзь! Чуеш?

Кучук дастае прыхаваны мех, крадзецца да князя. Спатыкаецца пры сцяне на посуд з вадой... Кейстут раптам адварочваецца ад байніцы. Ідзе насустрач.

Кейстут

Ну што за прывіды цяпнюць тут?
Э-гей!.. Ты — хто?!

Лысіца

*(выбягае з падушкай са змроку кута)*

Гэта мы, вяльможны княжа... Пасцельнічныя. Прыйшлі панач пасцель вам пераслаць. Во — і падушка новая, пуховая... На ёй, паверце, будзеце спаць без просыпу!

Кучук

У-гу... Без просыпу... Раніцай не дабудзіцца будзе.

Кейстут

Пасцельнічныя?.. *(У роздуме.)* Так-так. Што гэта я вам хацеў сказаць? *(Лысіцы.)* Кладзі падушку сюды, на ложак. Ды сам садзіся. А ты... *(Кучуку.)* Што ў цябе ў руках?

Кучук

Гэта я падлогу князю... Памыць трэба. *(Выцірае мяшком разлітую на падлозе ваду.)*

Кейстут

Раскажу я вам адну прыгоду са свайго жыцця. Хадзеце сюды... Ды бліжэй. Чаго паслупянелі?

Лысіца штурхае нехлямяжага Кучука, кладзе падушку на ложак, паслужліва здзьмухвае парушынкі з пасцелі. Садзіцца каля Кейстута, Кучук — з другога боку.

## ПАЛЯЎНІЧАЯ БЫЛІЦА КЕЙСТУТА

Ловы звярыныя!.. Тою быліцай
Дваццаць гадоў па-над Нёманам пушча
Сны мае ўсе запалоньвае...
Ловы!
Хто не шануе іх за гаючасць,
За гартаванне трываласці ратнай!
Праўда, не ўсе яны мне даспадобы.
Не паважаю засад і загонаў,
Схованаў, з якіх смаляць храбра з рушніцы,
Стрэлаў, напоеных трункам атрутным...
Звера люблю сустракаць, як ратнік,
Голас падаць, папярэдзіць: хавайся!
Не?.. Дык выходзь!
Будзем мерыцца спрытам.
Зубр не гуляе ў хаванкі з мыслівым.

Сам ён — і баяр, і рыцар пушчанскі!
Выйшаў, учуўшы маю дружыну,
На паядынак смяротны... Рыканнем
Ён чараду папярэдзіў — і ў бойку.
Аж да змяркання па багнішчах, выспах
Верхнікаў ён і матляў і калечыў,
Дзідамі ўтыканы, разбушаваны,
Ён і за мною шыбаў, як маланка,—
Ледзь ад яго між камлёў я звіваўся.
Дзіду маю ён лабацінай струшчыў
І вокамгненна каня растрыбушыў.
Добра, што выварат сховішча даў мне...
Тут я апомніўся, з мечам злаўчыўся,
Каб лабачу саўгануць пад лапатку,—
Чую: загрукалі раптам з засады
Стрэлы, агністыя стрэлы!
Ды хто там?!
Часта бывае: палюеш на звера,
А за табой хтось таксама палюе!
Не на пабоішчы ў звоне булатным —
Трапіў я ў пашчу лаўцу-крыжаносцу
Так безразважна!.. Да сораму крыўдна!
Горка мне чуць было ў лёхах чужацкіх,
Як цэлы тыдзень па замках, харомах
Радасць тэўтонца ў званіцы званіла...

Тройчы спазнаў я палон чужацкі.
Што ж на Літву мяне тройчы вяртала?
Золата?.. Выкуп?.. Выжлы са псярні?
Слынныя сокалі з княскай сакольні?
Не...
Я малюся тут простаму Альфу!
Змалку ён памятаў мову ліцвінаў,
Хрышчаны ў новую веру, палонны
Сэрцам лавіў зыкі матчынай песні
У гаркамысных маіх напевах...

Альфа тэўтонцы знарок падсылалі,
Каб да душы маёй лепш падступіцца
І спакваля уцягнуць мяне ў здраду.
Толькі у змучаным сэрцы хлапчыны
Раптам, як той першацвет на світанку,
Край Наднямоння пяшчотна праснуўся,
Тая любоў да Літвы, што таемна
Мне з яго рук падала у скляпенне
Нож, гартаваную дзіду, як джала.
Доўга я дзёўбаў цагліны, якімі
Заладавана акно было ў сценах
Марыенбурга...
Цёмнаю ноччу
Пара гарачых коней са стайні
Містра самога — чакала ў двары нас!
Рыцарскі ўбор ды плашчы з крыжамі.
Мову пачуўшы нямецкую, стража
Браму, як рыцарам, нам расчыніла...
Я сваю ўдзячнасць тады на паперы
Выклаў, паслаўшы ліст камандору —
Коней вярнуў я яму з паўдарогі...
Слаўна мы з Альфам пагасцявалі
У Януша, зяця майго, на Мазоўшы!
Тройчы спазнаў я палон чужацкі.
Ды ўпершыню на Радзіме — ў палоне!
Можа, ўсё гэта — працяг палявання?
З ямін чужацкіх шчасліва выходзіў.
А са сваёй ці пашчасціць выйсці?
Там выручалі ліцвіны, жмудзіны,
Мужнасць, адвага іх сакаліная,
Добрая воля...
Што ж вы маўчыце?
Долу галовы цішком паспускалі?
Ці не браты вы таго ліцвіна,
Што быў ахрышчаны гвалтам на Альфа
Там, у крыжацкім палоне?..

Вы ўзважце!
Не, я не подкупам зманьваю хіжа —
Я ў вашых душах сябе шукаю!
Даўпюю мару аб еднасці брацкай!
Можа, пачуеце вестку пра Вітаўта?
Мне перадайце!
Спрыяйце, ратуйце!..
Сцяць з дрэва роду яго верхавіну —
Гэта пад сілу братазабойству!
Можна ўсю крэўнасць во так перанішчыць...
Можна ліхую няволю наклікаць!
Так што нашчадкам — дзецям і ўнукам
Аж па калепа трыццатае хопіць...

У дзвярах паказваецца каштальян Прокша — яго твар спачатку здзіўлены, потым узлаваны. Жыбяндзяі спалохана ўскокваюць, адступаюцца вінавата за дзверы. Міма іх каштальян прапускае жанчыну ў чорнай сукні.

Каштальян

Да вас, княжа, ваша мужатая... Заходзьце, вяльможная княгіня.

**КНЯГІНЯ БІРУТА**

Біру та
*(кідаецца на грудзі мужа)*

Я так шукала вас па ўсіх скляпеннях —
Цябе і Вітаўта!
Мне падказалі:
Рыхтуюць люта вам расправу ў Крэве!
А Вітаўт дзе?.. Хіба не ў замку гэтым?
Ах, сыне мой, няўжо цябе ад маці
Там утаілі — ў віленскай вязніцы?

Навошта ў сэрцах жорсткіх я купляла
Падман?..
Я пранікала ў лёхі замкаў,
Мне адчыняла золата ўсе дзверы.
Сляза мая гукала... Ды на кліч
Знямеў і камень, і людскія душы.
Ступіла ўчора матчынае гора
І на парог Ягайлы...
Я маліла...

Кейстут

Не трэба слёз, Бірута!.. Паніжэння
Не знаў спакон наш род высакагорды!

Бірута

Твой горды дух —
Цябе ўздымаў на волі.
Мяне ж ён часта-густа прыніжаў,
Рабіў сваёй нявольніцай...

Кейстут

Бірута!

Бірута

Так-так, нявольніцай!..
Нашто мяне
Са Жмудзі ў Трокі звёз, як паланянку?
Паганскую багіню і рабыню?
Нашто красу, што чыстай быць хацела,
Пашлюбіў ты сваёй гвалтоўнай воляй?
Нашто зарок парушыў вайдэлоткі?
Каб потым нада мной на ўсё жыццё
Узвесці ўладна сцены свайго духу?
Каб потым год і два не заглядаць
Мне ў сэрца — у святліцу мар, чакання?
Каб сёння з-за усобнай калатні

З маёй святліцы
Учыніць цямніцу?!

Кейстут

Апамятайся, родная... Няўжо
Прыйшла і ты мяне судзіць —
Вось так, як прывіды мне чыняць суд
Нелітасціва — пятую ўжо ноч!

Біруга

Я не суджу. Я і цяпер прашу.
Прашу твой горды дух, каб за мурамі
Не страціў мудрай асцярогі ён,
Не ўпаў у безгалоўе...

Кейстут

Памаўчы.
Цябе намовіў хтось зламысна...

Біруга

Вітаўт!
І ты!.. Ваш горкі лёс мяне намовіў!
Казаў Ягайла: гнеў ён свой суніме,
Калі мы ўсе пяройдзем у Гародню,
Каб толькі там гняздзіцца...
Хіба мала
Для нашых рук там працы?
Колькі ніваў
І пушчаў там са слыннаю дзічынай!
Глыбіняў рыбных і бароў мядзвяных!

Кейстут

Табе зманіў Ягайла...
Дух мой горды —
Ён ведае — не можа паступіцца!

Бірута

Апомніся!

Кейстут

Сваё мне трэба здзейсніць.
Калі не мне — то Вітаўту.
Паслухай.
Мінулай ноччу бачыў я знаменне.
Зайшла у сон мой праз байніцу поўня.
А на той поўні —
На вілах брат брата
Трымае, покуль свет стаіць...
Няпраўда!
Свяціла тое чыстае, як вока!
Яно мяне прасіла — больш не пляміць
Адбіткам сваіх звадаў яго цела.
Прасіла напачатку рупна сцерці
Той плямісты адбітак з нашых душаў.
І прадракала час:
Не землях нашых
Яшчэ прыйдзе і ўладна запануе
Над звадамі нялюдскімі
Дух згоды!

Бірута

Хвала знаменню з неба!..
Ды пакуль
На землях нашых спраўдзіцца яно,
Паспее вас Ягайла ўздзець на вілы —
Цябе і сына... Трэба ж мне хутчэй —
Назад, у Вільню!
Мала я маліла
І заклінала модламі святымі
Цябе, Пяруне, ясны, ўсемагутны,
На жэглішчы свяшчэнным перад замкам,
Дзе, з крэменю часаны, ты чакаеш
Ахвяр маіх балючых...

Мала я
Слязамі абмывала цэглу, камень,
Вымольваючы імі паратунак
Табе і сыну...
О, Багі, ратуйце
Ад вечнай той братазабойчай згубы
Наш дом... Зямлю!
Няўжо вас не крануць
Малітвы і закляцці вайдэлоткі?
Багі зямлі і неба, памажыце
Нам спраўдзіць тое вешчае знамение!

Кейстут

Не адыходзь, Бірута!.. О, як цяжка
У лёхах тут чакаць зару над Крэвам!..

Бірута ідзе да дзвярэй,
а потым, схамянуўшыся, вяртаецца.

Бірута

Ты сцеражыся ноччу аднаго...

Кейстут

Каго?!

Бірута

Вайдылы!.. З шыбеніцы ён
Падаўся на той свет... Ды варажбой
Цяпер назад вярнуўся... Гэта ён
Па Вільні зданню ходзіць і цябе
І Вітаўта шукае... Гэта ён,
Казаў Ягайла, цягне на наш дом
Уз'юшаную помсту...

Бірута выходзіць. У дзвярах з'яўляецца стражнік з ліхтаром у руках — за яго спіной вырастае прывідны цень.

Стражнік

Княжа, вас хоча бачыць нейкі падазроны чалавек. Ён так ціха абмінуў нашу варту, што я ледзь заўважыў яго цень пры гэтых дзвярах.

Кейстут

Спытайся, хто ён — гэты цень?.. Ну хто?!

Стражнік

Ён кажа, што суддзя... *(Выходзіць.)*

Прывідны цень перастулае парог — заходзіць у **лажніцу.**

**ВАЙДЫЛА**

Кейстут

Сыдзі з вачэй маіх, пачварны цень!
Чаго ты дзіка шчэрышся?

Вайдыла

Ой, княжа!
Не можаце пазнаць мяне?.. Няўжо
Я так змяніўся пасля вісельні?

Кейстут

Прыйшоў і ты судзіць мяне, Вайдыла?

Вайдыла

Прыйшла мая чарга...
Так, я — суддзя!
Апошні і няўмольны, як магіла!

Кейстут

Заўсёды праў на волі уладар,
Ды колькі суддзяў знойдзецца, калі
Яго ўпакуць за краты!

Вайдыла

Кроў ахвяр,
Вялікі княжа, помсціцца...

Кейстут

Чаго ж —
Ты сёння хочаш ад мяне?

Вайдыла

Хачу —
Напомніць толькі прымаўку старую:
Якою мерай мерана, такой...

Кейстут

Такой ты не адмерыш мне!.. Пятлю
Не я віў на цябе...
Літва судзіла!

Вайдыла

Цяпер — мой суд!
Зжахайся, князь вяльможны,
Перад такою ж мерай пакарання!

Кейстут

Суд нада мною чыніць княскі посах —
Не костка чорная!

Вайдыла

Якая пыха!
Вы — рыцар і ў мурах...
Я ж — чорны пекар!

Цаніў калісь высока маё ўмельства
Стары Альгерд...
Я хлебам вас карміў!

Кейстут

Карміў ты і намовамі...

Вайдыла

Мяне
Уверх узносіў досціп мой... Я стаў
Пасцельнічным Альгерда!

Кейстут

Мякка слаў,
Ды мулка спаць было з тваіх наводаў...

Вайдыла

Я стаў падчашым...
Вас на шумных балях
Паіў іскрыста-пеністым віном!

Кейстут

Паіў і злорачэннямі...

Вайдыла

Я стаў
Велікакняскім спраўцам, а яшчэ —
Па волі неба! — родзічам у вас!

Кейстут

О, злы вядзьмарца...

Вайдыла

Думаеце — чары?
Мяне ўзняла прыроджаная ўдатнасць!
Я досціпам сваім прываражыў
Сястру Ягайлы, гожую князёўну

Марыю... Сёння яна тут, у замку!
Яна сама мяне да вас прыслала —
Як помсту!

Кейстут

Цёмны збродзень!.. Як ты мог
Уздумаць прышчапіцца чорнай косткай
Тут, на высокім нашым дрэве роду?!
Ты абняславіў корань Гедыміна!

Вайдыла

На вашым дрэве ўдатнасцю такой
Не ўсе князі, як я, тытулаваны...
Чым вы былі б без хітрасці маёй,
Памыснасці, прадбачлівых наводаў?
Цянётаў розных!
Нездарма ж мяне
Вялікі князь Ягайла пасадзіў
Найпершым радцам!

Кейстут

Здрадлівыя рады
Твае — мне сёння ў горле!.. Ды ў пару
Я выкрыў іх — заспеў на чорнай змове
Цябе з Ягайлам... Соймы вы чынілі
Таемна з містрам Конрадам крыжацкім...
Я сам не верыў весткам!.. Іх прынеслі
Мне з крэпасці крыжацкай мае людзі.
Не можа быць!.. Зламысная намова!
Не верыў Вітаўт мой — патрабаваў
Расплаты лгарству...
Верыць не хацела
Святая памяць перад Гедымінам,
Перад крывёю бацькі, што з рушніцы
Забіты быў пры замку крыжакамі...
Я помню Гедымінаў сцяты шэпт
(Ён стаў на ўсё жыццё мне запаветам!):

«Пільнуйце межы ад крыжа... які
Ідзе з крывавым мечам...»
Вось тады
Я зручны момант выглядзеў — і рушыў!
Я збройнаю рукою ўпаў да Вільні,
Апанаваў я замкі — і знайшоў
Сярод папер Ягайлы здрадны ліст:
Ён вотчынныя землі адбіраў
І аддаваў іх крыжакам — навечна!
Каб толькі адкупіцца ад іх хіжай
Пакванасці... Здабыць сабе зацішак!
Бядой дыхнула ад паперы той
На нашу еднасць...
На цябе, Вайдыла!
Ад кары не ўцячы таму, хто кінуў
Паміж братамі костку той агіды,
Нянавісці і непрыязі...

Вайдыла

Княжа,
З пятлёй вы паспяшаліся... Няўжо
Я мог чыніць наводы без рукі
Ягайлы?
Ці ж не вы перашкаджалі
Трымаць яму вялікакняскі посах?
А зрэшты, я памыснасцю сваёй
Мог слугаваць і вам!

Кейстут

Табе ўжо хопіць
Заплаты і адной за ўсё акруцтва...

Вайдыла

Бярыце ж і сваю заплату, княжа!
Я — ваш суддзя, якому падуладны
Звыродныя ўсе сілы змроку, лёсу...

Я прагну кары вам — такой жа дзікай!
І ўжо нясу у гэтых вострых кіпцях
Да горла вашага... удушша!

За мурам нарастае гулкі цокат капытоў. Цень Вайдылы заходзіцца дзікім смехам, знікае.
Адкаснуўшыся ад прывіднага паслання, Кейстут ідзе да байніцы.

Кейстут

Зноў нехта прыскакаў... Начны ганец?
З якою навіной?.. Замёрла рэха.
Чаму мне раптам холадна так стала?
На добрае не зорыць ноч!
Мой сыне,
Калі мяне па-здрадніцку сатне
Начная вестка, помні: дзе б ні быў —
Што скарб найбольшы свой яшчэ ніхто
З князёў вялікіх нашых не здабыў...
Ён — гэты скарб —
У двух вяшчунных словах!..

Упарта выразае жалезінай нейкія словы на цаглянай сцяне.

Мы замкі навучыліся узводзіць
І бурыць — хопіць на вякі разваліп!
Спавітых болем, таямніцамі
Ваяцкіх спраў... Апырсканых крывёю...
Ды мы не ведаем яшчэ, ўладарцы,
Як нам знайсці падваліны адны,
Як пад адзін надзейны дах падвесці
Удзелы, землі ўсе, што да Літвы
Трывала прырослі пасля тых дзён,
Як заняпаў стары магутны Полацк
І Тураўскае княства... Ды яны
Перадалі і моц, і дух невынішчальны
Наваградку — як князю маладому!
А ён прыняў іх землі — меч і шчыт!
І распачаў вялікі новы гмах

Дзяржаўнасці... Адсюль і узмаглася
І ў свет пайшла Вялікая Літва...
Хоць добра мы не ведаем яшчэ,
Які ж ён будзе, новы гэты дом,
Для нас усіх —
Агульны дом літвінаў —
Беларусінаў і жмудзінаў?..
Дзе
Нам адшукаць трывалую цамянку,
Што ў сцены пойдзе — не ў перагародкі!
Калі ж нам лёсам суджана цяпер
Тут, на Літве Вялікай, разам
У згодзе рупнай жыць і бараніцца,
Каваць мячы і ляды засяваць,
Збіраць да купы княствы ўсе, ўладанні
І мацаваць знутры ўсё Гаспадарства,
То, сыне мой,
Калі яшчэ жывы ты,
Няхай табе Багі ўсе дапамогуць
Глыбока ў сэрца мой наказ пасеяць:
Ты церпяліва, як араты хлеб,
З зямель агульных нашых здабывай
Два словы:
Е д н а с ц ь... б р а т а л ю б с т в а...

З-пад жалезіны крывава пырскаюць, сыплюцца на дол крупінкі цэглы... Ззаду да Кейстута падкрадаюцца Лысіца і Кучук Жыбяндзяі.

Кашталян Прокша стаіць у дзвярах, махае рэзка рукой. Жыбяндзяі навальваюцца на Кейстута. Іх пальцы ўпіваюцца ў яго горла. Цела Кейстута ўсцягваюць на пасцель, накрываюць радзюжкай.

## Частка другая

# МАЛІТВА ВІТАЎТА

## НА ЖЭГЛІШЧЫ

Вільня. Трагічныя падзеі таго ж года адсюль не раз пачыналі свой новы заход.

Да жэглішча каля Святарогу сцякаецца з усіх канцоў места люд. У цэнтры — вялікі стос смалістых бярвенняў чакае агню. Чакае новай ахвяры. Поруч высіцца ідал Перуна, часаны з вялікага крамністага каменя. Воддаль незгасальна палае Вечны Зніч, які дасць свой агонь для падпалу. Жрэц-святар падкладвае ў Зніч дубовыя паленні са святой дубровы — дзень і ноч. Вогненныя сполахі скачуць па тварах шматлікай стражы, па вастрыі баявых сякер, дзідаў, якімі прыходзіцца стрымліваць натоўп.

Галасы

— Во ўтварылі відовішча!.. Не праціснешся бліжэй...
— Каму відовішча, каму вялікі плач!
— Такога і сам Гедымін на сваім кастры тут не бачыў...
— Ён героем на жэглішча лёг. Смерць прыняў ад рукі крыжацкай...
— А гэты — ад рукі крэўніка-братанца... Самай ганебнай рукі!
— О-хо... Як ты будзеш, Кейстуце, глядзець з агню — на ўсіх нас?

Староста места

Дарогу сакольнікам... Ды расступіцеся, мяшчане! Дарогу лоўчым!

Да жэглішча два сакольнікі нясуць на плячах па сокале каўпакамі, два лоўчыя вядуць на шворках па вялізным харце.

Гальшанскі
*(праводзячы вачыма, з уздыхам)*

Адпалявалі вы з вялікім Кейстутам!

Адпалявалі — гэтак, як і мы!

Праз натоўп праціскаецца **дзяўчына** з кошыкам у руках. Упарта шукае некага вачыма. Прыглядаецца да князя Гальшанскага.

Марыля

Я ледзь пазнала вас... Гляджу — мыслівы?
Ці князь Гальшанскі?
Ох, як рада вам!..

Гальшанскі
*(адводзіць Марылю ўбок)*

Ц-с-с... Гародзенская рыцарка?.. Марыля?
Ці не з цябе сарваў я перад боем
Шалом і латы рыцара?.. Сваволле!
Хацела ў кушчу Вітаўта прабрацца...

Марыля
*(перамагаючы няёмкасць)*

А дзе цяпер ён?.. Я ў любыя лёхі
Пралезу — нібы нітачка ў іголку.

Гальшанскі

Цяпер цяжэй... І асцярожней трэба!
Ён у скляпенні — там вунь, за Віллёй...

Марыля

Яго вадой і мурам атачылі?

Гальшанскі

Глухой таемнасцю... А гэта — горш!

Марыля

Ці праўда — у гарачцы ён, хварэе?

Гальшанскі

Не ён хварэе —
Наша Гаспадарства!

Каб не хварэла, хіба пасцінала б
Яно тут столькі праведных галоў
Многаразумных і шаноўных?.. Хіба
Яно б сваіх душыла і тапіла?
Ах, да чаго ты дажыла, Айчына?
Каб крэўнік — крэўніка! Аж гідка.
Як самажэрцы-гадзіны... Чаму ж
Не разгуляцца ў нас тут мечу з крыжам?
З Гародні ты ішла?.. Скрозь папялішчы.
Над Нёманам спустошаныя землі.
Знямелі вёскі Жмудзі, Чорнай Русі...
Так, Чорнай — ад пажарышч і ад гора...
А тут — гульня ў замесе на крыві...

Стараста места

Дарогу вяльможным князям, баярам, радцам, спраўцам вялікага князя Ягайлы!..

Марыля

А дзе Ягайла?.. Можа, я ўпрашу...
Я ў ногі кінуся!

Гальшанскі

Ці ты не бачыш:
Відовішча ім трэба!.. Дым ахвярны
Пускаць у вочы будуць нам!
Айчына —
Нібы над урвішчам якім... А тут —
Пад маскай дабрачыннасці, бязвінна
Ідуць крывапрысяжнасць, славалюбнасць,
Нямоглая бяздзейнасць...
Дзе ты, Вітаўт?!

Князь Гальшанскі і Марыля заўважаюць ля сябе нейкага вухастага чалавека пры зброі і хутчэй ныраюць у грамаду людзей двара Кейстута. Тут галасы самыя ўзбуджаныя, рашучыя.

Галасы

— Выпусціце з цямніцы Вітаўта!
— Няхай сын хоць развітаецца з бацькам...
— Не кідайце ў касцёр меч Кейстута — перадайце яго Вітаўту!
— Толькі Вітаўт асцеражэ землі Гаспадарства ад сквапных суседзяў!
— Адчыніце яго вязніцу! Няўжо і яго задушыць уздумалі?!
— Дзе вы яго схавалі ад людзей?.. У якой цямніцы?

Над узбуджаным гоманам — як выпушчанае ядро з бамбардзіра — раскаціста-гнеўны голас князя Гальшанскага, з з самай гушчы грамады:

— Вітаўт у скляпенні за Віллёй!.. Хадзем — да муроў!

Частка грамады кіруе ў бок Віллі. Але адтуль, дзе жаўцеюць вежы Крывога замка, насустрач шалёна скача верхнік-ганец:

— Вязуць!.. Вязуць!!.

Мора натоўпу пры жэглішчы калыхнулася і, як магутную хвалю, выплюхнула працяглы ўздых. Хтосьці ўскрыкнуў, загаласіў. Распачаўся вялікі плач.

## ЧУЖЫ ГОСЦЬ

Цёмныя лёхі віленскага замка. Князь Вітаўт хістка снуе ад сцяны да сцяны, зняможаны, схуднелы. Спыняецца перад закратаваным акном... З-за муроў далятае несціханы гоман.

Вітаўт

Што сталася там зранку?
Тупат, гоман...

Усё плыве кудысь да Святарогу.
Нібы Вілля кранулася прадвеснем.
Народзе мой, няўжо мая трывога
Нарэшце і табе перадалася?
Жахлівае бяссонне працінае,
Як плесня гэтых лёхаў, маё цела...
Ад воч людскіх, ад крэўнікаў схаваны,
Я тут, відаць, асуджаны на згубу.
Мінулай ноччу, прывідна паўстаўшы,
Бязгучна, нема клікаў мяне бацька!
Ён штосьці мне запавядаў... Ды словы
Прабіцца не маглі праз атачэнне
Пачварных ценяў...
Толькі добра чуў я:
Бліскучы меч, пагроза крыжакоў,
Аголены, зламаны папалам,
Меч Кейстута
Упаў з балючым звонам —
Агнём на зломе пырснулі канцы!
Як мучыць прадчуванне!..
Дзе ты, бацька?
Нас разлучылі, каб лягчэй зламаць.
Мы — як канцы у тым зламаным мечы,
Шпурнутыя у розныя бакі —
У немату задушлівых скляпенняў,
Дзе толькі рэха з-за глухіх муроў
Канае цяжка...
Што за шум натоўпу?
Нібыта там відовішча якое?
Народзе мой, ты ведаеш пра ўсё,
Пра лёс акрутны наш, пра ганьбу, здраду,
Пра змовы і вязніцы... Ды чаму ж
Так часта позніцца тваё збавенне?
З пашанай ты прыходзіш пасля смерці
Да тых ахвяр, ахрышчаных маўчаннем...
Няўжо прыйсці з заступніцтвам сваім

Табе у час — так цяжка?..
О, Пяруне!

Уваходзіць стражнік — прапускае ў вязніцу постаць у чорнай сутане.

Пробашч Зігбер

Няхай вас, князь, не дзівіць мой прыход.
Не першы дзень я ў Вільні малю Бога,
Каб злітаваўся ён над вашым лёсам...

Вітаўт

Хто вас прыслаў сюды?.. Навошта?

Пробашч Зігбер

Княжа,
Хіба у пана Бога мала сцежак
Да міралюбнай справы?.. Ну і ўпёк
Сюды вас брат!.. Нібы у апраметнай.

Вітаўт

Адсюль да апраметнай блізка, так.
Але сюды спусціліся вы ў лёхі,
Відаць, не толькі з ласкі Боскай?

Пробашч Зігбер

Княжа,
Вы можаце не верыць мне... Пасеяў
Даўно насенне злое недавер
Не толькі між дзяржавамі —
Братамі!
Ды я — вялебны сын касцёла, пробашч —
Па волі пана Бога і Закону
Прыехаў у Літву прасіць для вас
Ратунку, літасці і міласэрдзя...

Вітаўт

Ах, дзякую, вялебны... Ды чаму
Закон і Бог ваш гэтак літасціва
Стаў клапаціцца раптам пра мяне?
Чаму вам заадно не папрасіць
Ратунку для старога чалавека,
Страшэнна змардаванага, у лёхах —
Для князя Кейстута?
Чаго замоўклі?

Пробашч Зігбер

Не час пра князя Кейстута... Цяпер
Вас, княжа, ратаваць нам трэба,
Вас!
Настойліва і сёння я звяртаўся
Да мудрасці Ягайлы...

Вітаўт

Ну, а ён?

Пробашч Зігбер

Вялікі князь цяпер высока цэніць
Парады містра Ордэна... Ды толькі
Ёсць і парады іншыя... Нялёгка
Мне несці вам надзею на ратунак!

Вітаўт

Вас непакоіць лёс мой?.. Страшна стала,
Што выправіць хутчэй мяне Ягайла
Да апраметнай?
*(Выбухае смехам.)*
Ну, вядома! Хто ж
Так будзе біць тады па хіжай пашчы
Захопнікаў крыжацкіх, помсціць так,
Іх замкі бурыць, драць з іх лупы,
Як гэта мы не раз рабілі з бацькам!

Пробашч Зігбер
*(ледзь стрымлівае раздражнёнасць)*

Не будзе больш паходаў вашых з бацькам!
Вы малады... І мне шкада, калі
За ім вы хутка пойдзеце услед...

Вітаўт
*(з жахлівай здагадкай)*

Што з Кейстутам?
Няўжо яго не стала?
Вы ведаеце ўсё... Кажыце! Дзе ён?

Пробашч Зігбер

Ён сёння будзе тут... Ля Сватарогу.
Вязуць у Вільню... З Крэва.
Так, мой сыне...
Яго там задушылі...

Вітаўт

О, Пяруне!
За што ты нас гвалтоўна так караеш?
Я прадчуваў злачынства... І не верыў!
Не веру... Бацька мой... Няўжо няма?!
Няма мяжы для жорсткасці сляпой
Братазабойства...
Самавынішчэння!

Хістка ідзе да закратаванага акна.
Узбуджаны гоман за мурамі нарастае.

Як сталася такое?.. Адкажы,
Народзе мой!
Як мог ты дапусціць
Дзікуннае злачынства ў сваім доме?
Аддаў на страту рыцара свайго!
На глум і сорам свой заплюшчыў вочы!..
Няўжо няспелы розумам, сляпы

Яшчэ ты сам у цёмным, непрабудным
Сваім паганстве?

Пробашч Зігбер
*(дакранаецца да пляча князя)*

Сыне... З тваіх вуснаў
Я чую мудрасць багаўгодных слоў!
Так, трэба асвяціць народ хрышчэннем
І вымесці з яго душы дашчэнту
Злых духаў, цемнату паганства...
Дзікунства сарацынаў!
Вось у гэтым
Наш Ордэн і паможа вам... Вы толькі
Нам збройна не пярэчце крыж Хрыстовы
Па Жмудзі, па Аўкштайціі пранесці.

Вітаўт
*(рэзка адварочваецца ад акна)*

Ах, вось вы што!
Вам сніцца наша Жмудзь?
Наднёманскія землі Чорнай Русі?
Вы нават сёння, у гэты дзень жалобы,
Прыйшлі акрутна з прапановай змовы!
Няўжо вам мала змовы той з Ягайлам?
Навошта я?

Пробашч Зігбер

Не адхіляйце, княжа,
Рукі Закона... Так!.. І пана Бога.
Ён вам паможа вырвацца з цямніцы.
Падумайце пра лёс свой... І пра гэты
Жалобны дзень...
Вы ведаеце, княжа,
Куды сягоння валам валіць люд?
На жэглішча... І будуць там усе,
Апроч, вядома, вас...

Вітаўт доўга глядзіць невідучым зрокам праз краты. З-за муру далятаюць галасы: «Выпусціце Вітаўта!» Ён слухае — і як не чуе.

Вітаўт

Пяруне мой!
Як ты дазволіў гэта спапяленне?
Тут не абрад святы, а святакрадства!
Яго ўчыніў Ягайла... Не, не ён.
А хітрасць яго хіжая і боязь.
Гульня ў нявіннасць... Тое ж крывадушша:
Спачатку трэба задушыць, а потым...
А потым — і абрад чыніць! Маліцца...
Хвалу узносіць праху —
Ён не страшны!
Ах, маргаслепы.

Пробашч Зігбер

Княжа, ваша права,
Святое права сына — на расстанне!
У час апошні... З бацькам!
Толькі — слова.
Разумнай згоды знак... І я
Усё зраблю...

Вітаўт

Вялебны, што вам трэба?
Вы хочаце, каб я выратаванне
Ганебна здрадай акупіў?!
Ці чуеш,
Вялікі Кейстуце, як мне тут цяжка?
Жахліва цяжка мне і сіратліва!
Што ж мне ты на агні святым дарадзіш?
Як выбрацца мне з гэтай чорнай ямы?
Ты ўсё даруеш мне... Але не здраду.
Пакіньце мяне, пробашч...

П р о б а ш ч   З і г б е р

А шкада.
Як неразумна выпускаць свой лёс
З уласных рук, з дзясніцы пана Бога!
Падумайце лепш, княжа...

П р о б а ш ч   З і г б е р выходзіць. За кратамі зноў узмацняюцца патрабавальныя галасы: «Выпусціце Вітаўта!», «Чуеш, Вітаўт!.. Прыехаў твой бацька...»

Рукі Вітаўта да крыві ўпіваюцца ў іржавыя краты. У скляпенне ўваходзяць стражнікі. На рукі князю надзяюць ковы — выводзяць.

## У БАЦЬКАВАЙ ЛАЖНІЦЫ

У кутнюю вежу Крэўскага замка, у змрочныя сцены лажніцы, што бачылі смерць Кейстута, к а ш т а л я н   П р о к ш а са с т р а ж н і к а м прыводзяць закутага В і т а ў т а.

В і т а ў т

Прашу раскуць мне рукі!.. Хопіць ганьбы.
Няўжо з-за гэтых сцен магу я збегчы?

К а ш т а л я н

Збегчы?.. Не памятаю, каб з крэўскіх муроў хто ўцякаў... А раскаваць не магу: загадана трымаць у жалезах.

К а ш т а л я н са с т р а ж н і к а м выходзяць. Вітаўт уздымае рукі ў ковах.

В і т а ў т

Пяруне, вусны спапялі, калі
І тут, у цемратворных крэўскіх сценах,
Атлумлены, не тое прамаўляю...
Зняможаны, сціскаюся ад гневу,
Разбіты, адзічэлы, ўсё дзіўлюся,
Не разумею чорнае напасці...

Ніяк не ўцямлю новай чорнай змовы,
Што крута ў вузел вяжацца падвойны...
Чаму дабра мне раптам зычыць ворат?
А крэўны брат хутчэй хацеў бы бачыць
На горле маім кіпці Жыбяндзяяў?
Чаму мяне, ў жалезы закаваўшы,
Ён так паспешна з Вільні звёз, не даўшы
Там развітацца сыну з родным бацькам?
Няўжо спалохаў голас грамады,
Што прагла мяне выбавіць з цямніцы?
А мо крыжацкі пробашч паспрыяў
Пайсці мне па скляпеннях бацькі?..
Не!
Я покуль што — як той у восі гвозд
Пры нашым хісткім коле·Гаспадарства...
Той гвозд яшчэ прыбраць да рук патрэбна!
А можа, хітрадумная Ульяна
Прыспешвае ліхіх ганцоў з лістамі:
Хутчэй хай чыняць і маю загубу!
У двор Ягайлы з мудрасцю вужыцы
Яна пускае дзікія намовы:
Каб мяккацелы сын не захістаўся!
Шчыруе для любімчыка Ягайлы,
Каб стол велікакняскі для яго
Паставіць на крыві...
Надзейней будзе!
Я ведаю свой лёс наканаваны.
Ды вось чаго не ведаю — ні я
І ні праціўнікі мае:
Які ж
Угатаваны тут вось, за мурамі,
З галінай роду Кейстута — і лёс
Супольнасці зямель Літвы Вялікай!
Жамойціі і Белай Русі... Чую —
Як быццам хтось ламае на калена,
Бяздумна, жорстка, слепа, безразважна

З галінай нашай родавай — і ход
Самой гісторыі...

Зняможана прыпадае лбом да цвілой сцяны... Адскоквае.

Пяруне мой!
Чыя рука тут выбіла на цэгле
Два словы:
«Е д н а с ц ь... б р а т а л ю б с т в а...»
Бацька!!!
Твая тут душагубная лажніца!
Дык вось мяне куды?..
Скажыце, сцены,
Вы чулі яго крык, балючы стогн?
Пра што ён гаварыў у міг апошні?
Скажы мне, ложа чорнае, няўжо
Яго вось тут уночы задушыў
Рукамі служак, жывацін прапойных
Ягайла?
Бацька мой, я чую зноў
Пакутніцкі твой апантаны дух!
Жалезамі яго не закуеш
І не задушыш тут, на чорным ложы...
Цябе я бачу ў гэтым запавеце:
Гарыць твой позірк з літар, са сцяны,
І выпрабоўвае... Навошта мне
Два словы гэтыя? Маліцца ім?!
Але ж пакінуў ты яшчэ адзін
Для нас наказ, крывавы, павучальны:
Канец жахлівы жывата свайго!
Прабач, але да слоў тваіх вяшчунных
Ісці так будзе цяжка!.. Ці дайду
Нагамі помсты за цябе!.. Рвучы
Кляшчамі воўча мяса з костак іх!..
На дзідах несучы галовы іх!..
Чаго сурова супішся?.. Даруй!
Ды гневам запяклося ўсё нутро...

## НА СВЯЦЕ ГРАМАБОЮ

З-за муроў замка далятаюць пералівістыя зыкі-перагуды крэўскіх дудароў. Чуецца жартаўлівая песня.

Д з я в о ч ы  г о л а с

Го-ой, каханы гаспадар мой Грамабой,
З гулкай берасцянаю трубой!
Звязі мяне на гулянне
Пад вясёлкавай дугой...

Х о р

Го-ой, го-ой!..
Захмялелі мы з табой!

Д з я в о ч ы  г о л а с

Сініх бліскавіц на гола голле
Не кідай ніколі, мой саколе,
Хай не будзе недароду
Ні у полі, ні ў прыполе!

Х о р

Го-ой, го-ой!
Ці пашлюбімся з табой?

Д з я в о ч ы  г о л а с

Грымні вольна покатам вячыстым,
Хай жа сэрца ўстрапянецца
Маладзенькім лістам...

Х о р

Го-ой, го-ой!..

Песня аддаляецца.
В і т а ў т задумліва глядзіць праз байніцу.

В і т а ў т

Спраўляе Крэва свята Грамабою.

Што Крэву да той нашае бяды?
Да міжусобнай калатні, крыві?
Да посаху — ў чыіх руках ён будзе?
Які ўладарца стане справаваць?
Жыццё — жыццём.
Яму — зялёны ліст!
Людзям — і хлеб, і песня!.. І ці трэба
На гэтым свеце больш?
А нам?.. Ха-ха!
Чаго зямлю мы задзіраем, свет?

Песня з перагудамі дудароў зноў вяртаецца. Вітаўт здзіўлена прыслухоўваецца.

Як за душу бярэ дзявочы голас!
Дзе чуў, пявуння,
Я твой срэбны спеў?
Чаму ў дуды стаў нейкі лад трывожны?

Дзявочы голас

Го-ой, каханы гаспадар мой Грамабой,
Прападу, калі пашлюбімся з табой!
Прыйшлі ў Крэва на гулянне
Мардаванне і разбой!

Хор

Го-ой, го-ой!..
Мардаванне і разбой!

Вітаўт

Іх песня знае ўсё тут, не затоіш!
Ды выпявае штось трывожна рог.
Дзе чуў яго я?
Гэта ж князь Гальшанскі!
Твой рог зубрыны — як мне не пазнаць?
Сатыр, насмешнік пераапрануты,
Любіў ты ў маладосці з грамадой

Вадзіць ля вокан княжацкіх мядзведзя,
Прыбранага у шаты мнагаможных,
У стрэлы смеху...
Помню я твой рог!
Вось так зазыўна тройчы пратрубіў
Ты над Віллёй світальнаю:
«Да зброі!»
Тры дні стаялі нашыя палкі
Супроць палкоў Ягайлы... Не прыняў
Я рады твае... Верыў браталюбству!
Запрошаны у Вільню да Ягайлы,
Я сам ягоны слюб прыняў —
Абы канец быў добры!
Ці я думаў,
Што тоіцца за слюбам, што Ягайла
Мяне і бацьку закуе ў жалезы!
Ну што ты сёння з болем выпяваеш,
Зубрыны рог?
Бяду!.. Перасцярогу!

Уваходзіць стражнік, следам — асцярожна, з прыглядкай Лысіца і Кучук Жыбяндзяі. У іх руках посуд з ежай.

Лысіца

Вяльможны княжа, просім да сняданка...

Кучук

Ага, снедайце... Піце, ешце. У нас будзеце дагледжаны — во як! *(Стаўляе на стол гліняную міску.)*

Вітаўт
*(выбухае ярасцю)*

Прэч, падлажэрцы-псы!
Каб тут — ні духу.
Ад лютасці, ад гневу майго — прэч!

Паўзучае, прадажнае выроддзе...
Прэч з лапамі крывавымі адсюль!
З пакваністымі пашчамі — пакуль я
Іржавым гэтым прэнтам не патрушчыў
Хрыбецін вашых са смярдзючым мясам!
Во-он!!!

Убягае задыханы, з вокрыкам кашталян Прокша.

К а ш т а л я н

Гэта што за мужабойства вы ўздумалі тут учыніць, княжа?.. Ай-ай! Дзякуйце, што я, пачуўшы, не выклікаў сваіх малайцоў з замкавай аховы. Яны вас хутка супакояць...

В і т а ў т

Я найперш расквашу ім паршывыя пустыя чарапы — няхай сюды толькі яшчэ паткнуцца! Жывацiны брудныя... Забойцы!

К а ш т а л я н

Прашу вас, княжа, паводзіць сябе прыстойна... Чаго вы хочаце?

В і т а ў т

Я патрабую імем свайго бацькі...
Так, імем Кейстута Вялікага,
Якога задушылі вы з Ягайлам
На гэтым чорным ложы...
Патрабую —
Не волі для сябе, не выбаўлення
З мяшка каменнага... І не суда
Над вамі, над гадзючнікам падмурным
(Свая ўсяму пара!)...
Я патрабую —
Змяніць прыслугу, гэта гадаўё —
Пасцельнічных з крывавымі рукамі...

Я не магу... Не веру ім!.. Іначай —
Усіх вас тут затопіць гноішча...

Кашталян

Князь, вы яшчэ пагражаеце? Але цяпер вы — у маіх руках!.. Вы хочаце хутчэй туды, на неба, услед за бацькам?

Вітаўт

Святое імя Кейстута не вам
Паганіць вуснамі...
Я патрабую!

Кашталян

Для мяне закон — патрабаванне гаспадара гэтага замка вялікага князя Ягайлы... Але я задаволю вашу просьбу — і зараз жа прышлю новых служак.

Вітаўт

Слугаваць пры мне будуць людзі толькі з майго двара... Чуеце?

Кашталян

Няхай... Але з дазволу Ягайлы. Я перадам вашу просьбу. Каго вы хочаце паклікаць сюды?

Вітаўт

Спраўляе Крэва свята Грамабою.
Я бачыў там, ля гурту дудароў,
Дзвюх родзічак сваіх... Яны, напэўна,
Прыйшлі сюды з Гародні з падаянкай.
Я толькі з іхніх рук прыму сняданак,
І чулую спагаду, і пасцель...
Іх затрымала варта каля брамы.
Але ж у крэўных ёсць святое права...

Стражнік
*(з'яўляецца ў дзвярах, кажа кашталяну)*

На замкавай наспе стража пераняла нейкіх дзвюх дзяўчат. Кажуць, яны крэўныя князя Вітаўта.

Кашталян

Няхай наведаюць свайго князя... Бачыце, я дазваляю. На сваю рызыку!

Кашталян, Жыбяндзяі і стражнік выходзяць.
У дзвярах з'яўляюцца дзве дзяўчыны: адна з кошыкам у руцэ, другая — у вялікай, насунутай да вачэй хусціне.

**ГАРОДЗЕНСКАЯ ПЯВУННЯ**

Вітаўт
*(ідзе насустрач, распазнае)*

Хто завітаў?.. Марыля!
Як прабіўся
Свавольны гэты промень у цямніцу?
І як я не пазнаў між дудароў
Гародзенскай пявунні?..
Хто ж з табою?

Марыля

З наднёманскага замка... Ды вы, княжа,
Як госцяў, не прымайце нас... Прыйшлі
Мы слугаваць...

Вітаўт

Ёсць, пэўна ж, і навіны!
Ну, як над Нёманам стары наш замак?

Марыля

Ах, княжа,
Вы, пэўна, без сняданку?

Як твар зблажэў і выпетраў без сонца!
Парос, нібыта мохам, у цямніцы...
*(Развязвае кош.)*
Тут вам лясы гародзенскія шлюць
Гасцінец — падмацунак у мурах.
Крыху дзічынай шынкі і вяндлінкі...
Любівай паляндвічкі...

Вітаўт

Дзякуй, пушча,
За клопат незабыўны твой... Ды бачу,
Марыля, выкладаеш ты не ўсё!
Дрыготкі голас твой нібы адводзіць
Мяне, як птах, ад нейкае бяды...
Пра Кейстута я зведаў яшчэ ў Вільні...
Была на жэглішчы?.. Расказвай!

Марыля

Княжа,
Што гэта на руцэ у вас — крывавым
Агнём палае?

Вітаўт

Пройдзе... Цвіль муроў
Адкрыла леташнюю рану...

Марыля

Што вы!
Не запускайце... Вось мядзведжы шмалец.
Я прыхапіла трохі ў гладышку...
Памажце рану... Ды паешце самі!
Давайце тлушчам я намажу лусту,
Каб тая цвіль не ўелася у грудзі...

Вітаўт

Плячо загоіць воля. Ці зямля.

Ды во — смыліць!.. Нібыта пакусалі
Усё нутро заюшаныя псы.
І тут ніякі шмалец не паможа...
Душа — у ранах...
Можа, ты што чула —
Пра маці?.. Падкасіла, мусіць, гора...
Што з дзядзькам Відымонтам?
Што з Бутрымам?

Марыля
*(засланяючы рукамі твар)*

Ох, не пытайце, княжа... Пасціналі!
На кола іх... Разбілі — і сабакам!..

Вітаўт

На кола — і Біруту?! Маю маці?

Марыля

Не... Кажуць, вашу маці тое гора
Разбіла злым паралюшом...

Вітаўт

Пяруне!
Чаму я не разгледзеў праз давер
Клыкастую гайню?
О, святакрадцы!
Вы задушылі тут, на гэтым ложы,
Не толькі майго бацьку...
Вы разбілі
Злой немаччу не толькі маю маці...
Ва мне вы задушылі — і мяне!
Пяруне, чуеш?
Мае надзеі рухнулі... Шаленцы
Драпежна пакусалі маю веру!
На еднасць спадзяванні...
І на крэўнасць!

Марыля

Не трэба так вам... Помніце, мяне
Вы мужнасці вучылі, калі ў вёсцы
Маіх бацькоў пабілі крыжакі?
Вы ў замак свой над Нёманам прывезлі
Мяне, як Кейстут некалі Біруту...
Тады я змацавалася ў Гародні
Адвагай вашай, воляю...
І верай!

Вітаўт

Яе загрызлі, веру нашу... Як аленя
Харты галодныя!.. Яе свяжуюць!
Шпурляюць мяса дымна на вуголле,
На жэглішча пякельнае...

Марыля

Ах, княжа...
Які нясцерпны боль вас працінае!

На плячо Вітаўта кладзецца моцная рука — таго, хто стаяў збоку, прыхінаючы твар хусткай. Цяпер хустка адхілена з галавы. Вітаўт утароплена глядзіць — не дае веры.

## КНЯЗЬ ГАЛЬШАНСКІ

Вітаўт
*(абдымаецца з Гальшанскім)*

На гэта здатны толькі ты, Гальшанскі!

Гальшанскі

Цс-ы... Дзівішся, што княжацкія шаты
Я на апратку бабскую змяняў?

Што ж, трохі не па-рыцарску... Але ж
Я да абраду пераапранання
Даўно прывык!

Вітаўт

Тут не гульня з мядзведзем...
У Крэве цябе ведаюць!.. Тут можна —
Як курапатка ў кіпці... Ведаеш,
Чым рызыкуеш ты?

Гальшанскі

Тваім жыццём!

Вітаўт

Сваёй галавой ты рызыкуеш!

Гальшанскі

Што я!
Гульню з раз'ятраным драпежцам
З-за галавы тваёй мы пачалі...
Ці чуў, хто гэтай ноччу прыскакаў
У Крэўскі замак?..
Удава Вайдылы!
Злабівая рука Ульяны... Так!
Вось і тады,
Апошняй ноччу Кейстута,
Ліхім ганцом прымчалася яна...
Я ўсё узважыў: сёння ты ў загоне!
Ты — зубр, падбіты, ўз'яраны, якога
Патрэбна чым хутчэй ім свежаваць...
Хто першы перайме?..
Хто апярэдзіць?
Шлюць крыжакі хітрушча свае рады —
З загону выпусціць!.. Ды рады іх —
Нібы бізун, сцябаюць па Ягайлу!
Ты косткай перасеў яму у горле...

В і т а ў т

А што прыдумаць нам?
Ну — выйсце?.. Выйсце!

Г а л ь ш а н с к і

А выйсце ёсць!
Ты бачыш: я прыйшоў.
А выйдзеш — ты!
Цябе мы вырвем з пашчы!
Бяры маю жаноцкую апратку...
А мне — сваю!.. Я застаюся тут.
Я ўсё абдумаў... Не пярэч, наш княжа!
Сягоння ты патрэбен там, на волі,—
Дзеля зямлі, што ў вогнішчы крыжацкім,
У вынішчэнні дзікім стала *ч о р н а й*!
Хто за яе заступіцца, згуртуе
Літвы Вялікай сілы?.. Што — Ягайла?
На што бяздзейнасць здольная — на змову?
Не хітрыкі, не боязь — меч патрэбен!
Ды хіба сам не ведаеш ты, княжа?
Дык не пярэч!.. Цябе ля крэўскіх гумнаў
Чакае конь гарачы мой... Ты чуеш?
Ты знойдзеш сховішча ў маіх Гальшанах!
Чаго глядзіш так?

В і т а ў т

Князь Гальшанскі, досыць!
Мы не на сцэне трагікаў Элады.

Г а л ь ш а н с к і

Але ж на сцэне больш трагічнай —
Для нас, а значыць — для ўсяе Айчыны,
Для Жмудзі, Белай, Чорнай Русі...
Калі жыццё ўжо ставіць нам на карту,
То дзеля іх — з ахвярнасцю найбольшай!
Яшчэ, я веру, выбавіць удасца

Іх ад трагічных зломаў, ад прадоння...
Настойваю!.. Прашу...
Я патрабую!
Цяпер не час датрымлівацца цнот
Старога рыцарства... Чаго гадаць?
Ды не саромся ты апраткі бабскай!

Вітаўт

Тут рыцарства старое ні пры чым.
І не ў апратцы ганьба, а ў намеры
Жыццё маё тут выкупіць ахвярна
Жыццём старога сябра...
Князь Гальшанскі!
Палкам патрэбен добры ваявода.
Нясі сваю вайсковую удатнасць
Вялікай множнасці рук збройных...
Рог
Зубрыны твой няхай ускалыхне
Зямлю вялікім рушаннем... Ідзі!
Такі наказ мой... Воля...
Мой загад!

Гальшанскі

Я выканаю, княжа... Ды цябе
Мы тут не можам кінуць на загубу...

Князь Гальшанскі, ахінуўшыся хусткай, выходзіць разам з Марыляй. Застаўшыся адзін, Вітаўт у цяжкой засяроджанасці ходзіць па лажніцы. Наплывае вечар. Цемра ночы гусцее. На вежы б'юць апоўнач. А бяссонная постаць снуе і снуе..

Начны змрок радзее... У байніцу заглядае світанак. З першым промнем чэзнуць прывідныя цені... Вітаўт размаўляе з сабой — ідзе цяжкая ўнутраная спрэчка.

Падступны голас:

Чаму адпрэчыў ты сваё збавенне?
Яно ішло насустрач — ужо двойчы!

Н я ў с т у п н ы   г о л а с:

Збавенне тое мне раскула б рукі,
Ды закавала б больш яшчэ душу!

П а д с т у п н ы   г о л а с:

Што мукі аднае душы!.. Абы —
Спазнала меней мук твая Айчына!
Цяпер твой лёс на шалях Гаспадарства
Так многа важыць: лёс усёй Літвы!
Хто мог бы так, як ты, ёй слугаваць,
Калі б не ковы на табе былі —
Вянец велікакняскі!.. З-за яе
Пайсці на хітрасць можна,
На падступнасць...

Н я ў с т у п н ы   г о л а с:

Ці доўга натрывае тая моц,
Што ўзыдзе на падступнасці, крыві?!
Калі ж нам сілу узгадуе ў княстве
Не меч крывавы, а...

П а д с т у п н ы   г о л а с:

Спачатку меч!
І моц твая — ў магутнасці харугвій.
Паселішчы хай вояў узгадуюць,
Як росцяць хлеб... Ды пакланіцца трэба
Чужацкай зброі...

Н я ў с т у п н ы   г о л а с:

Так, як ра̀дзіў пробашч?
Спачатку землі Чорнай Русі, Жмудзі —
На вынішчэнне?.. Так?

П а д с т у п н ы   г о л а с:

Умей аддаць...
Каб сіламі ўзбуяўшы — ўсё вярнуць!

Няўступны голас:

Вяртацца да сваіх зямель — праз здраду?!
Цяпер, калі над намі навісае
Крыжацкі захад, іншае апоры —
Няўжо няма?..
Гародня ёсць!.. Бярэсце.
Ёсць Полацкі Андрэй і князь Гальшанскі...

Падступны голас:

Якая здрада?
То ж — манеўр! Не болей...
Каб ратаваць зямлю ўсяе Айчыны!

Стражнік з лязгатам адмыкае дзверы — прапускае замкавую прыслужніцу, віхляста-прыветную, у белым фартушку, з падносам у руках.

Служка

Добрай раніцы, вялебны князю... Я падмацунку вам прынесла.

Вітаўт

Не трэба... Нясіце ўсё назад.

Служка

Ой, не... А што мне скажа кашталян? Ён загадаў мне самой тут пабыць, пакуль вы паснедаеце. Ешце... Так духмяна пахне дзічынка і крупеня з мёдам! Чуеце?.. То хіба я пакіну вам.

Служка стаўляе сняданак на стол, выслізгвае ў дзверы. Вітаўт бярэ гліняны посуд з ежай — выкідвае праз байніцу.

Вітаўт

Частуйся, Цэрбер!
Я знаю, што цябе не дужа кормяць,
Як псіну кожнага, каб злей брахаў...

З'ядай, выжляціна... У гэтым замку
Ты не з падлейшых жывацін... Але
Чаго ты зрання ўядна разбрахаўся?

У дзвярах з'яўляецца кашталян Прокша — прапускае ў лажніцу трох жанчын.

Кашталян

Да вас, княжа, па высокаму дазволу — мужатая з прыслугай. Ім можна знаходзіцца пры вас. Няхай слугуюць. Ад ранішняга да вячэрняга звону. А на ноч — зыходзяць. *(Выходзіць.)*

## КНЯГІНЯ ГАННА

Вітаўт

Каго паслала неба мне!.. Цяпер
Не пахавае ў лёхах нас і Крэва!
*(Абдымае Ганну.)*
А хто з табой яшчэ? Марыля!
Дзякуй,
Ахоўнікі мае ад чорных ценяў.
І чорных дум маіх...

Ганна

Ах, любы Вітаўт!
Я так спяшалася... Усю дарогу
Гнаў дзікі страх: абы застаць жывым!

Вітаўт

Ты — з Вільні?
Ты была на спапяленні?

Ганна

Зірні ў мае зраніцы — там шугае
Боль за цябе... І полымя кастра!
Знямелы, з крэменю часапы ідал
Глядзеў на жэглішча:
Ну, хто наступны?
О, як я здрыганулася тады,
Шалёна коней гнала я у Крэва!

Вітаўт

Ты споўніла абрад дзядоў пачэспа...

Ганна

А знаеш, што сказаў крыжацкі пробашч
На вуха мне пры жэглішчы?
Багі
Мяняюцца на небе гэтаксама,
Як на зямлі... Слугуй апошнім!

Вітаўт

Я ведаю: слугуе ён Закону,
Як Цэрбер — там упізе — гэтым лёхам...

Ганна

Казаў, што ваш Пярун, паганскі ідал,
Які стаіць на мольбішчы пры Знічы,
Цябе ўжо не ўратуе...
Чуеш, Вітаўт?
Узяў мяне ты замуж, у свой лёс,
Чаму ж, скажы, мае не прымеш веры?
Мой Бог табе паможа, я ўмалю!
Ты толькі асвяці сябе хрышчэннем!

Вітаўт

Мы болей — у руках багоў зямных.
А ў іх не многа вымаліш... Чаму

Братам па веры і крыві так цесна
У гэтым свеце?
Ты была ў Ягайлы?

Ганна

Была ў яго я з пробашчам крыжацкім.
Я імем свайго Бога у Ягайлы
Ледзь вырвала святое права крэўных —
Быць пры табе!.. Але ж чаму, чаму
У брата з рук не здолела я вырваць
Цябе самога?

Вітаўт

Тут мальбой не вырвеш!
Яны адчулі нашу зверхнасць духу,
А ён, наш дух,
Патрэбен землям княства!
Дзяржаўнасці!..
І гору быць вялікаму, калі
Наш дух захочуць патаптаць акрутна!
Невынішчальны ён... Надыдзе час —
І дух з астанкаў, з попелу —
Узыдзе!

Ганна

Не трэба попел мне... Не цешыць дух,
Што прарасце для некага з кургання.
Мне трэба ты — жывы! Увесь!
І я
Цябе ніякім злыдням не аддам,
Ніякім злым багам...
Таму прыйшлі мы...

Вітаўт

О, гэты князь Гальшанскі!.. Яго планы!
А можа, лепш рукой сваёй заціснуць

Мне ўласны гнеў?
Суцішыць рану крыўды?
Лепш прымірыцца з братам па крыві,
Чым потым брата ў ворагу вышукваць!
З маім лістом імчыся да Ягайлы:
Няхай сюды, у замак свой, прыедзе.
Скажы: не я,
А Гаспадарства кліча!

Ганна

Яму не мір твой трэба —
Твая страта!
На гэта ёсць злабівая рука...
Ты чуў, што тут яна — ўдава Вайдылы...

Вітаўт

Я ведаю... Ды мушу крок апошні
Зрабіць насустрач.

Ганна

Вітаўце, на што
Ты спадзяешся — на яго бязволле?

Вітаўт

Бязволле яго хітрае... Тут больш
Гульня ў бязвіннасць, за якою — хіжасць!
Ды мушу я...

Ганна

Не, любы мой! Сама
Я ў гэтай вось вязніцы застануся.
Я не аддам цябе на чорны глум
Халодным душазгубным сценам... Чуеш?

Вітаўт, не зважаючы на ўгаворы княгіні Ганны, ідзе да стала — збіраецца пісаць ліст Ягайлу...
У гэты час за мурам, недзе пад самай вежай, усчынаецца лаянка, крык... Марыля кідаецца да байніцы — слухае.

Вітаўт

Ну што там?

Марыля

Дзіўна, нехта атруціў
Пад вежай пса старажавога...

Вітаўт

Пса?!

Ганна

Чаго ты ўскочыў, нібы ўкушаны?..

Вітаўт

Я псіну атруціў пад вежай...
Я!

Ганна

Навошта намаўляеш на сябе?

Вітаўт

Праз гэтую байніцу толькі што
Я выкінуў сняданак свой... Прынесла
Яго мне замкавая служка...

Ганна

Не!
Цяпер адсюль не выйду без цябе!
Пакуль за душазгубнымі мурамі
Тут будзе паляванне на цябе...
На ўвесь наш род!
Як добра, што паспела!..
Я буду пільнай служкай пры табе.
Сама я стану зрокам тваім, слыхам!

Марыля

Ах, княжа, не марудзьце, калі ёсць
Яшчэ ратунак!

Ганна

Тут не да патарчак,
Калі нас кожны міг падсцерагае
Атрута ці вяроўка...

Марыля

О, Багі!
У небе, ў хаце, у святых дубровах!
Прыдумайце што-небудзь, выручайце...
Павыганяйце з лёхаў духаў злых,
Што ходы ўсе закрылі, сочаць...
Не!
Сама я стану вартай пры дзвярах!
Княгіня Ганна...
Ой... вы мне даруйце!
Дазвольце мне тут разам з вамі стаць
Пры ложы князя слыхам, зрокам... Не?
Вам мала гэтага?.. Тады сама
Я вамі стану, Вітаўце, сама!
Абліччам вашым стану —
Вось маё адзенне!

Марыля рашуча зрывае з сябе апратку. Накідвае сабе на плечы каптан Вітаўта.

Вітаўт

Я не магу, Марыля, так...

Ганна

Падзякуй...
Твайму жыццю нясе яна ратунак!
Ці выдарыцца больш удатны момант?

Вітаўт

Я не магу прыняць тваю ахвярнасць,
Марыля...

Марыля

Гэта не ахвярнасць... Не!
Мне шмат даруецца, бо я —
Кабета...
Мне шмат дазволена, бо я —
Кахаю...
Ах, Вітаўце!.. Ратуйцеся, прашу!
Калісь мяне вы самі ўратавалі,
Няўжо я вас сягоння не ўратую?!

Княгіня Ганна адварочваецца. Вітаўт стаіць хвіліну ў нерашучасці. Змагаецца з сабой. Моцна цалуе Марылю. Накідвае на сябе яе апратку. Узрушана ўздымае рукі ў ковах.

## МАЛІТВА ВІТАЎТА

Пяруне мой!
Я здраджваю табе...
Даруй, але я гэтую малітву
Апошні раз табе узношу ў неба!
Мяне заручаць хутка з іншым Богам
І зробяць сынам крыжа і касцёла...
Цяпер мяне ты можаш пакараць
Мячамі варты, ікламі сабак...
Ці патапіць параненага ў рове...
Ці затравіць пагоняй, нібы звера!
Ды большай будзе кара — там,
Куды ўцяку!
Ці думаў я калі,
Што на паклон пайду да крыжакоў,
Што буду прыязі шукаць, зніжацца,
Прылашчваць буду рыжыя бароды
І з ганьбай клікаць белыя плашчы,

Крыжы чырвоныя — пустошыць збройна
Зямлю ўсяе Літвы?
Як потым гляну
Я ў вочы свайму бацьку ў Судны дзень?
Ці раз мы з Кейстутам палкі вадзілі
Да прусаў — з помстаю за Гедыміна!
Адплату неслі за акрутны гвалт,
За ўсе няцноты, шкоды, што ўчынілі
Грабежцы і насмеўцы нашы... Колькі
Стачылі бітваў, збурылі мուроў,
Што нашы людзі ўзводзілі ў палоне!
Паклалі зацных рыцараў, а з імі
Самога містра Генрыка... Няўжо
Пра ўсё гэта забылі крыжакі?
Чаму ж яны так дабрадзейна радзяць
На волю выпусціць мяне?.. За што?!
Патрэбна ім не моц, а наша немац!
Дадуць мне добра ўзмоцніцца, каб потым
Зноў нашу крэўнасць сутыкнуць ілбамі!
Дык што чыніць я змушаны?.. Ну што?
З усіх бакоў абклаў мяне мой брат,
Нібы на паляванні — толькі ход
Адзін пакінуў, шчыліну адну —
Да чужакоў...
Як часта мы ў чужы абоз
Штурхаем крэўных... Абвяшчаем свету
Пра братадюбства, а цішком рыхтуем
Братазабойства...
Як мне сёння быць?
На змову адказаць такой жа змовай?
Агонь тушыць агнём?
Пяруне мой!
Я выбару не маю іншага...
Я здраджваю табе... Але і там —
Пад знакам Бога новага, не здраджу
Сваёй Зямлі...

Княгіня Ганна са сваёй служкай, а пасярод іх — Вітаўт у жаноцкай апратцы — выходзяць. Застаецца адна Марыля — у вопратцы князя. У памяшканне, задыханыя, урываюцца кашталян Прокша са стражнікам.

Кашталян

Князь Вітаўт!.. Го-о!.. Няўжо і праўда — збег?! Ах, зладзеец акрутны! Што з намі будзе? Што будзе?!

Стражнік

Гэй ты, у княскіх шатах... Пачварная кабеціна! Куды яны збеглі? Дзе Вітаўт?.. Ты хто — яго мужатая?

Кашталян

Якая мужатая! Гэта — зжэніна... Каханка!

Стражнік у лютасці кідаецца да Марылі з мячом. Марыля са стогнам падае.

## Частка трэцяя

## ДЗВЕ КАРОНЫ

Крэва, жнівень 1385 г. Шырокая гасцёўня замка. Пад нагамі каберац: луг у квецені, лісце ткана срэбрам, пялёсткі — золатам. У аксамітным крэсле — Ягайла, каптан з англійскага сукна і атласу, шыты золатам, сандалі ў дарагіх каменнях.

Ягайла

Ну, дзе ж яны, высокія пасла́нцы
Ад сойму кракаўскага,
Ад Кароны,
Што свеціцца так зманна на чале
Ядвігі?
Коні заблудзілі ў пушчы?
Ці крыжакі над Нёманам паня́лі?
*(Кідае цераз плячо заломаную саломіну.)*

Цьху... цьху!
Магістар Конрад Цольнер!.. Хопіць
Трымаць мяне на вострым джале меча!
Хай мечам маім стане — вунія!
Так-так, я толькі ёй абаранюся
Ад злога лёсу, што крыжацкім мечам
Адсек адну галіну ў нашым родзе —
Плямёны Прусіі...
Не ўдасца болей!
Нашэсці разаб'юцца аб Карону!
Я адаб'юся ёй і ад татар,
І ад усходу, што пачаў дужэць...
І ад нязгоды хатняе, што прагне
Кульнуць мой стол вялікакняскі...
Хопіць!
Я перадам вялікакняскі посах
Братам адзінакроўным — Свідрыгайлу
Або Скіргайлу... Дрэва Гедыміна
Такога і не сніла уладарства,
Каб кронаю адной яно шумела
На дзве дзяржавы —
На Літву і Польшчу!
Карона ўвекавечыць род Ягайлы!..
Ды дзе ж яны, сваты, князі, баяры?
Ці мала вы маіх дароў павезлі
У двор угорскі — маладой Ядвізе?
У двор магнатаў польскіх і прэлатаў,
Што ахрысціць сабраліся мяне
З усёй Літвой...

Спаважна ўваходзіць Ульяна, маці Ягайлы.

Ульяна

Цябе псуе бяссонне... Збляк, зблажэў.
Як можна ў тваім стане!.. Адны вушы
Ды шыя... Догляду няма... Гэй, служка!
Даўно патрэбен князю падмацунак!

З'яўляецца служка з падносам, застаўленым ежай. Ягайла адсылае ўсё назад узмахам рукі.

Я г а й л а

Хіба такі мне трэба падмацунак?
Я парушаюся пры кожным стуку,
Уздрыгваю ад брэху псоў у Крэве.
Мо едуць з Кракава?.. Ну дзе ж яны,
Пасланцы сойму?..
Можа, ўзяць каня —
Ды ім насустрач выехаць з дарамі?

У л л я н а

Дзіця маё... Не парушайся так!
Твой знак шчаслівы ў небе, пад якім
Ты ўзгадаваўся пад крылом матулі...
Абраў цябе сам лёс Гасподзен... Так!
Каб ты і ухіляў сваё чало,
Карону на яго ўсё роўна ўздзенуць!
Ды правіць будуць іншыя ўладарцы —
Не ты... Натура твая мяккая...
У Гаспадарстве пад тваёй каронай
Вазьмуцца уладарыць, справаваць
Дужэйшыя, чым ты...

Я г а й л а

Хто?.. Вітаўт?.. Вітаўт?

У л л я н а

Яму карона не твая патрэбна —
Свая!
Я гэта згледзела ў вачах
Прытоеных яго... Халодны бляск
Успыхнуў у зраніцах, нібы ў рысі...
На галаву тваю і палавіну
Не абвалілася б трывог, калі б
Яго тады не выпусціў ты з Крэва...

Ягайла

Але ж ён — тут!
Зноў у маіх руках!
Мой брат, мой прыяцель...
І мой палонны!
Цяпер нідзе не дзенецца... Крывёй
Законнікаў крыжацкіх, іх купцоў,
Патопленых у ковенскіх равах,
Мурамі збуранымі —
Ён хацеў
Вярнуць маю спагаду і давер...

Ульяна

Ды за галовы, збураныя замкі
Ён мерыцца узяць задорага —
Літву Вялікую!

Ягайла

Няхай пра гэта
Перш запытаецца ў маіх скляпенняў!

Ульяна

Цяпер ты не спяшайся... Не той час!
Раней цішком адплату я сама
На іх галовы пасылала... Сёння ж
Нам трэба асцярожней з ім... Трымай
Адну руку, як той казаў, на мечы,
Другую — ў ковах мудрасці!.. Спачатку
Табе хай паслугуе...
Твайму шлюбу!

Уваходзіць кашталян замка Прокша.

Кашталян

Вялікаможны княжа... У вароты замка стукаецца тутэйшы долнік... Кажа, што з пільнай патрэбай да вас.

Ягайла

Хто?! Можа, варажбіт, гадач вандроўны?.. Чараўнік?.. Тады кліч!

Кашталян

Не... Гэта наш крэўскі долнік... Далакоп Пятруля.

Ягайла

Кепскі знак... Ох-ох! Пасланнік злых багоў, па чыю загібель прыйшоў?

Улляна

Перадай яму во гэту залатоўку. Ды не пускай і на страленне да замка, калі высокае пасольства будзе ехаць.

Кашталян

Слухаюся, яснейшы... Але ён мае сам перадаць вам нейкую манету...

Ягайла

Якую яшчэ там манету?!

Кашталян

Срэбную... Нязвычную... Ён хоча сам паказаць яе вам.

Ягайла

Нязвычную?.. Можа, добры знак!.. Упусці.

Кашталян упускае долніка. Ягайла ўстае з крэсла — цікаўна ідзе насустрач.

Пятруля

Гэта во капаў я ўчора цасля палудня... Каля кургана... Для сіроткі.

Ягайла

Якой там сіроткі?!

Пятруля

Сымонкавай... Хіба не ведалі лоўчага Сымонку? Вунь хата на ўзлеску. Яго самога вясной мядзведзь задзёр, калі на ловы ў пушчу хадзілі... Памятаеце?.. То яго Галенка заўчора ад мору змерла. Мне казалі — далей капаць, пры старым кургане. На чарапы наткнуўся... А там, сярод сякер і дзідаў,— во што!

Пятруля спаважна дастае манету, загорнутую ў анучку. Падае вялікаму князю. Ягайла адмахваецца, у рукі не бярэ — разглядае зводдаль.

Ягайла

Спачатку вымый у гэтай зёлкавай вадзе... Во, там — дзе расце афёглас... Каб — цьху-цьху! — ніякай атруты не занёс... Ці мору.

Уляна

І рукі добра вымый, рукі! Ды ручніком пратры. А цяпер можна і ў міласцівыя рукі вялікага князя... Караля нашага!

Ягайла бярэ вялікую срэбную манету тонкімі пальцамі, падносіць да акна, здзіўлена разглядае.

Ягайла

Што бачу я тут, на манеце срэбнай!
Вяшчунны знак: нявеста у кароне!
Высокі лоб, а ў зрэнках, нібы іскра
Ад Знічу вечнага ля Святарогу...
Якая пекнасць і высакагоднасць,
Цнатлівасць і набожнасць твару!
Прыцьмелы срэбранік, а мне здаецца —
У замак наш з'явілася Ядвіга!
Такой яна жыве ў маёй уяве...
Нібы з яе адліты гэты воблік...
Як звабна свецяцца зубцы кароны!

*(Пяшчотна прытуляе старую манету да скроні.)*

Улляна

Гасподзен вешчы знак...
Цяпер ты можаш
Ад дум ліхіх спакойна адкаснуцца.
Пасольства едзе!

Ягайла

Дзе ж яно?.. Ну, дзе?
Я трэці дзень... Паўгода ўжо чакаю!
Ты, стары овен, анічога ў гэтым
Не цяміш... Прэч!

Улляна

Ты долніка уваж...

Ягайла

Цьху-цьху... Чакай!
Вазьмі ўзамен во — залаты фларэн...

Долнік кланяецца, выходзіць.

Улляна

Дзіця маё, нябёсам памаліся
За вешчы знак...
Ідзі ў сваю лажніцу.
Не, не... Спачатку падмацуйся...
Служка!

З'яўляецца служка з падносам. Але Ягайла зноў адмахваецца ад ежы.

Ягайла

Ідзіце ўсе... А я ў сваім чаканні
Сніць буду сон на залатым каберцы...

Мосціцца лацвей у шырокім крэсле, засланым аксамітным каберцам. Кладзе пад галаву далонь са старой вяшчуннай манетай.

## СОН ЯГАЙЛЫ

Святло прыцьмявае. Каля галавы Ягайлы, як прывід, з'яўляецца Ядвіга. На дыбачках адыходзіць ад яго. Кідаецца наўцёкі. Бяжыць да дзвярэй, стукае кулакамі.

Ядвіга

Пусціце мяне, стражнікі, зласердцы!
Цяжкую браму акавaную
Мне расчыніце!..
Біскупы, магнаты,
Маю душу вы атачылі глуха
Наводамі, завaламі, мурамі
У Кракаве — з маёй каронай разам!
А самі, не спытаўшыся ў мяне,
Засваталі ўсім соймам мяне з пеклам,
З гвалтоўніцтвам паганіна... І вечнай
Бязмоўнай маёй скрухай...
Самі ж вы,
Пад мантыі і рызы прыхаваўшы
Насільства сваё, змову, беззаконне,—
Панеслі гэта ўсё ў руках пасольства
Вясельнага... Як дар!
Кудысьці ў Крэва!

Голас з вежы

Ave, regina felix! [1]
Шчаслівая, узрадуйся!.. Ты творыш
Сваёю згодай веліч дабрадзейства!

Ядвіга

Пусціце з камяніц!.. Каханы мой,
З дзяцінства нарачоны мой, чакай!
Не пакідай мяне ў задусе замка

---

[1] Радуйся, шчаслівая каралева!

Чужога... Чую за мурамі крокі,
Тваё дыханне стоенае, любы!
Мой муж, мой пан...
Абраннік мой, кароль,
У вопратцы купца угорскага...
Здымі запоры, выкрадзі мяне!..
Ты чуеш, выкрадзі!..
Пусціце!

Голас з вежы

Ave, regina beata! [1]
Яснейшая, уцешся: твой абраннік —
Не герцаг Аўстрыі...
Сталейшы ёсць!
І сэрцам дабрачынны больш...
Ягелла!
Не мы цябе з Ягеллам заручылі,
А самі інтарэсы, лёс дзяржавы —
Кароны Польскай і Літвы!
Pare marito!.. Pare... [2]

Ядвіга

О, магнаты!
Якія ў вас грахі бязмерныя,
Калі вы нават чыніце гвалтоўнасць
Над каралеваю самой...
Пусціце!
Пад ценем манастырскіх францысканаў,
Дзе са сваім каханым яшчэ ўчора
Таемна я спазнала грэх і слодыч,
У келлі той я лепш сама зачахну,
Чым задыхацца век пагвалчанай,
Нямой ахвярай...

---

[1] Радуйся, блажэнная каралева!
[2] Падпарадкуйся мужу!

Голас з вежы

Ave, regina pia! [1]
Уцешся, багачэсная... Сябе
Ахвярна ты ўскладаеш на алтар
Для пана Езуса...
З Ягеллам разам
Пан Езус пойдзе па зямлі паганай
З крапідлам у руцэ!.. І не завяне
Ніколі твая слава!.. Слава Польшчы!

Ядвіга

Лацінскай веры хрэст... Мой крыж!
Ды толькі
Хто гвалтам не хапаецца рукамі
Сягоння за святыню гэтую,
А несці... Несці яго зможа той,
Хто ў Крэве крэўнага замардаваў?!

Голас з вежы

Regina, superbiam submitte! [2]
Твой сасуд
Яшчэ не поўны вераю, скудзельны.
Альжбэта, твая маці, каралева
Хіба магла аддаць цябе у рукі
Забойцы?

Ядвіга

Вітаўт!.. Адгукніся, Вітаўт!
Хачу цябе спытаць... Кажы мне праўду!

З'яўляецца пахмурна-маўклівая здань Вітаўта.

Не, ты не ўтоіш ад маіх вачэй
Таго злачынства... Дык чаго маўчыш?

[1] Радуйся, багачэсная каралева!
[2] Каралева, збаў гонар!

Скажы адно хоць слова... Так ці не?
Хоць галавой кіўні — і ліха змовы,
Заручын гэтых, шлюбу — адпадзе!
Ты бачыш, як гвалтоўна і зласэрдна
Тут атачылі ўсе мяне... Усе!
Я задыхаюся...

Здань **В і т а ў т а** ў стоенай маўклівасці знікае.

О, Матка боска!
На волю мяне выбаў з гэтых сцен,
З рук стражнікаў, магнатаў і прэлатаў...
Адчыніце!

Ядвіга выхоплівае ў стражніка сякеру. Адчайна сячэ дубовую браму. Але кволыя рукі слабеюць. Сякера са звонам падае на камяністы дол. Ядвіга непрытомна апускаецца каля брамы.

Я г а й л а
*(прахопліваецца, неўразумела трэ вочы)*

Ядвіга... Вітаўт... Дзе я?!
Што за сон
Сышоў пачварна з гэтае манеты?
Нідзе нікога... Слугі, гэй паклічце
Мне князя Вітаўта!

Уваходзіць Вітаўт. Ягайла дастае з-пад падушкі старую манету і прымхліва перакручваецца на левай назе.

Ты бачыш гэту срэбную манету?

В і т а ў т

Манета даўняя... Ці не з часоў
Удзельных... О, ды бачу тут знаменне!
Якому ж дзіваку прыспела вельмі
Каронай увянчаць чало дзяўчыны?
І дзе ты расшукаў яе?

Ядвіга

Няўжо —
Вяшчунны знак мой?.. Ды — ці на дабро?
Прыйшоў ён з крэўскага кургання ў сон,
Сышлі з кароны гэтай цені, здані...

Вітаўт
*(здагадліва, з усмехам)*

Ці не прыходзіла ў твой сон Ядвіга?
Лямантавала?.. Білася аб прэнты
Святліцы кракаўскай, як птах у клетцы?
Ты не пужайся... Гэтая манета
Паказвае на іншае знаменне!
Яна — высокі знак зямлі айчыннай,
Надзеі даўняй, мар на непадлегласць!
Увасабленне гэта на грудзях
Насілі воі, быццам запавет,
Які даваў патужнасць іх сякерам,
Даваў ім веру, моцы — бараніцца
Ад стрэл татарскіх,
Ад мячоў крыжацкіх...
Усход дзікунскі і крыжацкі захад —
Як два агні з бакоў смалістай пушчы!
Не паспяваем збіць пажар, як зноў
Страха і кроў агнём адным курыцца...

Ягайла

Мяне, мой браце, не карона толькі
На галаве Ядвігі спакушае!
Цяпер яна — ратунак наш, каб войны
І звонку і знутры не ураслалі!
У дзверы нашы вунія даўно
Каронай стукае!..

Вітаўт

Але ж чаму

Не ўсе пажадна цягнуцца да той
Чужой кароны?.. Як не намаўляў
Кароль вялікі польскі Казімір
З Падолля Канстанціна!
Вальны сойм
Яго прыняў ужо ў сыны касцёла!
Ды дзіва!.. Каралеўствам пагардзеўшы,
Вярнуўся Канстанцін дамоў...
Чаму?

Ягайла ўсхопліваецца, з нагі спадае сандаль у дарагіх каменнях.

Вялікі княжа, сядзь...
Ты так не зробіш!

Я г а й л а

Не задзірай, мой браце, вуніі...
Хоць ты памысны, дзельны, ды не ўсё
Кладзеш на шалі!
Знаеш ты, чаму
Я гавару з табой на мове Белай Русі?
Бо мову Гедыміна забываю...
Хоць я і змалку слаба яе ведаў.
Я ўзгадаваны між беларусінаў,
Лічу сваімі мову іх і хлеб!..

В і т а ў т

Вялікі Гедымін не горш, чым мы,
Знаў мову і душу беларусінаў...

Я г а й л а

Ды ведаў мову і жмудзін!..
А я?
Вялікі князь Літвы, але жмудзінаў,
Літоўцаў па крыві не разумее...
Як стала так?.. Мы ведалі здаўна

Адно — сякеры, дзіды і мачугі,
Набегі і агонь... На конях жмудскіх
Мы пачыналі і канчалі свой
Жывот... Шугалі з пушчаў хмарамі —
Сціналі, секлі!.. І знікалі ў пушчы.
Літовец параджаўся рыцарам! —
Казаў наш гонар, дбаючы пра голад,
Пра вено, дзякла, падваенне земляў!
Не зглездзелі таго небеспячэнства,
Што ў двор велікакняскі наш цішком
Не з чорнага — зайшло яно ў парадны!
З культурай беларусаў, з іхняй верай
І з іхнім справаваннем, іхняй мовай!
У нас яна па ўсёй Літве квітнее!
Сваёй мы сталі пагарджаць, ты знаеш...
Мы распыляемся, знікаем, чэзнем,
Нібы плямёны прусаў ці ятвягаў...

Вітаўт

Ды ты, вялікі княжа,— сын сапраўдны
Сваіх зямель!.. Не знаю аднаго:
Чаму ж з Літвы Вялікай хочаш з'ехаць
Ты ў Кракаў?

Ягайла

Вунія — не толькі шчыт
Ад крыжакоў...
Я еду, каб адцяць
Уплывы пераможныя Усходу!

Вітаўт

Адцяць руку, якая ўскарміла?
Не так штось, браце...
Кажаш, ты забыў
Святую мову прадзедаў... Як ведаць:
А княскі корань іх — з якой зямлі?

Літоўскай ці русінскай?..
О, Літва
Вялікая, скажы, дзе твой пачатак?
Чаму для места стольнага Міндоўг
Абраў Наваградак?.. Над Нёманам
Там колькі дрэмле нашых курганоў!
Там моцна завязалася, трывала
Дзяржаўнасць нашая... І крэўнасць тая
Не зарасце быллём!.. Цяпер так проста
Шукаць ва ўсіх віноўцу — не ў сабе!
За немату кагосьці вінаваціць...
Хто ж вінаваты, што вялікі княжа
Не ўмее ні чытаць і ні пісаць?
Ў цябе не толькі мову Гедыміна
Улляна адабрала, а пісьме́ннасць!
І нават больш... У гэтым занядбанні
Пачаў губіць святое ты — Айчыну!
Таму табе і лёгка так, як плюнуць,
Змяніць цяпер і веру, і Багоў!
І мову!.. Бо свайго так мала ты
З карэння паспытаў!
Таму так лёгка
Ты можаш перакінуцца, як вецер,
Сягоння — з меж усходніх да заходніх...

З рук Ягайлы падае на падлогу старая манета. Вітаўт падымае яе — працягвае брату.

Ягайла

Вазьмі, як дар...

Вітаўт

О, дзякую, яснейшы!
Дар сымбалічны... Толькі для пачатку
Было б зусім не лішне мне вярнуць
Табой паня́тыя ўладанні нашы —
І Трокі, і Гародню, і Бярэсце...

Ягайла

Не княскі посах мой табе іх верне —
Карона каралеўская!.. Калі
Ты будзеш ёй спрыяць ва ўсім памысна...
Узвысіць і цябе яна!.. Карона
Велікакняскі вызваляе стол...

Вітаўт

За абяцанку дзякую... Але
За тым сталом мне ўжо відно пахмелле
Крывавае... За ім твой брат Скіргайла
Не першы дзень спраўляе гульбішча,
Бушуе, ў хмельным тлуме мечам
Сяброў калечыць... Потым зёлкамі
Іх раны лечыць... Толькі ці угоіш
На целе княства раны?

Ягайла

Слухай, браце:
Кароне трэба будзе на Літве
Намеснік свой, памысны, дзельны!
Я —
На тым і слюб даю!

За мурамі Крэўскага замка — стук капытоў, грукат колаў, гукі лютні, вясёлыя воклічы. Ягайла радасна кідаецца да акна.

Ну, слава Богу, едуць!

## APPLICARE[1]

У той жа зале Крэўскага замка — цырымонія замацавання высокага акта уніі.

У крэсле — Ягайла з посахам. Па адзін бок — літоўска-беларускае пасольства, родзічы вялікага князя — Ульяна, Скіргайла, Свідрыгайла, Карыбут, Барыс Суздальскі, Вітаўт, Гальшанскі і інш. Па другі — пасольства польска-венгерскае, магнат Спытка-Грабскі, біскуп Крапідла, пасланцы, паны, шляхта, сваты...

Спытка-Грабскі

Яснавяльможны княжа!..
Мы сюды
Прыехалі з вялікай воляй сойма.
Калі свае прысягі, абяцанні
Нязменна спраўдзіць князь, то мы
Гатовы перадаць у вашы рукі
Тры слынныя дары:
Хрэст рымскай веры,
Высакародную карону... —
Цуд свету, яснагожую Ядвісю!

Ягайла
*(схіляецца ў нізкім паклоне)*

Ці можа посах мой пераступіць
Прысягі, слюбы?.. Не!.. Замацаваны
Яны навек — вось у пісьмёнах гэтых...
Тут — дар за дар...
Чытай, мой высшы спраўца!

Канцлер набліжаецца да Ягайлы — раскручвае скрутак пергаміну.

Канцлер

У імя Бога, амэн! На вечную памяць аб справе...

---

[1] Злучаць, аб'ядноўваць, часцей — знешне.

...Прыняць з цэлым народам Літвы хрэст латынскай веры і стаць сынам касцёла — разам з братамі, крэўнымі, з усім дваром сваім, з князямі, баярамі, рыцарамі, з усім простым людам ад вялікага да малога...

Біскуп Крапідла

Asperge, veni aspergas! [1]
І ўвянчаюць
Вас дзве кароны высшыя мацарства —
Зямнога і нябеснага!

Узбуджаны шэпт сярод польска-венгерскага пасольства:
Laus tibi, Domine! Deo gratias! [2]

Вітаўт

Даруйце, ваша светласць...
Дзве кароны
Вы дорыце — усёй Літве Вялікай?
Не толькі Жмудзі, але й Белай Русі?

Біскуп Крапідла

Так-так, мацарству цэламу!

Вітаўт

Чакайце.
Але ж здаўна ў беларусінаў ёсць
Карона веры той жа, хрысціянскай!

Біскуп Крапідла

То — схізма!.. Сарацыны!
А мацарства
На небе толькі для сыноў касцёла!

---

[1] Акрапі, прыйдзі акрапіць!
[2] Хвала табе, Госпадзі! Дзякуй Богу!

Вітаўт

Беларусіны — сарацыны?.. Ха-ха!
Якія ж то аблудныя намовы!

Ягайла
*(нервова стукае посахам)*

Не месца для патарчак!..
Вітаўт... Вітаўт!
Чытай далей, мой найвысокі спраўца...

Канцлер

...Вярнуць Кароне Польскай панятыя ўсе землі...
Выпусціць на волю ўсіх еньцаў і браньцаў...

Шэпт услед за біскупам: Gloria tibi, Domine! [1]

...Усе скарбы вялікага князя Ягеллы перадаюцца ў агульную скарбніцу Кароны...

Зноў шэпт: Deo gratias!.. Deo gratias!

...Выплаціць былому нарачонаму Ядвігі герцагу аўстрыйскаму Вільгельму за тое, што ён уступае сваю нявесту,— 200 тысяч залатых фларэнаў... Перадаць...

Спытка-Грабскі

Так-то так... Але калі мы пачуем слыпнае applicare?

Канцлер

Applicare... Злучаем, далучаем, уз'ядноўваем, інкарпаруем... Укараняем, саюзам звязваем, змацоўваем, замацоўваем, яднаем на векі вечныя, на ўсе часы...

Узбуджаны шэпт услед за біскупам: Gloria tibi, Domine! Вітаўт, прыкрыўшы далонню вочы, адступаецца ўбок. Князь Гальшанскі падтрымлівае яго.

---

[1] Слава табе, Госпадзі!

Гальшанскі

Ты чуеш, Вітаўт: нейкая камедыя!
Яны і сапраўды ўсе думаюць:
Такія applicare чыняцца навечна... Хо!

Вітаўт

Хто ведае?.. З гісторыі не смейся!
Усё, усё, што мы змацуем тут,
На гэтым пергаміне, ападзè —
На нашыя галовы, на наш лёс!
На доўгія вякі накінецца
Лавецкай сеткаю на нашы землі...

Ягайла
*(зноў раздражнёна стукае посахам)*

Князь Вітаўт, Вітаўт!.. Бачу, сапсуе
Ён сёння наша applicare...
Спраўца!

Канцлер

...Разам з усімі ўладаннямі, землямі, панствамі, княствамі, паветамі, удзеламі, памесцямі, надзеламі, маёнткамі, замкамі... На ўсякім праве, чыстым і змешаным, адзінымі быць — безаглядна, незваротна, нязрушна, няўступна... На векі вякоў. Амэн!

Біскуп Крапідла

Per omnia saecula saeculorum! [1]

Услед за біскупам воклічы, узбуджаны шэпт: ...saecula saeculorum!..
Дакумент уніі замацоўваюць віслымі пячаткамі Ягайла, Скіргайла, Карыбут, Барыс Суздальскі і інш.
Вітаўт хістка ідзе да дзвярэй. Спыняецца. Князь Гальшанскі спрабуе вярнуць яго назад — туды, дзе ідзе высокая працэсія замацавання акта уніі.

---

[1] На векі вякоў!

Вітаўт

Не... Не магу!.. Лягчэй было у лёхах
Мне дыхаць цвіллю той, зняменнем,
Чым быць удзельнікам і памагатым...
Быць сватам гэтай вуніі!.. Чаго ж
Тады ў ваганні я стаю, раздумваю?
На што я спадзяюся?.. На той слюб —
На стол велікакняскі, што Ягайла
Дакляраваў цішком?
Чаго ж іду,
Калі не веру, на яго ляйчыне?
Іду, як з пушчы зубр стрыножаны...
У храпе з колцам...
Знаю, дзікі рой
Калёных дзідаў, стрэлаў увап'ецца
У цела маё... Як жа задушыць
Мне у нутры сваім пякельны лямант?
Чаго стаіш?.. Ідзі: пад актам вуніі
Падвесь і ты пячатку згоды, змовы!
Пячатку?.. Ха-а!
Падвесіш грузны камень
Да ног дзяржаўнасці, нібы тапельцу!

Ягайла

Дзе Вітаўт?.. Браце, хіба ты забыўся
Пра слюб дэкляраваны мой?..

Вітаўт

Іду...

Вітаўт апошні падвешвае княскую пячатку пад актам уніі. Ягайла бярэ дакумент і ўрачыста падносіць яго Спытку-Грабскаму. У сваю чаргу магнат цырымонна навешвае на шыю вялікага князя залаты ланцуг.

Спытка-Грабскі

Хачу дадаць, яснейшыя, што слюбаў,

Падвешаных пячатак да паперы
І залатога ланцуга майго
Для справы мала, мала... Нас усіх
Як найхутчэй чакае слынны Кракаў!
А там пасля прыняцця хрэсту Рыма,
Святога сакрамэнту — мы папросім
Братоў і крэўных круля новага
Застацца ў замках кракаўскіх... Пакуль
Ягелла наш не споўніць applicare...

Вітаўт

Вы бераце заложнікамі нас?

Спытка-Грабскі

Не, леннікамі... Што вас дзівіць, князь?

Вітаўт

Мы ўжо — васалы вашы?.. Так, панове?
Во — толькі непадлеглымі былі!
І ўжо — нібы палоннікі...
Пяруне!

Ягайла
*(нервова перапыняе Вітаўта, стукаючы посахам)*

Я усталюю ў Гаспадарстве роўнасць
Для ўсіх, хто стане братам вуніі!
Я сам хрэст Рыма панясу у людзі!

Прабягае ўдзячны шэпт: Deo Gratias!

Біскуп-Крапідла

Asperge, veni aspergas!
Вы даверце
Місіянерам нашым... А яны
Да вуніі упартых прыпяволяць!
Ды чым пабольш пашыйце каптаноў
І камізэлек з белай сукні!

Як дзейнічае!
Ды глядзіце ж пільна:
Каб хто таемна ў вас не прыхаваў
Паганых ідалаў, свяшчэнных гадаў,
Бажкоў драўляных у святых дубровах...
Усіх да купы зносьце — і спаліце
З Пярунам разам!
А свяшчэнны Зніч
Ля Святарогу патушыць навечна!
Per omnia saecula saeculorum!

Апошнія словы падхоплівае шэпт:... saecula saeculorum!

Ягайла

Там, на паганскім жэглішчы, на скарбы
Мае уласныя — ўзнясецца ў неба
Сабор наш кафедральны!..
Ну, а тут —
У Крэве я ўзвяду святы касцёл —
У гонар applicare. Нашай вуніі!

Воклічы: Deo Gratias!.. Laus tibi, Domine!
З прыадчыненых дзвярэй нясуцца пералівістыя зыкі аркестра лютністаў і флейтыстаў. Уваходзіць кашталян Прокша.

Кашталян

Яснейшыя, запрашаю на баль... Чакае застолле!

Вітаўт астаецца адзін у апусцелай зале. Стаіць моўчкі ў прыцемку. Падыходзіць да акна.

Вітаўт

Куды ты хілішся, о, княства лёс!
За рысаю якой твая дзяржаўнасць?
І страта твая веры і ўладарства?
Усё, што здабывалася яднаннем,
І вольна, і нявольна,
Курганамі,

Крывёю ратнай, памнажэннем моцы —
Няўжо ўсё гэта дымам, крахам, прахам,
На злом і на распад пайдзе?!
Карона!
Я сёння ўпершыню так востра сэнсам
Тваім працяты... Холадам бліскучым
Твайго прамення...
Корань Гедыміна!
Як ты зманууўся бляскам тым чужым
Сваё чало азмрочыць?.. Пад табой —
Пласты зямель Літвы Вялікай!.. Колькі
Плямёнаў Русі — ў бітвах, справаванні
З плямёнамі — аўкштайты, жмудзь, літва —
Крывёй зрадніліся!
Спачатку здолей
З'яднаць, спавіць, пераплясці карэннем
Сваё!.. А на чужым, каб не усохнуць!
Быў лёс угатаваны нам адной
Зямлёй, гісторыяй самой!.. А сёння
Ты што Айчыне ўгатавала,
Крэва?!
Ды ўсё ж мая рука, душа, мой розум
Ніколі так не праглі справавання,
Кіпучай дзеі, як цяпер!..
Я мушу
Усёй сваёй памыснасцю і воляй
Давесці гэтым творцам applicare,
Што землі нашы будзе не так проста
Вам праглынуць пакваппай пашчай вуній!
Вы будзеце ўчыняць яшчэ не раз
І множыць іх праз доўгія гады
І з веку ў век, каб зноў пацвердзіць права
На ўціск і на захоп...
Але ў дзяржаве,
На землях нашых я ўзгадую моц,
Невынішчальны дух супраціўлення,

Каб — на вякі таксама! — непадлегла.
Жываначальна.

З двароў Крэва ўсё мацней даносіцца, нарастае выццё сабак... Вітаўт трывожна ўглядаецца ў густы змрок.

Не на дабро ўсчалі выццё вы, псы!
Што прадчуваеце?.. Засумавалі
Па чалавечыне на нашых землях?
Дзічэць яшчэ не раз вам на дарогах
І ваўкалакамі ўпівацца ў шыі
Людзей, што па радзінным краі будуць
Ісці —
Праз ноч сляпую, праз адчай,
З невынішчальнай вераю
У прышласць.

## ПАСЛЯСПЕЎ,
## АБО ЛЯМАНТ КАРОНЫ ВІТАЎТА

Мяне перанялі велькапаляне.
Ніводзін звер не знаў такіх засад!
На кожнай сцежцы — біскуп ці магнат.
І меч.
То ж па карону паляванне!

Я не дайшла да белага чала...
Ні да яго рукі, ні да надзеі...
Замест мяне — вянец пакуты ўздзелі
На лоб ягоны саван і імгла.

Ён так чакаў!
Чакалі мёд, дзічына,

З паўсвету госці, прынцы, каралі.
Чакалі рольнікі яго зямлі,
Мысліўцы, бортнікі...
Яго Айчына!

Навошта я яму?.. Хіба замала
Прынёс яму славутасці Грунвальд?
Айчына, што адкінула назад
Татарскі гвалт,
Хіба не ўвянчала?

Плыла бясконца ўлетку і ўзіму
І малаком, і мёдам, і пушнінай,
І чорнаю крывёю чужаніна
Яго зямля...
Навошта я яму?

Як ён стагнаў начамі ў даўкім сне!
Сыночкаў клікаў двух — з муроў,
з чужыны:
Іх крыжакам заложнікамі кінуў
З атрутай кубак выпіць...
З-за мяне?!

Касцёлы, прывілеі... Выбірай!
Няхай у зман не ўводзіць выгляд брацкі...
Ужо не ўсходам — захадам магнацкім
Рабунак запаўзаў глыбока ў край!..

Ён сэрцам зацвярдзеў, нібы мая
У бляску апаяска... Ды ў беларусінаў —
У радах, думах —
Радцу меў за сына!
Манархам ён не быў...
Навошта я?

Навошта я?
Застаўся ён бясчадным!
Ні дзедзічам яго і ні яму
Я не свяціла больш... Але чаму
Ён так глядзеў у даль —
З мальбой адчайнай?

Чаму ў трызненні
Водбліск мой трывожыў
Яго, вяртаючы і зрок, і слых,
Калі мяне ў апошні нават міг
Прасіў уздзець і на смяротным ложы!

Я не магла нічым дапамагчы,
Калі на дол з рукі яго апалай
Ключы зваліліся... Цішком Ягайла
Падняў...
Ад замкаў, ад зямлі ключы!

Мяне, рассекшы мечам надвая,
Прыцвікавалі ў Кракаўскім саборы...
Як сімвалічна са сцяны гаворыць
Пра еднасць душ, пра лёс наш
Плоць мая!..

*1980—1981*



## ЗМЕСТ

Крылатае семя



Кветкі бяссмертніку

Матчына жыта

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Мікола Арочка нарадзіўся 10 снежня 1930 г. у вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне ў сялянскай сям'і. У 1937—1951 гг. вучыўся ў Сялявіцкай, Вяліка-Кракоцкай і Азярніцкай школах. Затым — у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, на філалагічным факультэце (1951—1956). Пасля заканчэння універсітэта працаваў у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі» (1956—1960) і ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1962). Закончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. З 1966 г.— навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. Доктар філалагічных навук.

У друку з вершамі пачаў выступаць з 1949 г. Аўтар кніжак паэзіі «Не ўсе лугі накошаны» (1958), «Ветраломная паласа» (1962), «Крылатае семя» (1967), «Кветкі бяссмертніка» (1972), «Матчына жыта» (1978), «Курганне. Крэва» (1982), «Падземныя замкі» (1986), «Судны дзень Скарыны» (1990), выбраных твораў «Колас на ржышчы» (1980), «Бяздоннае» (1985), кніжкі вершаў для дзяцей «У птушынай вёсцы» (1964), аповесці «Хай расце маладая таполя» (1964). У перакладзе на рускую мову ў Ленінградзе выйшаў зборнік вершаў «Гнездо аиста» (1975), у Маскве — зборнік драматычных паэм «Листая памяти страницы» (1990).

Выдаў крытыка-літаратуразнаўчыя кнігі «Валянцін Таўлай» (1969), «Галоўная служба паэзіі» (1974), «Беларуская савецкая паэма» (1979), «Саюз часу і майстэрства» (1981), «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі» (1984), «Поэзия и война» (1987). Выступае як перакладчык з рускай, польскай, англійскай паэзіі.

**Арочка М.**

A 84 Памяць зярнятаў: Выбр.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 367 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00892-4.

Арочка Н. Память зерен. Избр.

У кнігу выбраных твораў вядомага беларускага паэта ўвайшлі вершы і паэмы «Матчына жыта» і «Курганне», якія вяртаюць нас да трывожнай памяці вайны, да тых вогненных вёсак з трагічным лёсам Хатыні, якіх так шмат на Беларусі. У паэме «Крэва» — запрашэнне да падарожжа ў эпас роднай гісторыі.

**A $\frac{4702120202—050}{М 302(03)—91}$ 105—90** **ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание*

**Арочко Николай Николаевич**

**ПАМЯТЬ ЗЕРЕН**

**Избранное**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Арочка Мікалай Мікалаевіч**

**ПАМЯЦЬ ЗЯРНЯТАЎ**

**Выбранае**

Рэдактар *С. Р. Прыгодзіч.* Мастак *А. А. Каравай.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *Л. М. Маслоўская.*

ІБ № 3669

Здадзена ў набор 26.06.90. Падп. да друку 21.12.90. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,95+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 15,19. Ул.-выд. арк. 14,93. Тыраж 1800 экз. Зак. 510. Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.